ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 9 № 9



МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1936



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 9
Верасень 1936 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул., ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару 20000, даб. 168.



# Аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б)

## *Да ўсіх арганізацый партыі*

У сувязі са сканчэннем абмену партыйных дакументаў і ў адпаведнасці з пастановай Пленума ЦК ВКП(б) ад 25 снежня 1935 года, ЦК ВКП(б) прапануе ўсім партыйным арганізацыям пачаць прыём кандыдатаў у члены партыі і перавод кандыдатаў у члены ВКП(б) з 1 лістапада 1936 года.

Аднаўляючы прыём у партыю, ЦК ВКП(б) лічыць неабходным напомніць усім партыйным арганізацыям, што справа далейшага павышэння якаснага складу радоў ВКП(б) перш за ўсё патрабуе ад іх усваення да канца ўрокаў, выцякаючых з праверкі і абмену партыйных дакументаў, галоўнымі з якіх з'яўляюцца наступныя:

а) Вядомая засмечанасць радоў партыі, як гэта паказалі праверка і абмен партыйных дакументаў, з'явілася рэзультатам забыцця многімі мясцовымі партыйнымі арганізацыямі ленінскага прынцыпа адбору новых членаў у партыю, фармуляванага ў статуце ВКП(б) і патрабуючага, каб прыём у партыю праводзіўся выключна ў **індывідуальным парадку.**

Ва многіх партыйных арганізацыях гэта важнейшае палажэнне статута партыі сістэматычна парушалася. Замест індывідуальнага адбору ў рады ВКП(б) былі агульныя, валавыя адносіны да прыёму новых членаў і кандыдатаў партыі, шырока практыкаваўся групавы прыём у партыю, заявы аб прыёме ў партыю прымаліся і разглядаліся спісамі, без персанальнага абмеркавання кожнага новапрымаемага ў ВКП(б).

Партыя патрабуе, каб гэты недахоп быў ліквідаваны без астатку.

б) Райкомы ВКП(б) усю справу рэгулявання складу членаў партыі перадавяралі пярвічным партыйным арганізацыям. Зацверджанне новых членаў ВКП(б) ва многіх райкомах партыі, як правіла, праводзілася завочна, нярэдка апытаннем, без выкліку новапрымаемых у райком, без праверкі правільнасці рэкамендацыі, без захавання асобых патрабаванняў статута партыі да розных катэгорый прымаемых.

Многія райкомы партыі настолькі адстраняліся ад справы прыёму новых членаў ВКП(б), што нават выдачу партыйных білетаў і кандыдацкіх картак перадавалі нярэдка непасрэдна пярвічным партыйным арганізацыям і зводзілі сваю ролю ў справе кіраўніцтва прыёмам новых членаў партыі да тэхнічнай функцыі снабжэння партыйных арганізацый чыстымі бланкамі партыйных білетаў і кандыдацкіх картак.

З гэтым недахопам таксама неабходна пакончыць неадкладна.

в) Пярвічныя партыйныя арганізацыі, у асаблівасці буйныя, таксама не выконвалі патрабаванняў статута партыі пры прыёме новых членаў ВКП(б). Гэта выражалася ў тым, што яны не абмяркоўвалі на партыйных сходах кандыдатур новапрымаемых у партыю, безадказна адносіліся да праверкі рэкамендацый і часта справу прыёму

новых членаў у ВКП(б) перадавяралі спецыяльным сектарам па росту партыі.

Многія кіраўнікі пярвічных партыйных арганізацый звялі ўсё кіраўніцтва прыёмам у рады ВКП(б) да ўстанаўлення колькасных заданняў па прыёму ў партыю і тым самым прынізілі гэту справу да ўзроўню бягучых кампаній.

З гэтага ясна, што многія кіраўнікі партарганізацый забылі ўказанне Леніна аб тым, што наша партыя—«адзіная ўрадавая партыя ў свеце, якая клапоціцца не аб павелічэнні ліку членаў, а аб павышэнні іх якасці».

З гэтага ясна таксама, што такія кіраўнікі забылі, што ў справе рэгулявання росту партыі неабходна было праяўляць большэвіцкую пільнасць, бо чуждыя, варожыя партыі элементы заўсёды імкнуліся ўвайсці ў рады ВКП(б) для таго, каб, прыкрываючыся званнем члена партыі, падрываць вялікую справу рабочага класа.

Усе гэтыя ўрокі неабходна ўлічыць найстражэйшым чынам пры прыёме ў партыю.

У адпаведнасці з гэтым ЦК ВКП(б) прапануе партыйным арганізацыям у рабоце па прыёму новых членаў ВКП(б) кіравацца наступнымі ўказаннямі:

1. Партыйныя арганізацыі, строга праводзячы індывідуальны прыём новых членаў ВКП(б), павінны адбіраць у партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа лепшых людзей нашай краіны, з рабочых перш за ўсё, а таксама з сялян і працоўнай інтэлігенцыі, праверанных на розных участках барацьбы за соцыялізм.

2. Прыём у кандыдаты партыі і перавод з кандыдатаў у члены партыі павінен праводзіцца як у пярвічных партыйных арганізацыях, так і ў райкомах, гаркомах партыі ў строга індывідуальным парадку, а не калектыўна і не групамі.

Кожны новаўступаючы ў партыю павінен прадставіць у партыйную арганізацыю асабіста ім напісаную заяву аб жаданні ўступіць у партыю, анкету па ўстаноўленай ЦК ВКП(б) форме, рэкамендацыі, згодна патрабаванняў статута ВКП(б), і водзывы тых арганізацый, дзе ўступаючы ў партыю працаваў, ці працуе.

Да разгляду заявы аб прыёме ў партыю пярвічныя партарганізацыі, райкомы і гаркомы ВКП(б) абавязаны правяраць прадстаўленыя ўступаючым у партыю рэкамендацыі і водзывы.

Усе гэтыя патрабаванні ў аднолькавай меры адносяцца і да членаў ВЛКСМ. Прыём у партыю таварышоў з ВЛКСМ павінен адбывацца таксама ў індывідуальным парадку.

3. У пярвічных партыйных арганізацыях абмеркаванне пытання аб прыёме ў члены і кандыдаты партыі кожнага новаўступаючага ў ВКП(б) неабходна праводзіць на агульных партыйных сходах комуністаў прадпрыемстваў, калгасаў і ўстаноў абавязкова ў прысутнасці як прымаемага ў партыю, так і асоб яго рэкамендуючых. Дакладваць на партыйных сходах аб кожным, падаўшым заяву аб уступленні ў рады ВКП(б), павінен асабіста сакратар партыйнага камітэта ці парторг пярвічнай партыйнай арганізацыі. Пры гэтым на сходах неабходна поўнасцю зачытваць анкету новаўступаючага ў члены ВКП(б) і ўсе прадстаўленыя ім рэкамендацыі.

4. Прыём у партыю ці ў кандыдаты партыі лічыцца сапраўдным толькі ў тым выпадку, калі рашэнне пярвічнай партарганізацыі аб прыёме зацверджана райкомам. Як рашэнне пярвічнай арганізацыі

аб прыёме, так і зацверджанне райкомам падобнага рашэння заносіцца ў пратакол і захоўваецца ў архіве.

5. У райкомах ВКП(б) зацверджанне новапрымаемых у партыю праводзіцца ў прысутнасці прымаемых у ВКП(б) і сакратароў адпаведных пярвічных партыйных арганізацый. Дакладвае аб прыёме ў партыю асабіста сакратар пярвічнай партарганізацыі.

* * *

Аднаўляючы прыём новых членаў у партыю, партыйныя арганізацыі абавязаны памятаць, што варожыя элементы і ў далейшым будуць спрабаваць пранікаць у рады ВКП(б). Задача кожнай партыйнай арганізацыі заключаецца ў тым, каб, усямерна павышаючы бальшэвіцкую пільнасць, высока трымаць сцяг Ленінскай партыі і гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады чуждых, варожых і выпадковых элементаў.

***ЦК ВКП(б)***

29 верасня 1936 г.

**Н. ГІКАЛО**

**Сакратар ЦК КП(б)Беларусі**

# Двурушніцтва—метад класавага ворага

У маніфесце комуністычнай партыі Маркс і Энгельс пісалі, што «комуністы лічаць лішнім утойваць свае погляды і намеры». Найглыбейшы палітычны сэнс гэтых выдатных радкоў відавочны. Так, комуністы лічаць лішнім утойваць свае намеры, па-першае, таму, што іх вучэнне заснавана на правільным разуменні законаў грамадскага развіцця—«вучэнне Маркса ўсемагутна,—пісаў Ленін,—бо яно верна»; па-другое, вучэнне комуністаў адпавядае інтарэсам найшырэйшых мас працоўных, якія складаюць пераважную большасць насельніцтва земнага шара.

Іншая справа—буржуазныя партыі. Яны вымушаны ўтойваць свае намеры, утойваць свае мэты перад шырокімі народнымі масамі. Без ашуканства, без подкупу, крывадушша, ханжаства, правакацыі, дэмагогіі буржуазія ніколі не магла-б панаваць. Свой яркі выраз гэта агідная буржуазная палітыка атрымала ў гнуснейшых дэмагагічных прыёмах фашыстаў, якія выступаюць зараз у якасці заядлых абаронцаў азвярэлай банды трацкісцка-зіноўеўскіх тэрарыстаў.

Імкненне разлажыць рабочы рух шляхам ашуканства, крывадушша, ханжаства патрабуе адпаведных кадраў людзей, якія маюць пэўныя навыкі работы ў масах. Іменна такую ролю маскаванай двурушніцкай агентуры буржуазіі ў рабочым руху выконвалі ў Расіі меншавікі, бундаўцы, эсэры, анархісты, а таксама ўсякага роду носьбіты апартуністычных хістанняў, якія пралезлі ў большэвіцкую партыю.

У час чысткі партыі ў 1921 г. Ленін пісаў: «...меншавікі, як плынь, даказалі за перыяд 1918—1921 гг. дзве свае ўласцівасці: першая—майстэрскі прыспасабляцца, «прымазвацца» да пануючай сярод рабочых плыні; другая—яшчэ больш па-майстэрску служыць верай і праўдай белагвардзейшчыне, служыць ёй на справе, адракаючыся ад яе на словах. Абедзве гэтыя ўласцівасці выцякаюць з усёй гісторыі меншавізма... Гэту асаблівасць меншавікоў трэба ведаць і трэба яе ўлічыць. А ўлічыць яе—гэта значыць ачысціць партыю прыкладна да 99 сотых усяго ліку меншавікоў, далучыўшыхся да РКП пасля 1918 г., г. зн. тады, калі перамога большэвікоў пачала станавіцца спачатку магчымай, потым бясспрэчнай.

Ачысціць партыю трэба ад мазурыкаў, ад абюракраціўшыхся, ад нячэсных, ад няцвёрдых комуністаў і ад меншавікоў, якія перафарбавалі «фасад», але засталіся ў душы меншавікамі» *).

---

*) В. І. Ленін, т. XXVII, стар. 13.

Гэтыя выдатныя словы Леніна паказваюць нам, што двурушніцтва, якое за апошнія гады стала асноўным метадам контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў у іх барацьбе супроць партыі і совецкай улады, унаследвана імі было ад такіх партый, як меншавікі, эсэры, бундаўцы і т. д. Яно (гэта двурушніцтва) падрыхтоўвалася ўсёй іх папярэдняй дзейнасцю.

Калі палітычная перамога нашай партыі і правільнасць яе лініі сталі зусім відавочны, а безнадзейнасць пазіцыі ўсіх і ўсякіх антыпартыйных груп—занадта бясспрэчна, трацкісты і зіноўеўцы, у канец збанкрутаваўшыся, страціўшы ўсякую глебу пад нагамі, але не пакідаючы сваіх надзей на рэстаўрацыю капіталізма ў СССР, канчаткова скаціліся ў балота контррэволюцыі.

Карыстаючыся метадам двурушніцтва, контррэволюцыйныя трацкісты і зіноўеўцы давялі яго да такіх дзівосных памераў, якіх яшчэ не ведала гісторыя. Макіявелізм, г. зн. палітыка, якая лічыць дазволенымі ўсе сродкі для дасягнення якой-небудзь мэты, незалежна ад якога-б там ні было маральнага крытэрыя,—вось філасофія, якую паклалі ў аснову сваёй злачыннай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскія мярзаўцы.

Контррэволюцыйны трацкісцка-зіноўеўскі тэрарыстычны цэнтр фізічна знішчан, але гэта не значыць, вядома, што ўскрыты ўсе контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія гнёзды; гэта не значыць, што праследжаны ўжо ўсе сувязі, якія ішлі ад контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра к перыферыі. Арганізатар і натхняльнік тэрарыстычнага цэнтра Троцкі прадаўжае сваю гнуснейшую белабандыцкую дзейнасць агента Гестапо. Няма ніякіх падстаў для самасупакоенасці. Большэвіцкую пільнасць патрэбна ўсямерна ўзмацніць, асабліва маючы на ўвазе, што пасля працэсу над контррэволюцыйным трацкісцка-зіноўеўскім цэнтрам вораг будзе імкнуцца да яшчэ больш старанней маскіроўкі, да яшчэ больш старанней канспірацыі.

Тым больш патрэбна асобая пільнасць нам, працуючым у Беларусі, на граніцы з капіталістычным светам, дзе ўжо пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў былі выкрыты трацкісцка-зіноўеўскія белабандыцкія элементы, контррэволюцыйная дзейнасць якіх у нас у Беларусі таксама насіла наскрозь двурушніцкі правакатарскі характар.

Следствам па справе контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра было ўстаноўлена, што іменна праз тэрыторыю Беларусі, выкарыстоўваючы прытупленне большэвіцкай пільнасці ў некаторых комуністаў і нават паасобных партыйных арганізацый, вораг ажыццяўляў свае сувязі з заграніцай. Вядома, што адзін з эмісараў Троцкага, Ольберг, расстраляны па справе контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра, падвізаўся ў Менску і меў тут, у якасці свайго саўдзельніка, аднаго з кіруючых работнікаў газеты «Звязда»—Розенблюма.

Праверка і абмен партыйных дакументаў паказалі наяўнасць пэўнай засмечанасці радоў КП(б)Б варожымі людзьмі. У час праверкі былі выкрыты трацкісцкія, эсэраўскія і нацыяналістычныя элементы, якія на працягу раду год, старанна маскуючыся, вялі контррэволюцыйную работу. Невыпадкова, што ў мінулым у Беларусі, дзе не было буйнай прамысловасці, колькі-небудзь шматлікага індустрыяльнага пролетарыята і дзе ўдзельная вага дробнай буржуазіі была параўнаўча вельмі вялікая, маглі дзейнічаць і карыстацца вялікім уплы-

вам такія дробнабуржуазныя партыі, як бунд, эсэры, меншавікі, буржуазныя нацыяналісты, здолеўшыя прасунуць з двурушніцкай мэтай многіх сваіх людзей у рады КП(б)Б. Выхадцы з гэтых партый і склалі потым асноўныя кадры трацкістаў і зіноўеўцаў, якія змагаліся супроць соцыялізма.

К канцу грамадзянскай вайны, калі вораг аказаўся разбітым ў адкрытым баі, вельмі многія з тых, хто складаў кіруючае ядро дробнабуржуазных контррэволюцыйных партый (меншавікі, эсэры, бундаўцы, буржуазныя нацыяналісты), надзяваюць маску, імкнучыся пранікнуць у рады ВКП(б) і ў совецкі апарат, каб такім чынам захаваць свае кадры і весці разлагаючую контррэволюцыйную работу знутры. Іменна ў гэтых мэтах пранікла ў КП(б)Б група эсэраў на чале з Ігнатоўскім, якая іменавала сябе «Беларускай комуністычнай арганізацыяй». Ігнатоўскі, выкрыты ў 1929 г., прызнаўся, што ён «з моманту ўступлення ў партыю вёў свядомую падвойную палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі».

Такой-жа тактыкі двурушніцтва прытрымліваліся і бундаўцы. Пранікнуўшы ў большэвіцкую партыю, гэтыя людзі на старонках друку, у брашурах, у «навуковых» работах кантрабандным шляхам усяляк спрабавалі абяліць сваё мінулае і мінулае той партыі, з якой яны вышлі.

Выхадцы з нацыянальных партый аказваліся адным з вялікіх рэзерваў, з якога трацкісты і зіноўеўцы чэрпалі свае кадры. Вынікі праверкі партыйных дакументаў паказваюць, што сярод трацкістаў і зіноўеўцаў, выключаных з КП(б)Б, амаль палова былі выхадцамі з бунда ці іншых нацыяналістычных контррэволюцыйных партый.

На працягу раду год КП(б)Б вяла барацьбу супроць замаскаваўшыхся трацкісцкіх элементаў. Многія з іх былі выкрыты і выгнаны з радоў партыі ў час абмеркавання пісьма таварыша Сталіна ў рэдакцыю журнала «Пролетарская революция». Частка іх была канчаткова выкрыта толькі ў 1932 г., пасля прамога ўказання ЦК ВКП(б) аб наяўнасці элементаў гнілога лібералізма і нават прамога патурання класаваму ворагу ў радзе партыйных арганізацый КП(б)Б.

У час чысткі партыі і асабліва ў сувязі з вывучэннем урокаў падзей, звязаных з забойствам С. М. Кірава, былі дадаткова выкрыты і выгнаны з радоў КП(б)Б замаскаваўшыяся трацкісцка-зіноўеўскія элементы. Аднак, як паказалі праверка і абмен партыйных дакументаў, і асабліва факты, устаноўленыя ўжо пасля абмену партыйных дакументаў, паасобныя трацкісцка-зіноўеўскія тэрарыстычныя элементы заставаліся нявыкрытымі аж да самага апошняга часу. Гэта сведчыць, па-першае, аб тым, што ў радзе партыйных арганізацый КП(б)Б яшчэ не навучыліся поўнасцю і да канца распазнаваць і ўскрываць двурушніцкія метады ворага і, па-другое, аб тым, што ў радзе партыйных арганізацый КП(б)Б мелі месца ратазейства, добрадушша, самасупакоенасць і прамая страта рэволюцыйнай пільнасці.

А аб тым, як вораг двурушнічае і як некаторыя комуністы ратазейнічаюць, можна бачыць на прыкладзе Дзяржвыдавецтва Беларусі. Тут трацкісцка-зіноўеўскія мярзаўцы, следуючы метадам свайго настаўніка—Іудушкі Троцкага, надзвычай майстэрскі маскаваліся. Знешне, на паказ, яны актыўна ўдзельнічалі ў грамадскай рабоце, кляліся ў вернасці лініі партыі, а на справе займаліся подлым здрадніцтвам, на справе імкнуліся з-за вугла, цішком, усюды, дзе толькі можна, падрываць вялікую справу нашай партыі.

Выкрыты трацкіст Мілоў увесь час лічыўся ў партыйнай арганізацыі ДВБ выдатным комуністам. Ён часта выступаў на сходах, «граміў» трацкістаў, «абараняў» генеральную лінію партыі, а на справе, як цяпер устаноўлена, інтэнсіўна вёў контррэволюцыйную работу.

Аб Мілове было многа сігналаў. Яго выключылі з партыі ў час праверкі партыйных дакументаў, але ён здолеў усё-ж атрымаць новы партбілет, скарыстаўшы з таго, што правяраўшыя яго людзі былі недастаткова пільны.

Факты гавораць аб тым, што класавы вораг прыбягае да новых хітрасцей, да новай, больш іскуснай маскіроўкі для таго, каб працягваць сваю барацьбу супроць соцыялізма. Рэшткі разгромленых ворагаў яшчэ жывучы. Іх нянавісць да краіны соцыялізма, іх злоба растуць. Яны гатовы знішчыць усё, што напамінае соцыялізм і соцыялістычнае будаўніцтва.

Трацкісцкія бандыты ва славу сваіх гаспадароў—фашысцкіх вырадкаў скаціліся іменна к гэтаму.

Да апошняга часу мы разглядалі трацкісцка-зіноўеўскіх мярзаўцаў, як перадавы палітычны і арганізацыйны атрад міжнароднай буржуазіі. Але цяпер гэта характарыстыка не вычэрпвае поўнасцю ўсёй агіднай фізіяноміі асатанелых трацкістаў. Яны сталі прамымі агентамі буржуазіі ў яе самых подлых, самых брудных махінацыях супроць соцыялізма, супроць рабочага класа.

На працэсе трацкісцка-зіноўеўскія бандыты прызналіся ў арганізацыі тэрарыстычных актаў супроць кіраўнікоў нашай партыі і совецкай улады. Цяпер новыя факты гавораць, што трацкісцкія бандыты не толькі замышлялі злачынныя планы забойстваў, але спрабавалі шляхам шкодніцтва знішчыць матар'яльную аснову соцыялізма, дэзарганізаваць работу соцыялістычных фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў. Факты гавораць, што трацкісцкія бандыты, якія замышлялі сумесна з Гестапо тэрарыстычныя акты супроць правадыроў совецкага народу ва славу сваіх фашысцкіх гаспадароў, займаліся шпіянажам, дыверсіяй. Гэта мяжа, гэта апошняя грань, да якой дакаціліся трацкісцкія бандыты. Гэтыя людзі заслугоўваюць толькі аднаго—самай бязлітаснай рэволюцыйнай расправы.

Разам з гэтым наш абавязак—дабіцца такога павышэння пільнасці, каб ні адна варожая рука не магла пасягнуць на нашу соцыялістычную краіну, каб ні адно злодзеянне супроць партыі і дзяржавы не магло здзяйсняцца, каб ні ў кога з нас не дрогнула рука для расправы з ворагам.

*„Правда“*

---

**Д. Валковіч**

Сакратар ЦК КП(б)Б

# Вынікі абмену партдакументаў і далейшыя задачы КП(б)Б

Выражаючы волю шматмільённага совецкага народу, караючая рука пролетарскага правасуддзя апусціла меч на галавы зладзеяў з трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра. Удзельнікі гэтай шайкі выкрыты і асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Тройчы праклятыя прадажныя агенты фашызма—Зіноўеў, Каменеў і астатняя банда расстраляны.

Увесь беларускі народ, як і народ усяго Совецкага Саюза, з вялікім задавальненнем сустрэў, успрыняў справядлівы прыгавор Ваеннай калегіі над гэтымі прадажнымі агентамі Гестапо, забіўшымі палкага пролетарскага трыбуна—таварыша Кірава і рыхтаваўшымі забойства правадыроў нашай партыі і совецкай улады.

Але было-б велізарнейшым злачынствам перад партыяй і перад усёй нашай краінай, калі-б мы лічылі, што з ворагамі ўсё ўжо закончана.

Абмен партыйных дакументаў, працэс над фашысцкай бандай, абмеркаванне пісьма ЦК ВКП(б) партыйным арганізацыям аб контррэволюцыйным трацкісцка-зіноўеўскім цэнтры паказалі нам, што ворагі яшчэ не знішчаны да апошняга карэнчыка. Яшчэ жыве галоўны кіраўнік усёй гэтай тэрарыстычнай банды, ад'яўлены вораг соцыялізма і верны пёс фашызма—Троцкі, які пасылаў у нашу краіну сваіх агентаў для правядзення тэрарыстычных актаў.

Кожнаму комуністу, кожнаму грамадзяніну Совецкага Саюза патрэбна зараз моцна памятаць словы таварыша Сталіна аб неабходнасці павышэння рэволюцыйнай пільнасці, аб тым, што рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца неад'емнай якасцю большэвіка.

Як-бы велізарны ні былі поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, трэба, як вучыць нас таварыш Сталін, не ўбаюкваць партыю, а выкоўваць у ёй пільнасць, не супакойвацца, а прыводзіць яе ў стан баявой гатоўнасці для рашучай барацьбы з ворагамі.

Мы ведаем, што ворагі ў нас не маюць глебы пад нагамі, што тут ім неадкуль чэрпаць патрэбных кадраў для сваёй дыверсійнай работы. Але разам з тым мы не павінны забываць, што яны самкнуліся з фашызмам і з-за мяжы пасылаюць агентаў у нашу краіну для падрыўной работы.

Арганізацыі КП(б)Б, правёўшы праверку і абмен партыйных дакументаў, вынесшы ўрокі з працэсу над фашысцкімі забойцамі, прапра-



цаваўшы і абмеркаваўшы апошняе пісьмо ЦК ВКП(б), яшчэ шчыльней згуртаваліся ў бязлітаснай барацьбе супроць ворагаў, набылі вялікі вопыт у іх распазнаванні.

Праверка і абмен партыйных дакументаў, ачышчэнне радоў партыі ад трацкісцка-зіноўеўскіх, шпіёнскіх і іншых класава-чуждых элементаў дапамаглі ўзняць партыйную і арганізацыйную работу на больш высокую ступень, наладзіць партыйную гаспадарку, павысіць рэвалюцыйную пільнасць на аснове далейшага разгортвання бальшэвіцкай самакрытыкі.

Але ўсё гэта не можа нас ні ў якой меры супакоіць. Паасобныя арганізацыі КП(б)Б не перабудавалі яшчэ сваю работу адпаведным чынам, не ўзнялі пільнасць, не вынеслі ўрокаў з падзей, звязаных з контррэволюцыйнай дзейнасцю класавых ворагаў.

У часе праверкі партдакументаў у менскай арганізацыі выкрыта і выключана значная колькасць класава-варожых элементаў. Але работа гэта ў радзе пярвічных партарганізацый праводзіцца на вельмі нізкім палітычным узроўні, і ў выніку былі дапушчаны буйныя памылкі.

У рэзалюцыі пярвічнай партарганізацыі завода імя Молатава было запісана: «У выніку абмену партдакументаў партарганізацыя вызвалілася ад падонкаў контррэволюцыйнага трацкізма». Калі выносілася гэта рэзалюцыя, з партарганізацыі завода былі выключаны толькі 4 трацкісты. Аднак праз некаторы час было выяўлена і выключана яшчэ 11 яўных трацкістаў. Значыць, менскі гарком і варашылаўскі райком партыі не забяспечылі ў паасобных партарганізацыях патрэбнай вострасці пры абмеркаванні вынікаў абмену партдакументаў.

Пацвярджаецца гэта таксама і на справе трацкіста Розенблюма, выкрытага ў рэдакцыі газеты «Звязда». Сталінскі райком і менскі гарком партыі пасля арышту контррэволюцыянера Розенблюма не правялі глыбокай работы па вывучэнню асабовага складу партарганізацыі «Звязды», не падумалі аб тым, каб праверыць, якую сувязь меў той ці іншы член партыі з трацкістам Розенблюмам, і чаму вораг так доўга не быў выкрыты. Калі таварыш Гікало асабіста заняўся гэтым пытаннем, то ўдалося выявіць вялікую засмечанасць рэдакцыі трацкісцкімі элементамі. Тады былі выяўлены і выключаны з партыі Цыпкін, Коган і іншыя ад'яўленыя ворагі. Бюро ЦК па справе «Звязды» у свой час указала, што буйнейшым недахопам у рабоце менскага гаркома і сталінскага райкома КП(б)Б з'яўляецца недастатковая сувязь і кіраўніцтва пярвічнымі партарганізацыямі.

Яшчэ выразней выяўляецца гэта на справе Белдзяржвыдавецтва. Пачынаючы з 1924 года, на кіруючую работу ў апарат ДВБ праніклі ад'яўленыя ворагі партыі. Даволі сказаць, што выдавецтвам доўгі час кіравалі нацдэмы Мароз, Жылуновіч, Некрашэвіч і трацкіст Браўковіч. На працягу раду год туды сцякаліся нацдэмаўскія, трацкісцкія элементы і пад крыльцам паасобных комуністаў праводзілі сваю контррэволюцыйную работу.

Яшчэ да праверкі партыйных дакументаў Браўковіч быў выкрыт партарганізацыяй апарата ЦК і зняты з работы, бо выявілася, што ў 1923 г. ён быў у трацкісцкай апазіцыі. Як відаць з уласных паказанняў Браўковіча, ён мае цэлы рад іншых контррэволюцыйных «заслуг». У бальшэвіцкай партыі ён лічыўся з 1917 г., тым часам як на самай справе яшчэ ў старой арміі ўступіў у эсэраўскую партыю, у 1911-12 гг. служыў у магілеўскай турэмнай інспекцыі, а пры нямецкай акупацыі—

у паліцыі. Актыўна выступаў супроць окцябрскага перавароту і совецкай улады. У 1923 г. быў у трацкісцкай апазіцыі, ездзіў па ячэйках і арганізоўваў барацьбу супроць большэвіцкай партыі. У 1926 г. цесна звязаўся з кіраўнікамі нацдэмаў Полацкай акругі і быў блізкі да арганізацыі «СВБ». У 1932 г., будучы старшынёй магілеўскага горсовета, наўмысна прымяняў пры правядзенні сельскагаспадарчых кампаній рэпрэсіўныя меры да сялян, каб справакаваць нездаволенасць совецкай уладай і т. п.

Браўковіч сам заяўляе, што ён свядома працаваў на падрыў нашай партыі і совецкай улады.

У Белдзяржвыдавецтве знашоў сабе прытулак і контррэволюцыянер Мілоў. Загадваў ён ваенным сектарам. У мінулым—гэта актыўны сапронавец, у арміі быў ярым прыхільнікам Троцкага, праводзіў актыўную контррэволюцыйную работу.

У апошні час у ДВБ выяўлены Жукаў, Фразумоўскі, Рыўкін і цэлы рад іншых заядлых трацкістаў. Карыстаючыся прытупленнем рэволюцыйнай пільнасці ў партыйнай арганізацыі, гэтым ворагам удалося надрукаваць не малую колькасць літаратуры з яўна контррэволюцыйным зместам. Уся гэта «прадукцыя» абышлася дзяржаве агульным коштам больш 5 мільёнаў рублёў і была здана ў макулатуру.

У друкарні імя Сталіна звілі сабе гняздо асобы, раней выключаныя з партыі за трацкізм. Акрамя таго, былі тут трацкісты, якія да апошняга часу шляхам ашуканства здолелі ўтрымацца ў партыі, каб праводзіць контррэволюцыйную работу. Партыйная арганізацыя не лічыла патрэбным пацікавіцца, што робяць гэтыя людзі ў друкарні.

Партыйныя арганізацыі ні ў якім разе не павінны забываць, што выключаныя з партыі ворагі стараюцца праводзіць сваю шкодніцкую падрыўную работу ўсюды і асабліва сярод недастаткова свядомых рабочых. Яны стараюцца ўзвесці паклёпы на совецкую ўладу, пісаць у ЦК пісьмы нібы ад імя рабочых і т. д. На такіх адказных участках ідэалагічнага фронту, як выдавецтвы, друкарні і т. п. мы павінны мець сапраўды правераных людзей, бо там выдаюць і друкуюць падручнікі, газеты і ўсякую іншую літаратуру, па якой вучыцца наша моладзь, якую чытаюць шырокія масы горада і вёскі. На гэтыя ўчасткі мы павінны будзем у далейшым звярнуць самую сур'ёзную ўвагу, каб знішчыць усякую магчымасць пранікнення туды ворагаў.

Не лепш пастаўлена была справа і на многіх іншых участках ідэалагічнага фронту. У Вышэйшай комуністычнай сельскагаспадарчай школе сядзеў рэктарам Каўлін, які скрыў ад партыйнай арганізацыі сваю прыналежнасць да трацкізма. У якасці выкладчыкаў гісторыі партыі і іншых прадметаў ён запрасіў цэлы рад трацкісцкіх, класава-чуждых элементаў, у свой час выключаных з радоў партыі.

У Інстытуце народнай гаспадаркі нядаўна выкрыта група контррэволюцыянераў, якая імкнулася праводзіць сваю работу сярод студэнцтва, спрабавала абараняць выключанага з партыі чужака Гурло.

Усё гэта азначае, што менскі гарком і райкомы партыі недастаткова займаліся работай пярвічных арганізацый і не ведаюць як след людзей.

У віцебскім чыгуначным дэпо доўгі час арудавала контррэволюцыйная, тэрарыстычная група. У выніку палітычнай слепаты і страты рэволюцыйнай пільнасці партыйнай арганізацыяй дэпо сталі магчымымі такія факты, што на кіруючую работу вылучаліся раней выключаныя з партыі трацкісты (Гуменкоў, Шпакоў, Альшэўскі, Пузенкоў

і інш.), ды ў дадатак гэтыя яўныя ворагі партыі былі ўзнагароджаны значком ударніка напярэдадні іх выкрыцця.

Сакратар парткома віцебскага дэпо Касой аказаўся зусім няздольным кіраваць работай партарганізацыі. Ён заціскаў самакрытыку і дапусціў прамую траўлю членаў партыі Тарасенка, рабочага-стаханаўца Аўсяевіча і іншых, якія своечасова сігналізавалі аб ворагах.

Начальнік палітаддзела Віцебскага вузла тав. Васількоўскі дапусціў грубую памылку тым, што ў час праверкі і падрыхтоўкі да абмену партыйных дакументаў не звярнуў ніякай увагі на сігналы аб ненармальным становішчы ў дэпо, не выкрыў падрыўную работу контррэвалюцыйнай групы.

Віцебскі гарком не дагледзеў таксама, што ў Віцебскім ветінстытуце праводзіў контррэволюцыйную работу вядомы трацкіст, які арганізаваў нават групу з 15 чалавек. Віцебская партарганізацыя своечасова не выкрыла ўсіх гэтых ворагаў партыі.

У гомельскай партарганізацыі ў працэсе абмену партдакументаў было выключана 88 чалавек, з іх трацкістаў усяго 4. Тым часам пасля абмену было выкрыта яшчэ 27 трацкістаў. Асабліва вялікая засмечанасць трацкістамі была на камбінаце імя Гікало.

Па ўсіх партыйных арганізацыях пасля выдачы новых партдакументаў выключылі з партыі значную колькасць двурушнікаў-контррэволюцыянераў.

Хіба можна пасля гэтага сказаць, што наша пільнасць знаходзіцца на належнай вышыні? Гэтага сказаць нельга. Усякая спроба падмяніць сапраўдную пільнасць размовамі і рэзалюцыямі, а на справе недабачыць ворага, была-б прамым злачынствам супроць партыі.

Тав. Гікало на апошнім сходзе менскага partактыва сказаў, што пільнасць нельга адрываць ад сапраўднага вывучэння людзей на кожным участку.

* * *

Праверка і абмен партыйных дакументаў праведзены партыяй для таго, каб ачысціць свае рады ад класава-чуждых, варожых, контррэволюцыйных, разлажыўшыхся элементаў, прывесці ў парадак партыйную гаспадарку, ажыццявіць асноўны лозунг таварыша Сталіна на XVII з'ездзе,—узняць арганізацыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва. У выніку гэтага важнейшага мерапрыемства мы даволі высока ўзнялі арганізацыйна-партыйную работу, прывялі ў парадак сваю партыйную гаспадарку. Калі мы цяпер гэты парадак не парушым і замацуем яго, то даб'емся далейшых поспехаў ва ўсёй нашай рабоце.

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі сказаў, што цэнтральнай і галоўнай задачай партыйных кіраўнікоў з'яўляецца ажыццяўленне кіраўніцтва членамі партыі і праз усю масу членаў партыі—мільёнамі рабочых і сялян. Член партыі павінен стаяць у цэнтры ўвагі партыйнай арганізацыі.

Перабудова партыйнага апарата, пачатая XVII з'ездам нашай партыі, мела мэтай вырашэнне такіх задач, як ліквідацыя функцыяналкі, рэарганізацыя агульназаводскіх і цэхавых партарганізацый, вылучэнне гарадскіх раёнаў у Гомелі, Віцебску, Менску і Магілеве, стварэнне акруг, як арганізацый, закліканых кіраваць, галоўным чынам, пагранічнымі раёнамі, ліквідацыя бюро ў маламлікіх арганізацыях і аб'яднанне адзіночак у тэрытарыяльныя партыйныя арганізацыі. Мэта ўсіх гэтых мерапрыемстваў—палепшыць работу з членамі партыі.

Агромны вопыт мы ўжо накапілі ў сэнсе вывучэння людзей шляхам асабістых гутарак з кожным комуністам. Але сёй-той пачынае ўжо гэты каштоўнейшы капітал растрачваць, адносіцца з халадком да работы, менш наглядае за тымі членамі і кандыдатамі партыі, якім патрэбна дапамога. Неабходна своечасова папярэдзіць такіх таварышоў, што партыя нікому не дазволіць аслабіць работу з комуністам.

Сакратары гаркомаў і райкомаў павінны цалкам захаваць той стыль работы, якога мы дасягнулі ў час праверкі і абмену партдакументаў. Метад цеснай сувязі з комуністамі павінен стаць сістэмай нашай работы, і сістэму гэту трэба ўвесь час умацоўваць.

У пытанні партыйнай прапаганды мы пайшлі значна ўперад. Амаль усе комуністы ахоплены партыйнымі школамі, узнялася дысцыпліна, аднак якасць вучобы далёка яшчэ недастатковая. Вінаваты ў гэтым гаркомы і райкомы, бо як след не падабралі прапагандысцкія кадры, не дагледзелі, што сюды таксама імкнуліся пранікнуць чуждыя элементы, каб неўзаметку пратаскваць чуждыя партыі, контррэволюцыйныя настроі.

Партыйныя арганізацыі павінны зрабіць з гэтага самы сур'ёзны вывад. Па-першае, устанавіць, як правіла, што вучобай прапагандыстаў кіруе сам сакратар райкома ці акругкома партыі. Ён павінен пільна сачыць за павышэннем кваліфікацыі кожнага прапагандыста паасобку, вывучаць яго, каб ведаць, каму і ў чым патрэбна дапамога. Партвучобе трэба ўдзяліць сур'ёзную ўвагу, інакш размовы аб павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў, аб засваенні тэорыі Маркса—Леніна—Сталіна будуць пустым гукам.

У першую галаву трэба наладзіць сур'ёзную работу з тымі людзьмі, якія вучаць комуністаў. Гэта—асноўная справа. Па-другое, прапагандысцкія кадры трэба стабілізаваць. Неабходна пакончыць з вялікай цякучасцю і перакідваннем прапагандыстаў з аднаго месца на другое, памятаючы, што падрыхтоўка і выхаванне кадраў для такой справы як прапаганда, патрабуе значных затрат часу і энергіі, таму кідацца такім чалавекам зусім немэтазгодна.

* * *

Партыйная работа патрабуе да сябе асаблівай любві і адданасці. Роўнадушныя, фармальныя, абыякавыя адносіны губяць нават самую жывую, творчую справу. Партыйнае-ж жыццё настолькі разнастайна і багата, такое жывое і цікавае, што не церпіць ні малейшага халадку ў рабоце.

Партыйная работа патрабуе высокай свядомасці, прынцыповасці, ідэйнасці, непрымірымасці, новай, соцыялістычнай культуры. Гэтыя якасці заваёўваюцца вучобай, упартай і настойлівай работай над собою.

Калі мы па-баявому паставім партыйную работу, то здолеем узняць рэволюцыйную пільнасць не толькі усіх комуністаў, але і беспартыйных работнікаў. Тым самым будзе выключана ўсякая магчымасць пранікнення ў рады партыі і ў совецкі апарат контррэволюцыйных элементаў для падрыўной работы.

Нажаль, не ўсе партыйныя арганізацыі як след зразумелі сутнасць праяўлення сапраўднай большэвіцкай пільнасці у адносінах ворагаў партыі. Некаторыя з партыйных работнікаў пры выключэнні комуні-

стаў з партыі не заўсёды правільна падыходзілі да разбору справы і лічылі за лепшае самазастрахавацца. Аб гэтым сведчыць вялікая колькасць адноўленых у партыі па апеляцыях, паступіўшых пасля праверкі партыйных дакументаў. Па КП(б)Б на 15 верасня было падана выключанымі пры праверцы партдакументаў 1.439 апеляцый. З іх адноўлена ў партыі, пераведзена ў кандыдаты і спачуваючыя 465 чалавек, г. зн. прыкладна ⅓ з усіх разгледжаных апеляцый. Гэта гаворыць аб тым, што кіраўнікі партарганізацый не заўсёды ўважліва падыходзілі да разгляду матар'ялаў і часта неабгрунтавана выключалі людзей з партыі. Асаблівая няўважлівасць і самастрахоўка дапушчана рэчыцкай партарганізацыяй, па якой адноўлена ў партыі 13 чалавек з 20 падаўшых апеляцыі. Тое-ж самае наглядаецца ў добрушскай, бешанковіцкай і некаторых іншых партарганізацыях.

У апошні час, у сувязі з прапрацоўкаю пісьма ЦК ВКП(б) і матар'ялаў працэсу над трацкісцка-зіноўеўскай зграяй на адным з партыйных сходаў у Наркаммясцпроме выключылі 7 чалавек, што складае 20 проц. усёй арганізацыі. Падобныя выпадкі мелі месца і ў радзе іншых партарганізацый.

Самастрахоўка гаворыць аб адсутнасці сапраўднай большэвіцкай пільнасці і з'яўляецца шкоднай, недапушчальнай справай. Большэвіцкая рэволюцыйная пільнасць патрабуе самай глыбокай і ўважлівай праверкі ўсіх паступаючых сігналаў і матар'ялаў, каб выявіць сапраўдных ворагаў партыі і совецкай улады, а не займацца самастрахоўкай.

Партыйным работнікам неабходна ўлічыць, што класавы вораг, каб адвесці ад сябе ўвагу комуністаў, імкнецца ўзвесці паклёп на чэсных і адданых партыі людзей, падае на іх заявы з хлуслівымі абвінавачваннямі і т. п. У такіх выпадках трэба асабліва ўважліва і дэталёва праверыць усе матар'ялы, каб не дапусціць няправільнага выключэння з партыі адданых комуністаў і не пакінуць у яе радах яўных ворагаў.

З самастрахоўкай і перагібамі неабходна весці рашучую барацьбу, каб канчаткова ліквідаваць гэту нездаровую з'яву ў нашай партыйнай рабоце.

* * *

За час праверкі партдакументаў замест выключаных з партыі і знятых з работы па КП(б)Б вылучана даволі вялікая група нававыяўленых кадраў. Усяго вылучана на адказную партыйную работу—у апараты КП(б)Б, гаркома і райкома—438 чалавек, не лічачы 700 чалавек, вылучаных на работу ў парткомах і парторгаў. Акрамя таго мы маем 615 сакратароў парткомаў і 2.181 парторга. Усяго разам у нас налічваецца каля 4.000 партыйных работнікаў. Над выхаваннем гэтай вялікай арміі правераных людзей прыдзецца вельмі сур'ёзна папрацаваць. Сакратары райкомаў і члены бюро ЦК, якія прымалі непасрэдны ўдзел у праверцы і абмене партдакументаў, павінны перадаць ім увесь вопыт сваёй работы, навучыць працаваць.

«Правда» на сваіх старонках высунула лозунг: «Сакратару—сярэднюю асвету». Некаторыя таварышы зразумелі гэты лозунг так, што сакратару прыдзецца пайсці ў сямігодку. Ясна, што яны памыляюцца. Працуючы над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, сакратары разам з тым павінны ўзнімаць і сваю агульную асвету. Праўда, у гэтай справе ЦК павінен аказаць вялікую дапамогу, але і самі сакратары павінны ўзяцца за вучобу з уласціваю большэвікам энергіяй і сур'ёз-

насцю. Для работы над сабой мы маем цяпер неабмежаваныя магчымасці. Трэба толькі паставіць гэту справу цвёрда, у парадку партыйнай дысцыпліны, тады лозунг ЦО партыі «Сакратару—сярэднюю асвету» будзе бясспрэчна ператворан у рэчаіснасць.

Побач з стабілізацыяй наяўных парткадраў, неабходна вылучыць рэзерв для падрыхтоўкі новых кадраў партыйных работнікаў. Некаторыя партарганізацыі ўжо склалі спісы людзей, вылучаных у рэзерв, аднак работы з імі не вядуць. Пара нарэшце зразумець, што без глыбокай сістэматычнай работы з вылучанымі ў рэзерв камуністамі райкомы, гаркомы і пярвічныя партарганізацыі не здолеюць выканаць пастанову ЦК аб вырошчванні і вылучэнні новых, добра падрыхтаваных, бальшэвіцкі вытрыманых і дысцыплінаваных партыйных кадраў.

Галоўная ўвага павінна быць удзелена падбору і выхаванню сакратароў парткомаў і парторгаў, бо мы стаім перад вельмі сур'ёзнай задачай—новым прыёмам у партыю. Роля пярвічнай партыйнай арганізацыі ў гэтай справе надзвычайна вялікая—яна з'яўляецца першай інстанцыяй па прыёму ў партыю.

Прыём у партыю, як гэта ўказана ў апублікаваным ЦК ВКП(б) пісьме, аднаўляецца з 1 лістапада. Аднак трэба памятаць указанні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), што дазвол на аднаўленне прыёму ў партыю могуць і не атрымаць паасобныя партарганізацыі, «якія па агульнаму свайму стану і ўзроўню ўсёй іх работы яшчэ недастаткова падрыхтаваны да таго, каб па-бальшэвіцку ажыццявіць справу прыёму новых членаў партыі, іх выхавання і скарыстання».

Гэта ўказанне пленума абавязвае кожную партыйную арганізацыю дабіцца ўздыму ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы да ўзроўню запатрабаванняў партыі, каб атрымаць права на аднаўленне ў сябе прыёму ў партыю.

Аднаўляючы прыём у партыю, усе партыйныя арганізацыі павінны да канца ўлічыць урокі праверкі і абмену партыйных дакументаў, каб не дапусціць паўтарэння агульнага падыходу пры прыёме, што стварыла ў мінулым спрыяючыя ўмовы для пранікнення ў нашы рады яўных ворагаў партыі і пралетарыята.

ЦК ВКП(б) у сваім пісьме аб аднаўленні прыёму ў партыю з выключнай сілай падкрэслівае:

> «Партыйныя арганізацыі, строга праводзячы індывідуальны прыём новых членаў ВКП(б), павінны адбіраць у партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа лепшых людзей нашай краіны, з рабочых перш за ўсё, а таксама з сялян і працоўнай інтэлігенцыі, правераных на розных участках барацьбы за сацыялізм».

Званне члена ВКП(б)—гэта вельмі высокае, ганаровае і адказнае званне. Няма нічога вышэй, як гонар належаць да партыі Леніна—Сталіна. Таму ў рады партыі патрэбна прымаць людзей, якія сваёй барацьбой за сацыялізм, за справу камуністычнай партыі даказалі, што яны заслугоўваюць насіць гэтае высокае і пачэснае званне.

Партыйныя арганізацыі, прыступаючы да новага прыёму, павінны змагацца за далейшае паляпшэнне якаснага складу нашай партыі. Іх задача—глыбока вывучаць і правяраць людзей, якія будуць прымацца ў рады вялікай сям'і ленінска-сталінскай партыі. Уся работа па арганізацыі прыёму павінна быць пастаўлена так, каб класава-варожыя

контррэволюцыйныя элементы не мелі аніякай магчымасці пранікнуць у рады нашай партыі.

«Аднаўляючы прыём новых членаў у партыю, партыйныя арганізацыі абавязаны памятаць, што варожыя элементы і ў далейшым будуць спрабаваць пранікаць у рады ВКП(б). Задача кожнай партыйнай арганізацыі заключаецца ў тым, каб, усямерна павышаючы большэвіцкую пільнасць, высока трымаць сцяг Ленінскай партыі і гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады чуждых, варожых і выпадковых элементаў» (з пісьма ЦК ВКП(б)).

Партыйныя арганізацыі павінны рашуча ўзмацніць ідэйна-палітычную работу сярод беспартыйнага актыва і бліжэйшага рэзерву партыі—спачуваючых і комсамола. У самым пачатку трэба рашуча пакончыць з малейшымі спробамі агульнага, валавога прыёму ў партыю, ні ў якім разе не перадаваць прыём новых членаў і кандыдатаў партыі другарадным асобам і работнікам партыйнага апарата. Сакратары гаркомаў, райкомаў, парткомаў і парторгі абавязаны асабіста вывучаць рэзерв, з якога будуць папаўняцца рады партыі, каб забяспечыць прыём у партыю, сапраўды дастойных яе людзей.

Падрыхтоўка і арганізацыя прыёму ў партыю абавязвае паставіць работу з бліжэйшым рэзервам—спачуваючымі і комсамолам—на сапраўды большэвіцкія рэйкі.

У рашэннях снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і ў дакладзе тав. Ежова вельмі ясна і чотка была вызначана тая практычная работа, якую павінны праводзіць партыйныя арганізацыі па падрыхтоўцы спачуваючых да прыёму ў партыю. Аднак, гэта работа ў радзе партарганізацый пастаўлена усё яшчэ нездавальняюча. Асабліва кідаецца ў вочы слабы рост спачуваючых. Праўда, па ўсёй КП(б)Б колькасць спачуваючых вырасла, але гэты рост падае галоўным чынам на апошнія месяцы, калі пачаўся абмен партыйных дакументаў. Так, на 1 студзеня мы мелі 5.034, а на 1 ліпеня 7.056 спачуваючых. Прычым у 1 квартале было прынята толькі 200 чалавек, а ўсе астатнія—у час абмену партыйных дакументаў.

У паасобных партарганізацыях крывая росту спачуваючых пашла на зніжэнне. Так, у Менску на 1 студзеня 1936 г. было 865 спачуваючых, а на 1 ліпеня 843; у Гомелі з 525 стала 490 і т. д. Вельмі многа арганізацый, нават гарадскіх, дзе колькасць спачуваючых не павялічваецца, а змяншаецца.

Рост новых груп спачуваючых за апошні час заўважаецца галоўным чынам у соўгасах, МТС і калгасах. У калгасах было 42 групы спачуваючых, а цяпер 60. Усяго за поўгода прынята толькі 251 чалавек па калгасах і 151 па МТС. Гэта вельмі нязначная колькасць. Тым часам на вёсцы мы маем ордэнаносцаў, маем стаханаўцаў, якія даюць нябачаныя рэкорды выпрацоўкі на трактары, камбайне, ільнацерабілцы. А мы іх не ўцягваем у групу спачуваючых, не ахапляем сваёй работай.

Слабы рост спачуваючых тлумачыцца ў асноўным слабой работай сярод беспартыйнага актыва. Але былі выпадкі, калі рост спачуваючых затрымліваўся штучна. Мазырскі і клімавіцкі райкомы затрымлівалі зацверджанне спачуваючых. Так, пярвічная партарганізацыя ў 1935 г. прыняла ў спачуваючыя тав. Пашкевіча, але райком не зацвердзіў яго і да гэтага часу. З 27 спачуваючых па Клімавіцкаму раёну зацверджана толькі 2.

Ёсць выпадкі скажэння статута партыі пры прыёме ў спачуваючыя. Так, на фабрыцы імя Крупскай растлумачылі, што ў спачуваючыя прымаюцца толькі тыя рабочыя, якія маюць не менш 10 год вытворчага стажу. Заявы аб прыёме ў спачуваючыя падалі многія рабочыя, але не былі прыняты з-за гэтага недарэчнага тлумачэння. На фабрыцы працуе 368 стаханаўцаў, а спачуваючых толькі 15 чалавек.

Рады спачуваючых таксама аказаліся засмечанымі класава-чуждымі людзьмі, трацкістамі. У Гомельскім раёне з радоў спачуваючых выключылі 61 чалавека. У Мазырскай акрузе выключылі з радоў спачуваючых Фарбмана, Раманенку і інш. класава-варожыя элементы. Гэтыя факты паказваюць, што класава-чуждыя і контррэволюцыйныя элементы пры адсутнасці рэволюцыйнай пільнасці пранікаюць і ў рады спачуваючых.

Аднак ёсць у нас і станоўчы вопыт работы. Слуцкая акруга пасля рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) праверыла, як пастаўлена работа са спачуваючымі, і правяла рад арганізацыйных мерапрыемстваў. У выніку колькасць спачуваючых у акрузе вырасла да 370 чалавек. Гэта ў той час, як па ўсёй КП(б)Б рост колькасці спачуваючых дасягае 2.000. У Оршы праробле таксама значная работа са спачуваючымі.

Нядрэнна наладжана справа і ў Полацкай акрузе. Але тут ёсць факты і адмоўнага парадку. Асвейскі райком ніякай работы не вядзе са спачуваючымі, якія знаходзяцца на вёсках. Яны нават не ахоплены партыйнай вучобай, не прымацаваны да гурткоў.

Ветрынскі раён, хоць і мае станоўчы вопыт работы са спачуваючымі, але не пры ўсіх пярвічных партарганізацыях арганізаваны гурткі спачуваючых.

У Менску ёсць факты прамога парушэння статута партыі, страты ўсякай пільнасці. У Акадэміі Навук прынялі ў спачуваючыя нейкага Авербаха, нібыта выхадца з компартыі Польшчы. Да абмену партыйных дакументаў ён лічыўся членам партыі, але пры абмене быў выключан, як нічым не пацвердзіўшы сваю прыналежнасць да партыі. Не гледзячы на гэта, партарганізацыя без усякага абмеркавання і рашэння залічыла яго ў спачуваючыя. Проста—уключылі чалавека ў спіс. Такім-жа парадкам прынялі і нейкага Зайцава, выключанага з комсамола на Каўказе. А за што ён выключан—ніхто не ведае і не цікавіцца.

Такім чынам мы бачым, што ў нас сям-там спрабуюць парушыць статут партыі, прымаючы ў спачуваючыя неправераных, чуждых нам людзей, у той час як перадавыя людзі—стаханаўцы, актыўныя ўдзельнікі соцыялістычнага будаўніцтва, сваёй работай даказаўшыя аддансць справе соцыялізма,—не ўцягваюцца ў рады спачуваючых. Гэта ненармальная з'ява і з ёю трэба пакончыць.

Кіраўніцтва комсамолам у некаторых партыйных арганізацыях пастаўлена не кепска. У парадку падрыхтоўкі да X з'езда комсамола праведзен быў партыйны дзень, прысвечаны рабоце комсамола, пасля X з'езда вывучылі рашэнні з'езда ў партыйных школах і т. д. Сямтам даволі сур'ёзна займаюцца вучобай комсамола, дапамагаюць яму. Аршанская, слуцкая, старобінская, чырвонаслабодская і віцебская партарганізацыі нядрэнна працуюць з комсамолам і маюць даволі значны рост комсамольцаў.

Але ўзораў добрай работы яшчэ мала. Работа з комсамолам вядзецца несістэматычна, ад выпадку да выпадку. Тым часам комсамол з'яўляецца сур'ёзнейшым рэзервам, з якога партыя будзе чэр-

пацць новае папаўненне. Там многа выдатных людзей, якіх мы павінны будзем уцягнуць у нашу партыю.

Усе недахопы ў рабоце са спачуваючымі і комсамолам павінны быць ліквідаваны ў бліжэйшы час. Без сур'ёзнай штодзеннай работы з гэтым рэзервам партыйныя арганізацыі не могуць лічыць сябе падрыхтаванымі да новага прыёму ў партыю.

* * *

Кожная партарганізацыя, кожны комуніст павінны цвёрда памятаць, што Ленін і Сталін заўсёды вучылі нас **ні ў малейшай меры не адрывацца ад мас, быць заўсёды з масамі, узначальваць масы ў іх барацьбе за далейшыя перамогі соцыялізма, быць для іх прыкладам рэволюцыйнай героікі. «Вучыць масы і вучыцца ў мас»—асноўны лозунг нашай партыі.** Таварыш Сталін на 1 з'ездзе калгаснікаў гаварыў: **«Не трэба забываць, што партыйныя не падаюць з неба. Трэба памятаць, што ўсе партыйныя самі былі некалі беспартыйнымі»...**

У аснове работы нашых партарганізацый павінна ляжаць выхаванне і вырошчванне беспартыйнага актыва для свядомага ўдзелу ў барацьбе за перамогу соцыялізма.

Само сабою зразумела, што мы не зможам вырашыць усіх пастаўленых перад намі велізарных задач, калі не будзем акружаць сябе беспартыйным актывам, не будзем узначальваць той агромны ўздым мас, які наглядаецца зараз на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Наша пролетарская рэволюцыя робіць цуды. Перарабляецца свядомасць людзей. З гушчы народнай, з беспартыйных грамадзян, вырастаюць выдатнейшыя людзі, соцыялістычна свядомыя, да канца адданыя сваёй радзіме, справе рабочага класа, барацьбе за соцыялізм. Гэтых людзей таварыш Сталін назваў «непартыйнымі большэвікамі».

І сапраўды, колькі прыкладаў гераізму праяўляецца на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Сярод 11 чалавек—Герояў Совецкага Саюза—членаў партыі была меншасць. Партыя прыняла іх у свае рады, бо яны заваявалі гэта права. Соцыялістычная сельская гаспадарка нашай рэспублікі мае 80 ордэнаносцаў, да канца адданых справе партыі. Палітычная і масавая работа з гэтымі людзьмі, уцягненне іх у спачуваючыя—адна з асноўных задач падрыхтоўкі да новага прыёму ў партыю.

Улічваючы вопыт праверкі і абмену партдакументаў, выносячы ўрокі з контррэволюцыйнай дзейнасці фашысцкіх наёмных забойцаў, мы павінны як ніколі высока ўзняць палітмасавую работу, згуртаваць вакол сябе беспартыйны актыў. Сярод членаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых мы абавязаны выхаваць навыкі чэснасці, праўдзівасці, дысцыплінаванасці перад партыяй. Наша партыя—адзіная кіруючая партыя ў нашай соцыялістычнай краіне. Вось чаму ўсякае злачынства перад партыяй ёсць злачынства перад народам усёй краіны. Іменна ў такім духу мы і павінны выхаваць кожнага члена партыі.

Як-бы вялікі ні былі нашы перамогі, мы ніколі не павінны забываць, што ўперадзе яшчэ шмат труднасцей, што трэба яшчэ вырашыць агромныя задачы. Усю гэту гіганцкую работу нельга правабіць без высокага ўзроўню рэволюцыйнай пільнасці, без перадавой ролі кожнага члена партыі ва ўсіх справах, ва ўсіх арганізацыях.

Наша КП(б)Б значна вырасла і ўмацавалася, набыўшы велізарны вопыт у працэсе праверкі і абмену партыйных дакументаў. У выніку гэтай работы яна яшчэ больш згуртавалася вакол ЦК ВКП(б), вакол правадыра народаў—таварыша **Сталіна.**

# Аберагаць чыстату радоў партыі Леніна—Сталіна

Пад геніяльным кіраўніцтвам сваіх правадыроў і арганізатараў—Леніна і Сталіна—наша вялікая комуністычная партыя, як перадавы, авангардны атрад пролетарыята, арганізавала і павяла рабочы клас на барацьбу з капіталізмам, за перамогу Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі. Пад яе кіраўніцтвам пролетарыят і працоўныя нашай краіны атрымалі перамогу ў грамадзянскай вайне над усімі ўнутранымі і знешнімі контррэволюцыйнымі бандамі, якія, пры непасрэдным падтрыманні сусветнай контррэволюцыі і імперыялізма, узброенай сілай хацелі задушыць маладую совецкую рэспубліку. Гэта яна, партыя большэвікоў, пад кіраўніцтвам сваіх правадыроў, разграміла ўсіх ворагаў пролетарыята і соцыялізма, якія імкнуліся звярнуць партыю з правільнага ленінскага шляху, і арганізавала перамогу соцыялізма ў нашай краіне. Пад кіраўніцтвам вернага паслядоўца Леніна—вялікага і геніяльнага Сталіна—партыя большэвікоў забяспечыла сусветна-гістарычныя перамогі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва іператварэнне Расіі нэпаўскай у Расію соцыялістычную.

Наша партыя, як арганізаваны авангард пролетарыята, здолела атрымаць гэтыя велізарныя перамогі ў непрымірымай барацьбе з усімі апазіцыйнымі ўхіламі і апартуністычна-контррэволюцыйнымі групоўкамі ўнутры партыі, якія імкнуліся аслабіць адзінства і маналітнасць радоў партыі, засмеціць яе класава-чуждымі і няўстойлівымі элементамі. Усе прошукі контррэволюцыйнага трацкізма, правых апартуністаў і права-«лявацкага» блоку атрымалі знішчальны ўдар. Таварыш Сталін выкрыў іх контррэволюцыйнае нутро і імкненні, адстаяў вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна наша партыя забяспечыла ператварэнне ў рэчаіснасць вучэння Леніна і арганізавала перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Гэтыя агромныя сусветна-гістарычныя перамогі наша партыя атрымала ў безупыннай барацьбе за чыстату сваіх радоў, за ачыстку партыі ад усіх прымазаўшыхся, апартуністычных, няўстойлівых, класава-чуждых і контррэволюцыйных элементаў, якія праніклі ў яе рады, карыстаючыся тым, што паасобныя партарганізацыі і іх кіраўнікі страцілі большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць.

Партыя Леніна—Сталіна на працягу ўсёй гісторыі свайго існавання ўдзяляла і ўдзяляе выключную ўвагу чыстаце сваіх радоў. Яшчэ на зары большэвізма, больш 30 год таму назад,—на II з'ездзе РСДРП В. І. Ленін указваў:

> «Лепш, каб дзесяць працуючых не называлі сябе членамі партыі (сапраўдныя работнікі за чынамі не гоняцца!), чым каб адзін балбочучы меў права і магчымасць быць членам партыі» *).

*) **Ленін**, т. VI., стар. 32—33.



Гэтыя словы паказваюць, як высока цаніў і ставіў арганізатар і творца большэвіцкай партыі—В. І. Ленін—званне члена партыі, як ён змагаўся за крыштальную чыстату радоў авангарда пролетарыята—партыі большэвікоў, якая самой гісторыяй была заклікана стаць творцам новага, бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Супроць Леніна на II з'ездзе РСДРП выступаў закляты вораг пролетарыята «Іудушка» Троцкі сумесна з меншавіком Мартавым, дабіваючыся адчынення, без абмежавання, доступу ў партыю ўсіх, хто жадае назвацца членам партыі. Яны прапанавалі зрабіць умовы ўступлення ў партыю як мага «эластычней». Ленін, выкрываючы контррэволюцыйную сутнасць прапаноў Троцкага і Мартава, адзначыў, што яны адчыняюць доступ у партыю «для ўсіх элементаў разброду, хістанняў і апартунізма», а гэта ні ў якім разе нельга дапусціць для партыі пролетарыята.

Уся далейшая гісторыя барацьбы партыі паказала, што не выпадковымі былі тады, яшчэ на II з'ездзе РСДРП, трацкісцкія дамаганні, накіраваныя супроць ленінскага запатрабавання,—«аберагаць цвёрдасць, вытрыманасць, чыстату нашай партыі».

Уся гісторыя барацьбы трацкізма супроць партыі і яе кіраўнікоў з усёй відавочнасцю паказала, што з вылазкі супроць ленінскіх прынцыпаў пабудовы нашай партыі трацкізм пачаў свой здрадніцкі шлях і прышоў на чале з «Іудушкай» Троцкім у лагер фашызма.

Ад выступлення на II з'ездзе РСДРП супроць ленінскіх прынцыпаў пабудовы партыі, як авангарда рабочага класа, праз стварэнне антыпартыйных фракцый унутры партыі і арганізацыі контррэволюцыйных вулічных выступленняў, пераходзячы да ўсё больш вострых форм барацьбы супроць партыі, Троцкі стаў рупарам усіх антысавецкіх контррэволюцыйных груп.

Выкінуты з радоў партыі стары контррэволюцыйны пёс Троцкі сумесна з азвярэлымі ворагамі соцыялізма (Зіноўевым, Каменевым і інш.), скатваючыся са ступенькі на ступеньку, сталі на шлях арганізацыі белагвардзейскага тэрору супроць кіраўнікоў большэвіцкай партыі і совецкай улады, сталі ланцужнымі псамі фашызма. Такі шлях прашлі здраднікі, агалцелыя ворагі соцыялізма і совецкага народу—«Іудушка» Троцкі са сваімі паплечнікамі.

Усю гэту зграю контррэволюцыянераў таварыш Сталін у свой час выкрыў, і партыя выгнала іх са сваіх радоў.

На кожным новым этапе соцыялістычнага будаўніцтва партыя праводзіла чыстку сваіх радоў, каб вызваліцца ад разлажыўшыхся, абюракраціўшыхся, перарадзіўшыхся, класава-чуждых і варожых элементаў і тым самым узняць сваю боездольнасць, адзінства і згуртаванасць.

Над гробам Леніна, выражаючы волю ўсёй большэвіцкай партыі, таварыш Сталін гаварыў:

> «Уходзячы ад нас, таварыш Ленін запаведаў нам трымаць высока і захоўваць у чыстаце вялікае званне члена партыі. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з гонарам выканаем гэтую тваю запаведзь!»

Партыя непахісна выконвае сталінскую клятву, свята захоўвае вернасць ленінска-сталінскім арганізацыйным прынцыпам партыйнага будаўніцтва.

У 1932 годзе Цэнтральны Камітэт прыняў рашэнне аб спыненні прыёму ў партыю новых членаў і кандыдатаў і правядзенні чысткі ад чуждых, прымазаўшыхся, перарадзіўшыхся элементаў, ад прамых ворагаў, якія шляхам ашуканства праніклі ў рады партыі.

Аднак, з прычыны запушчанасці партыйнай гаспадаркі і наяўнасці фактаў прамога парушэння статута пры прыёме новых членаў і кандыдатаў, праведзеная ў 1932-33 годзе чыстка аказалася недастатковай. Таму партыя, па ініцыятыве таварыша Сталіна, правяла новае мерапрыемства—праверку і абмен партыйных дакументаў.

Праверка і абмен партдакументаў ускрылі не мала тонка замаскаваўшыхся ворагаў, садзейнічалі значнаму росту актыўнасці камуністаў, забяспечылі ўздым партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ва ўсіх партыйных арганізацыях, значна ўзнялі ролю паасобных комуністаў і аўтарытэт усёй партыі сярод шырокіх мас совецкага народу.

КП(б)Б, як і ўся наша партыя, дабілася значна больш высокага ўздыму бальшэвіцкай рэвалюцыйнай пільнасці сваіх арганізацый і кожнага комуніста, выкрыла не мала замаскаваўшыхся ворагаў і двурушнікаў як у час праверкі і абмену партыйных дакументаў, так і ў сувязі з працэсам над агалцелай фашысцкай бандай трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра.

З праверкі і абмену партдакументаў партыя вышла яшчэ больш згуртаванай вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта, вакол свайго любімага правадыра—таварыша Сталіна, яшчэ больш маналітнай і боездольнай у барацьбе за далейшыя перамогі соцыялістычнага будаўніцтва.

Усё гэта падрыхтавала ўмовы для аднаўлення прыёму ў партыю новых членаў і кандыдатаў.

Апублікаванае 30 верасня пісьмо ЦК ВКП(б) аб аднаўленні з 1 лістапада прыёму новых членаў і кандыдатаў ВКП(б) мае выключна важнае значэнне для ўсёй партыі. Гэта рашэнне ставіць перад усімі партыйнымі арганізацыямі задачу—узняць на вышэйшую ступень усю ўнутрыпартыйную работу, каб забяспечыць бальшэвіцкае выхаванне новага папаўнення.

За апошнія гады, з моманту спынення прыёму ў партыю, выраслі агромныя рэзервы непартыйных бальшэвікоў з перадавых людзей нашай краіны, беззаветна адданых справе Леніна—Сталіна, вартых высокага звання члена комуністычнай партыі. Яны выраслі на заводах, фабрыках, у соўгасах, калгасах і на іншых участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў барацьбе за перамогу соцыялізма, за аўладанне сучаснай тэхнікай вытворчасці, за новыя, вышэйшыя формы арганізацыі працы, за стаханаўскія метады работы, за выкарыстанне тэхнікі да дна. Не мала людзей, правераных на практычнай рабоце, да канца адданых справе соцыялізма, вырасла за апошнія гады і сярод совецкай інтэлігенцыі як у горадзе, так і на вёсцы. Гэта—людзі сталінскай эпохі, выхаваныя партыяй і гатовыя аддаць усе свае здольнасці, веды і сілы, каб ажыццявіць вучэнне Леніна—Сталіна, умацаваць эканамічную і абаронную магутнасць сваёй соцыялістычнай радзімы.

Многія з гэтых герояў соцыялістычнай працы—рабочых, калгаснікаў і працоўнай інтэлігенцыі—жадаюць уступіць у рады партыі Леніна—Сталіна.

Званне члена Ўсесаюзнай комуністычнай партыі (бальшэвікоў)—высокае, ганаровае і адказнае. Няма вышэйшага гонару, як належаць

да вялікай партыі Леніна —Сталіна, якою кіруе бліжэйшы саратнік Леніна—геніяльнейшы чалавек нашай эпохі—таварыш Сталін. Наша партыя—«адзіная ўрадавая партыя ў свеце, якая клапоціцца не аб павелічэнні ліку членаў, а аб павышэнні іх якасці» **(Ленін).**

Партыйныя арганізацыі, прыступаючы да новага прыёму, павінны безупынна змагацца за далейшае палепшанне якаснага складу радоў партыі. Аднаўляючы прыём у партыю, ЦК ВКП(б) у сваім пісьме папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі супроць паўтарэння папярэдніх памылак, выяўленых у час праверкі і абмену партдакументаў. ЦК партыі патрабуе ад партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў да канца засвоіць урокі праверкі і абмену партдакументаў. Усе партыйныя арганізацыі абавязаны строга і непарушна захоўваць ленінскі прынцып адбору і прыёму новых членаў і кандыдатаў. Яны павінны цвёрда памятаць неаднаразовыя ўказанні Леніна—Сталіна і Цэнтральнага Камітэта, а таксама запатрабаванні статута аб тым, што прыём у партыю праводзіцца выключна ў **індывідуальным** парадку.

У рашэннях снежаньскага пленума 1935 г. і ў пісьме ЦК ВКП(б) устаноўлены цвёрды і чоткі парадак прыёму ў партыю.

> «Партыйныя арганізацыі, строга праводзячы індывідуальны прыём новых членаў ВКП(б), павінны адбіраць у партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа лепшых людзей нашай краіны, з рабочых перш за ўсё, а таксама з сялян і працоўнай інтэлігенцыі, правераных на розных участках барацьбы за соцыялізм».

Партыйныя арганізацыі КП(б)Б павінны да канца ўлічыць урокі праверкі і абмену партдакументаў, не дапускаючы агульна-валавога падыходу да прыёму ў партыю, пры якім ствараліся ўмовы для пранікнення ў яе рады класава-варожых, шпіёнскіх, дыверсійных, белагвардзейскіх і іншых контррэволюцыйных элементаў.

Партыйныя арганізацыі КП(б)Б ні на адну мінуту не павінны забываць таго, што БССР з'яўляецца фарпостам СССР на мяжы з капіталістычным Захадам, адкуль будуць імкнуцца пранікнуць да нас ворагі то пад выглядам членаў брацкіх комуністычных партый, то пад маскай палітэмігрантаў і т. п., каб пралезці ў рады партыі для контррэволюцыйнай, падрыўной работы. Гэта акалічнасць пры наяўнасці рэштак разгромленых і адміраючых капіталістычных класаў, якія таксама будуць імкнуцца аўладаць партыйным білетам, абавязвае ўсе арганізацыі КП(б)Б, іх кіраўнікоў і кожнага комуніста паасобку заўсёды быць на-чаку.

ЦК ВКП(б) у сваім пісьме вельмі сур'ёзна папярэджвае:

> «Аднаўляючы прыём новых членаў у партыю, партыйныя арганізацыі абавязаны памятаць, што варожыя элементы і ў далейшым будуць прабаваць пранікнуць у рады ВКП(б). Задача кожнай партыйнай арганізацыі заключаецца ў тым, каб, усямерна павышаючы большэвіцкую пільнасць, высока трымаць сцяг Ленінскай партыі і гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады чуждых, варожых і выпадковых элементаў».

Вераснёўскі пленум ЦК КП(б)Б, падвёўшы вынікі абмену партдакументаў па КП(б)Б, у сваім рашэнні падкрэсліў, што «да комуністаў, працуючых у пагранічнай партыйнай арганізацыі, Партыя прад'яўляе асабліва высокія патрабаванні», і ўказаў, што «малейшая самасупа-

коенасць і зазнайства, малейшыя элементы благадушнасці, мяшчанскай расхлябанасці і ратазейства з'яўляюцца прамым злачынствам перад Партыяй, бо яны аблягчаюць класаваму ворагу падрываць магутнасць і абараназдольнасць нашай соцыялістычнай радзімы».

Праз кароткі час партыйныя арганізацыі пачнуць прыём новых членаў і кандыдатаў у партыю. У сувязі з гэтым у некалькі раз павышаюцца запатрабаванні да пастаноўкі ўсёй партыйна-арганізацыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы. Тым часам у паасобных партыйных арганізацыях ёсць думка, што пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў уся ўвага павінна быць сканцэнтравана выключна на арганізацыі прыёму ў партыю новых членаў і кандыдатаў. Такім кампанейскім настроям неабходна даць рашучы і сакрушальны адпор.

Задача райкомаў і гаркомаў—уважліва прапрацаваць ва ўсіх пярвічных партарганізацыях пісьмо ЦК ВКП(б) і рэзалюцыю верасьнёўскага пленума, каб давесці да свядомасці кожнага комуніста, што прыём у партыю не можа разглядацца, як чарговая кампанія, а як штодзенная крапатлівая ўнутрыпартыйная работа па вывучэнню і выхаванню рэзерва са спачуваючых, комсамола і беспартыйнага актыва. Разам з падрыхтоўкай дастойнага папаўнення радоў партыі неабходна ўзняць работу на ўсіх іншых участках партыйнага будаўніцтва.

Кіраўнікі партыйных арганізацый павінны цвёрда памятаць указанне снежаньскага пленума ЦК ВКП(б):

> «Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, аднак, магчымым часова не дазваляць прыёму ў члены партыі і кандыдаты для паасобных партыйных арганізацый, якія па агульнаму свайму стану і ўзроўню ўсёй іх работы яшчэ недастаткова падрыхтаваны к таму, каб па-большэвіцку ажыццявіць справу прыёму новых членаў партыі, іх выхавання і скарыстання».

Задача ўсіх партыйных арганізацый КП(б)Б—на аснове ўздыму, дасягнутага ў час праверкі і абмену партдакументаў, дабіцца замацавання і далейшага разгортвання партыйнай работы на ўсіх участках. Сярод арганізацый КП(б)Б не павінна быць такіх, якія з-за непадрыхтаванасці маглі-б не атрымаць дазволу на аднаўленне прыёму.

Аднак, трэба па-большэвіцку прызнаць, што рабоце са спачуваючымі і комсамолам рад партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў усё яшчэ не ўдзяляе сур'ёзнай увагі. Аб гэтым сведчыць зусім нязначны рост спачуваючых: за першую палову гэтага года па КП(б)Б прынята ў спачуваючыя ўсяго 2.113 чалавек.

У нашай ордэнаноснай рэспубліцы за апошнія гады выраслі многія тысячы да канца адданых справе партыі Леніна—Сталіна, справе соцыялістычнага будаўніцтва стаханаўцаў і ўдарнікаў соцыялістычнай вытворчасці, значная частка якіх яшчэ не ўцягнута ў групы спачуваючых. Паасобныя партыйныя арганізацыі (клімавіцкая, мазырская, асвейская і інш.) работу са спачуваючымі пусцілі самацёкам, па некалькі месяцаў не афармляюць заявы аб прыёме ў спачуваючыя. Так, у Клімавіцкім раёне з паданых 27 заяў да апошняга часу канчаткова разгледжаны і зацверджаны толькі 2. У Менску і Гомелі групы спачуваючых за апошнія месяцы не толькі не выраслі, але нават пашлі на зніжэнне: у Менску на 1 студзеня было 865 спачуваючых, а на 1 ліпеня засталося толькі 843, у Гомелі—адпаведна: 525 і 490.

У радзе партыйных арганізацый наглядаюцца несур'ёзныя, фармальныя адносіны да прыёму ў спачуваючыя. Пры адсутнасці неаб-

ходнай рэволюцыйнай пільнасці і ратазействе комуністаў класаваму ворагу ўдаецца пранікаць у спачуваючыя, каб потым пралезці ў рады партыі.

Побач з уцягненнем у групы спачуваючых новых правераных людзей—стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, перадавых людзей з працоўнай інтэлігенцыі важнейшай задачай партыйных арганізацый з'яўляецца выхаванне спачуваючых у духу «большэвіцкіх традыцый арганізаванасці і дысцыпліны». А гэтага можна дабіцца толькі пры ўмове ўцягнення спачуваючых у практычную работу партыйнай арганізацыі, штодзенных клопатаў аб іх ідэйна-палітычным росце.

Рад партыйных арганізацый у працэсе праверкі і абмену партдакументаў, а таксама падрыхтоўкі да X з'езда ВЛКСМ дабіўся значнага палепшання дапамогі і партыйнага кіраўніцтва работай комсамола. Аднак гэтыя першыя крокі зроблены далёка не ўсімі партыйнымі арганізацыямі. Трэба памятаць, што з комсамола партыя павінна атрымаць добра падрыхтаванае, дысцыплінаванае, стойкае і большэвіцкі вытрыманае папаўненне. Таму з абыякавымі адносінамі да кіраўніцтва работай комсамола неабходна рашуча пакончыць.

Падрыхтоўка да новага прыёму патрабуе выключна сур'ёзнай работы над павышэннем палітычнага і ідэйнага ўзроўню спачуваючых, комсамола і кандыдатаў партыі.

З агульным падыходам да прыёму ў партыю трэба павесці рашучую барацьбу. Тым больш, што рад партарганізацый КП(б)Б, як гэта выяўлена праверкай партдакументаў, дапусціў прамое парушэнне статута партыі. У члены і кандыдаты партыі прымалі людзей цэлымі спісамі, без індывідуальнага падыходу да кожнага, праяўляючы пры гэтым параднасць, кампанейшчыну і т. п. З гэтых грубейшых памылак і скажэнняў статута партыйныя арганізацыі павінны зрабіць для сябе сур'ёзнейшыя вывады. Статут—асноўны закон, якога партыя нікому не дазволіць парушаць.

Прыём у партыю новых членаў і кандыдатаў павінен праводзіцца строга **індывідуальным** парадкам, пры ўмове глыбокага вывучэння і праверкі кожнага, каму будзе дана права несці высокае званне комуніста.

* * *

Комуністычная партыя большэвікоў—авангард рабочага класа, яго арганізатар і кіраўнік. На чале са сваім геніяльным правадыром—таварышом Сталіным—яна забяспечыла перамогу соцыялізма ў нашай краіне, ператварыла яе ў непрыступную крэпасць, забяспечыла небывалы ўздым матар'яльнага і культурнага добрабыту совецкага народу. Яна павядзе совецкі народ да новых перамог соцыялізма. Захоўваць чыстату і маналітнасць гэтага арганізаванага авангарда пролетарыята—пярвейшы абавязак, свяшчэнны доўг кожнага, хто носіць высокае званне члена Ўсесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў.

Трэба заўсёды памятаць словы таварыша Сталіна:

> «Мы, комуністы,—людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матэрыялу. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пролетарскага стратэга, армію таварыша Леніна. Няма нічога вышэй, як гонар належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як

званне члена партыі, заснавальнікам і кіраўніком якой з'яўляецца таварыш Ленін. Не ўсякаму дана быць членам такой партыі. Не ўсякаму дана вытрымаць няўзгоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі. Сыны рабочага класа, сыны нужды і барацьбы, сыны неймаверных лішэнняў і гераічных намаганняў,—вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі такой партыі».

Захоўваць адзінства, маналітнасць радоў партыі Леніна—Сталіна, гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады класава-чуждых, варожых, контррэволюцыйных і выпадковых элементаў—доўг і абавязак кожнай партыйнай арганізацыі і кожнага комуніста КП(б)Б.

**А. Штэйнгарт**

Сакратар капыльскага РК КП(б)Б

# Вышэй большэвіцкую пільнасць

Большэвіцкая пільнасць—галоўная якасць большэвіка. Любімейшы правадыр нашай партыі і працоўных усяго свету таварыш Сталін на XVII партз'ездзе сказаў: «Не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі».

У паасобных комуністаў склалася няправільная думка, нібы ворагі рабочага класа маглі знаходзіцца ў партыі толькі да праверкі партдакументаў. Такое ўяўленне прытупляе рэволюцыйную пільнасць, бо не адпавядае традыцыям большэвізма і ўказанням таварыша Сталіна.

Праверка і абмен партдакументаў з'явіліся такім партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое адыграла каласальную ролю ў ачышчэнні нашай партыі ад шпіёнаў, правакатараў, белагвардзейцаў, троцкістаў, меншавікоў, кулакоў, жулікаў і іншых класава-варожых элементаў. Праверка і абмен партыйных дакументаў узнялі на вышэйшы ўзровень усю партыйную работу, значна павысілі рэволюцыйную пільнасць комуністаў.

Аднак, апошні судовы працэс над троцкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай бандай забойцаў паказаў, што заклятыя ворагі рабочага класа імкнуцца ўсялякімі спосабамі пралезці ў нашу партыю, каб весці падрыўную работу.

Факт выяўлення і выкрыцця актыўнага троцкіста Меркіна ў Капыльскай парторганізацыі пасля праверкі і абмену партдакументаў заслугоўвае ўвагі. З гэтага факту кожны комуніст нашай парторганізацыі, як прыгранічнай, павінен вынесці большэвіцкі ўрок.

Меркін Аўраам—сын настаўніка, у дарэволюцыйны час—гандляра. Будучы адданым «цару і айчыне», ён добраахвотна ўступіў у старую царскую армію. У час імперыялістычнай вайны з'яўляўся актыўным абаронцай царызма, за што атрымаў георгіеўскія медалі і іншыя ўзнагароды. Пры Часовым урадзе з радавога салдата быў вылучан у прапаршчыкі.

Пасля Октябрскай рэволюцыі Меркін пераўзбройваецца і ўступае ў партыю. У 1923 годзе, будучы сакратаром партбюро АБВШ, ён актыўна ўдзельнічае ў троцкісцкай апазіцыі і ў выніку дабіваецца, што парторганізацыя АБВШ па дакладу аб унутрыпартыйнай дэмакратыі большасцю галасоў прымае троцкісцкую рэзалюцыю.

Як ідэалагічна не звязаны з партыяй, Меркін у 1923 годзе выключаецца з яе радоў. Пасля неаднаразовых абяцанняў чэсна працаваць ён у 1924 годзе аднаўляецца ў партыі з абвяшчэннем партыйнага спагнання.

Наступае 1927 год. Трацкісты зноў узнімаюць галавы. Узнімае галаву і Меркін. Пад шыльдай літаратурнага гуртка, сумесна з лідэрам трацкісцкай апазіцыі Ільіным, прыехаўшым з Масквы ў Менск, ён арганізуе ў АБВШ трацкісцкую групу. Аднак комуністы хутка яе выкрываюць. Меркіну зноў абвяшчаецца суровае партыйнае спагнанне, і ён пераводзіцца на работу з Менска ў Орол.

У 1929 годзе за арганізацыю п'янак, выкарыстанне партыйнага становішча ў карысных мэтах, за рэкамендацыю ў ваенную школу класава-варожага элемента і растрату грошай Меркін зноў выключаецца з партыі і асуджаецца на 1 год пазбаўлення волі.

Пасля адбыцця пакарання Меркін пасылаецца Наркомасветы БССР у Капыльскі раён у якасці загадчыка Песачанскай сямігодкі. Будучы ўжо беспартыйным, ён усямерна імкнецца паказаць сваю актыўнасць. Як усякі трацкіст, ён двурушнічае. Ведучы нібы барацьбу з нацдэмамі, фактычна абараняе іх, выдае фальшывыя даведкі аб іх добрасумленнай і актыўнай рабоце.

Свае трацкісцкія махінацыі Меркін так умела маскуе, што пярвічная партыйная і комсамольская арганізацыі і сельсовет па сваёй палітычнай блізарукасці і сляпой даверлівасці лічаць яго выпрабаваным большэвіком і выдаюць розныя пахвальныя даведкі. Выкарыстаўшы палітычную слепату мясцовых арганізацый, Меркін прадставіў у партколегію ЦКК КП(б)Б розныя хлуслівыя даведкі і быў адноўлен у партыі.

Абманваючы партыю на кожным кроку, подла двурушнічаючы і маскуючыся, Меркін праходзіць чыстку партыі ў 1933 г., праверку партдакументаў у 1936 г. і атрымлівае новы партыйны білет. Толькі ў пачатку жніўня гэтага года Меркін канчаткова выкрываецца капыльскім райкомам і выключаецца з партыі як трацкіст.

Факт выкрыцця трацкіста Меркіна, якому ўдалося атрымаць новы партбілет, гаворыць аб наяўнасці ў паасобных звеннях нашай партарганізацыі злачыннага, недапушчальнага прытуплення большэвіцкай пільнасці.

Гэты выпадак гаворыць таксама аб тым, што паасобныя пярвічныя партыйныя арганізацыі ў ходзе праверкі і абмену партыйных дакументаў не здолелі да канца выкрыць і выкарчаваць рэшткі контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў, не праявілі дастатковай большэвіцкай пільнасці.

Раённы камітэт партыі павінен прызнаць, што, не гледзячы на праведзеную ім вялікую работу па выкрыццю ворагаў нашай партыі, трацкісту Меркіну ўдалося прайсці праверку і атрымаць новы білет. Гэту памылку райком цяпер выправіў, але партарганізацыі павінны ўлічыць яе і вынесці для сябе адпаведны ўрок.

---

**Кліонскі**

**Інструктар ЦК КП(б)Б**

# Дабіцца рашучага пералому

Партарганізацыя фабрыкі імя Валадарскага (Магілеў) двойчы праходзіла праверку партдакументаў. Не гледзячы на гэта, партарганізацыя не зрабіла для сябе адпаведных вывадаў у сэнсе ажыўлення і палепшання ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы як сярод комуністаў, спачуваючых і комсамола, так і сярод усіх рабочых фабрыкі.

Пабудавана партарганізацыя фабрыкі імя Валадарскага па вытворчаму прынцыпу: мае 4 зменныя партгрупы, 5 цэхавых і 5 адзіночак. Усяго налічвае яна 65 чалавек, з якіх 14 кандыдатаў. У большасці сваёй члены і кандыдаты партыі знаходзяцца на кіруючай рабоце; комуністаў, непасрэдна працуючых ля станка, усяго 16 чалавек.

Узняць актыўнасць комуністаў партарганізацыя не здолела. Значная іх частка—тт. Піндрык, Лесаў, Мерзон, Розенман, Элькіна і інш.—лічацца яшчэ ў пасіве. Падрыхтоўка да партыйных сходаў пачынаецца, як правіла, толькі за 4—5 дзён, у выніку чаго сходы праходзяць непадрыхтаванымі і не дасягаюць сваёй мэты.

Створаны калектыў агітатараў з 27 чалавек для чыткі рабочым газет і правядзення з імі гутарак дрэнна падрыхтован. Нярэдкі выпадкі, калі тэма даецца за некалькі гадзін да гутаркі, і агітатары вымушаны праводзіць яе непадрыхтаванымі.

Партгабінет добра абсталяваны, але працуе вельмі дрэнна і не дапамагае комуністам у павышэнні іх палітычнага ўзроўню. Палітмасавай работай сярод рабочых партком амаль што зусім не займаецца. За 1936 год праведзен толькі адзін палітдзень, прысвечаны прапрацоўцы рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б. Больш палітдзён партком не праводзіў, не гледзячы на зацікаўленасць і патрабаванні рабочых фабрыкі.

Не лепш пастаўлена работа з кандыдатамі партыі, а таксама са спачуваючымі. За 1936 год з імі праведзены ўсяго 4 сходы. Якасць вучобы зусім нізкая, работа школы часта зрываецца. Такое-ж становішча з вучобай членаў партыі—нізкая паспяховасць, зрывы вучобы. На вучобу прыходзяць без канспектаў і непадрыхтаванымі як слухачы, так і кіраўнікі. Гэта гаворыць аб тым, што партком справу партыйнай вучобы і выхавання комуністаў і спачуваючых пусціў на самацёк.

Комсамольская арганізацыя фабрыкі налічвае 100 комсамольцаў (моладзі на фабрыцы 500 чалавек). Усяго комсамольцаў, працуючых ля станка, 56 чалавек, з іх стаханаўцаў—46 чалавек. Партарганізацыя

мала дапамагае і слаба кіруе комсамолам, які, у сваю чаргу, дрэнна працуе з несаюзнай моладдзю. Вельмі дрэнна пастаўлена масавая работа, клуб не працуе, комсамолкі-мацеры вучобай не ахоплены. Зусім недастатковa работа па падрыхтоўцы комсамольцаў да прыёму ў партыю.

Такое становішча работы з кандыдатамі партыі, спачуваючымі і комсамольцамі сведчыць аб тым, што партыйная арганізацыя і партком не замацавалі ўзнятую актыўнасць комуністаў у час праверкі і абмену партдакументаў, не накіравалі гэтую актыўнасць на палепшанне ўсёй партыйнай работы, а пусцілі ўсю работу на самацёк. Партком і ўся партарганізацыя не выканалі рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б, якія патрабавалі ад усіх партыйных арганізацый звярнуць выключна сур'ёзную ўвагу на работу са спачуваючымі і комсамольцамі, як з рашаючым рэзервам для новага папаўнення радоў партыі.

Партарганізацыя фабрыкі імя Валадарскага ўсёй сваёй работай паказвае, што яна не падрыхтавана да новага прыёму ў партыю, які пачынаецца з 1 лістапада гэтага года.

Задача новага сакратара парткома і ўсёй партарганізацыі—неадкладна дабіцца рашучага пералому ва ўсёй партыйнай рабоце, звярнуўшы асаблівую ўвагу на палепшанне работы са спачуваючымі, комсамолам і кандыдатамі партыі. Трэба памятаць, што дазвол на аднаўленне новага прыёму ў партыю, як гэта ўказана ў рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), атрымаюць толькі тыя партыйныя арганізацыі, якія ўсёй сваёй работай дакажуць, што яны падрыхтаваны да прыёму.

Магілеўскі гарком партыі павінен звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на работу партарганізацыі фабрыкі імя Валадарскага і аказаць новаму сакратару парткома практычную дапамогу, каб у бліжэйшы час усю партыйна-арганізацыйную і палітычна-масавую работу паставіць на ўзровень задач, якія стаяць перад партарганізацыяй фабрыкі.

---

**Ф. Ерэміхін**

Райпрапагандыст смалявіцкага РК КП(б)Б

# Больш увагі комсамолу

З 1 лістапада гэтага года аднаўляецца прыём у партыю. Для комсамола гэта мае важнейшае значэнне, бо партыя разглядае ВЛКСМ як сур'ёзнейшы рэзерв для папаўнення большэвіцкіх радоў.

Няма больш высокага гонару для кожнага комсамольца, чым стаць у рады вялікай партыі Леніна—Сталіна. Рашэнне ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму ў партыю абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі яшчэ больш узмацніць партыйнае кіраўніцтва комсамолам, яшчэ больш дапамагаць комсамольцам у павышэнні іх палітычнага ўзроўню. Не трэба забываць, што «не кожны комсамолец, які дасягнуў пэўнага ўзросту (пераростак), можа і павінен быць прыняты ў ВКП(б), У партыю адбіраюцца толькі найбольш вартыя, правераныя людзі, і кожны комсамолец мае магчымасць дабівацца ўступлення ў рады ВКП(б) шляхам актыўнага ўдзелу ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, павышэння свайго ідэйнага ўзроўню і большэвіцкай загартоўкі, цесна звязваючы сваю работу з партыйнай арганізацыяй» (снежаньскі пленум ЦК ВКП(б)).

Перад партыйнымі арганізацыямі паўстае цяпер задача падрыхтоўкі лепшых комсамольцаў да ўступлення ў рады партыі. Гэта падрыхтоўка павінна быць глыбокай і ўсебаковай, бо комсамолец, акрамя беззаветнай адданасці партыі, павінен быць усебакова развітым, палітычна граматным і актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба памятаць, што без належнага партыйнага кіраўніцтва комсамол не зможа выканаць ускладзеных на яго задач. Практыка паказала, што там, дзе партарганізацыя не дапамагае, не кіруе і не цікавіцца комсамолам, там работа комсамольскай арганізацыі пастаўлена дрэнна. І наадварот, там, дзе ёсць дапамога з боку партарганізацыі, дзе партпрымацаваны і партарганізацыя цалкам зацікаўлены ў комсамольскім жыцці, там адчуваецца комсамольская работа, там расце і папаўненне для партыі.

Возьмем комсамольскую арганізацыю Смалявіцкага раёна і паглядзім, як пастаўлена тут парткіраўніцтва комсамолам. Усяго ў раёне 412 комсамольцаў, аб'яднаных у 36 пярвічных арганізацыях, большасць з якіх маюць партпрымацаваных. Пачнем з соўгаса «Зарэчча», дзе комсамольская арганізацыя складаецца з 15 чалавек.

Партпрымацаваны тав. Глушанін так расказвае аб сваёй рабоце:

«Прымацавалі мяне да комсамола ў канцы красавіка гэтага года. Каб аказаць сапраўдную дапамогу комсамольцам, я спачатку сам добра-

вывучыў рашэнні X з'езда. Першай работай, якую я рашыў наладзіць, была палітвучоба, а потым пачаў уцягваць комсамольцаў у грамадскае жыццё соўгаса. Праз некалькі месяцаў дабіўся некаторых вынікаў. Рэгулярна праводзяцца комсамольскія палітзаняткі. Пераважная большасць слухачоў рыхтуе да заняткаў канспекты. Вучоба ідзе вельмі ажыўлена. На заняткі ахвотна ідзе таксама і несаюзная моладзь. У палітшколе дэтальна прапрацавалі матар'ялы X з'езда комсамола, абмеркавалі праект сталінскай Канстытуцыі, некалькі заняткаў было прысвечана разбору матар'ялаў працэсу над контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай бандай».

Да сходаў комсамольская арганізацыя рыхтуецца загадзя. Тт. Глушанін і сакратар комсамольскай арганізацыі Пузанкевіч перад сходам заўсёды гутараць аб абвестцы дня не толькі з актывам, але і з радавымі комсамольцамі. Сходы праходзяць цікава і ажыўлена. У спрэчках прымае ўдзел большасць комсамольцаў. Амаль на кожным сходзе ставяцца асабістыя справаздачы комсамольцаў аб рабоце над сабой. Па кожнай справаздачы, як правіла, выступае судакладчык, які праводзіў абследванне комсамольца. Часта такім судакладчыкам выступае тав. Глушанін.

Асабліва ажыўлена праходзяць канферэнцыі моладзі соўгаса. Нядаўна адбылася канферэнцыя па абмеркаванню вынікаў прапрацоўкі рашэнняў X з'езда комсамола. У складанні плана правядзення канферэнцыі прымала ўдзел не толькі комсамольская, але і партыйная арганізацыя. У перыяд падрыхтоўкі было праведзена больш 10 цэхавых нарад моладзі, на якіх быў вызначан рад мерапрыемстваў і выяўлен рад недахопаў. Было праверана як засвоены матар'ялы X з'езда, як комсамольцы змагаюцца за правядзенне рашэнняў з'езда ў жыццё. Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце актыўны ўдзел прымае тав. Глушанін. Добрая падрыхтоўка забяспечыла яўку і актыўнасць моладзі. Усяго на канферэнцыю сабралася 30 чалавек, у спрэчках выступіла 11 комсамольцаў.

Сярод моладзі шырока разгорнута вучоба. Займаюцца некалькі тэхнічных гурткоў, працуюць дзве агульнаадукацыйныя школы: павышанага і паніжанага тыпу. Шырока разгарнулася абаронная работа, рэгулярна працуе гурток АСО, які налічвае 24 чалавекі. Норму на значок «Гатоў да санітарнай абароны» здалі 28 чалавек. Абсталявана спартыўная пляцоўка.

Таксама нядрэнна працуе пярвічная комсамольская арганізацыя на торфзаводзе «Гея», дзе да апошняга часу партпрымацаваным быў тав. Куніцкі, а цяпер тав. Валенцік. Арганізацыя налічвае 25 комсамольцаў. На заводзе працуе гурток па падрыхтоўцы ў комсамол. У гуртку несаюзная моладзь вывучае статут і праграму ВЛКСМ.

Узорна пастаўлена на заводзе абаронная работа. Усе комсамольцы здалі нормы на ГПА, а 18 чалавек здалі залікі па ПВХО. Была таксама прароблена вялікая работа сярод моладзі па здачы дзяржаўнага тэхнічнага экзамена. Вытрымала экзамен 240 чал. У драматычным і харавым гуртках вядучае месца належыць комсамольцам. Для моладзі арганізаваны 2 палітшколы, якімі кіруюць комуністы.

Пад умелым партыйным кіраўніцтвам значна вырас рад комсамольцаў. Тав. Мурашка прышла на завод няграматнай. Цяпер яна комсамолка, брыгадзір стаханаўскай брыгады. Трактарыст Ануфрэйчык да прыходу на завод быў поўграматным хлопцам. Цяпер ён—адзін з лепшых трактарыстаў-стаханаўцаў. Таксама значна вырас тав. Шагайка. Ён—адзін з лепшых снайпераў Смалявіцкага раёна.

Прапрацоўваючы рашэнні X з'езда, комсамольцы ставілі перад сабою дзве задачы: мабілізаваць моладзь на выкананне вытворчых заданняў і ўцягнуць яе ў грамадскае жыццё завода. Абедзве гэтыя задачы выкананы.

Пераважная большасць маладзёжных брыгад вытворчыя заданні значна перавыканала. Брыгада Гарачай Каці выканала сезоннае заданне на 134%, Рабчыкава Анна—на 158%, Марушка Надзя—на 131%.

Ажывіліся гурткі грамадскіх арганізацый. Наладзіліся сходы—моладзь актыўна выступае.

Вялікую дапамогу аказвае парторг тав. Цофін, пад кіраўніцтвам якога складаецца план работы комсамольскай арганізацыі. Тав. Цофін часта наведвае комсамольскія сходы і палітзаняткі.

Нядрэнна паставіў работу ў Верхменскай комсамольскай арганізацыі партпрымацаваны тав. Парыжскі. Цяпер там рэгулярна праводзяцца комсамольскія сходы, наладжана палітвучоба, працуе драмгурток. Комсамольцы пачалі актыўна ўдзельнічаць у рабоце дэпутацкіх груп і секцый сельсовета.

Наладзіў работу партпрымацаваны да комсамольскай арганізацыі Вінзавода тав. Папека. Арганізацыя за апошні час значна вырасла. Многія комсамольцы атрымалі вылучэнне. Арганізаваны драматычны і фізкультурны гурткі, рэгулярна праводзяцца тэхвучоба і палітзаняткі.

Аднак, ёсць у нас пярвічныя партыйныя арганізацыі, якія комсамольскай рабоце аддаюць мала ўвагі, у выніку чаго работа ў гэтых комсамольскіх арганізацыях пастаўлена дрэнна, палітзаняткі і сходы комсамола зрываюцца. У калгасе «Звязда» Прылепскага сельсовета член партыі тав. Шорэц абсалютна ніякай работы не вядзе з комсамолам. У праўленні калгаса вісіць план работы комсамольскай арганізацыі, разлічаны на... 34 дні ў месяц.

У Слабодскай комсамольскай арганізацыі партпрымацаваны тав. Цэлікаў менш за ўсё цікавіцца комсамольскім жыццём, палітвучобай, не бывае на комсамольскіх сходах, якія збіраюцца не больш аднаго раза ў тры месяцы.

Партарганізацыі павінны памятаць, што кіраўніцтва комсамолам, а адсюль і выхаванне ўсёй моладзі—пачэсная і адказнейшая задача. Яны абавязаны канкрэтна кіраваць комсамолам і практычна дапамагаць яму ў рабоце сярод несаюзнай моладзі. Трэба пакончыць з практыкай перадавервання работы сярод комсамола і ўсёй моладзі толькі аднаму партпрымацаванаму, які нярэдка нічога не робіць. Гэта фармальны падыход да партківраўніцтва комсамолам. Нельга ні ў якім разе абмяжоўвацца толькі вылучэннем партпрымацаванага. Яго работу неабходна штодзенна кантраляваць і аказваць практычную дапамогу, памятаючы, што за работу сярод комсамола адказвае не адзін партпрымацаваны, а ўся партыйная арганізацыя і ў першую чаргу сакратары парткомаў і парторгі.

**А. Канопік**

**Сакратар парткома ф-кі „Окцябр“**

# Большэвіцкая пільнасць у партыйнай рабоце

Вопыт праверкі і абмену партыйных дакументаў паказаў, што партыйныя арганізацыі яшчэ дрэнна засвоілі неаднаразовыя папярэджанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі. Трацкісцка-зіноўеўскім элементам удалося весці сваю гнусную работу толькі таму, што ў паасобных звеннях была прытуплена большэвіцкая пільнасць.

На чале партыйнай арганізацыі нашай фабрыкі ў мінулым стаялі людзі, якія імкнуліся ўсямерна засмечваць яе, стваралі спрыяючыя ўмовы для трацкісцкіх элементаў.

Былы сакратар парткома трацкіст Рохкінд і члены парткома трацкісты Айзенштат, Гальперын і іншыя прынялі ў партыю актыўнага трацкіста Чарніцкага, класавых ворагаў Бауха і Абухова—асуджанага на 10 год за кражу і кантрабанду.

Былы сакратар цэхавай ячэйкі тав. Рэер расказвае, як быў прыняты ў партыю класавы вораг прахадзімец Пікус: «Прышоў да мяне ў цэх Рохкінд і гаворыць, што трэба аформіць Пікуса ў партыю. Я адказваю, што ўсе ў цэху ведаюць Пікуса як чалавека класава-чуждага, таму на сходзе ён не пройдзе. Але Рохкінд сказаў: мне патрэбен рэдактар, і ты афармі яго».

Ужо адзін гэты факт даволі ясна паказвае, якую гнусную работу вялі трацкісты ў нашай партарганізацыі.

У выніку за першы квартал 1932 года былі прыняты ў партыю 93 чалавекі, а ў апошнім квартале 1932 і ў пачатку 1933 года было выключана 71 чалавек.

Закляты вораг партыі трацкіст Шумахер быў вылучан у той час на фабрыку «Окцябр», а потым на фабрыку імя Крупскай сакратаром парткома. Актыўны трацкіст Баух быў вылучан на адказную работу ў рэдакцыі газеты «Окцябр».

Яны стварылі сямейнасць і кругавую паруку. Кожнага, хто спрабаваў выступаць супроць іх, зараз-жа ўбіралі з фабрыкі. Так, зволен быў член партыі Раксін, які зараз працуе на фабрыцы імя Крупскай.

Праверка і абмен партыйных дакументаў садзейнічалі ачыстцы і ўмацаванню нашых радоў, палепшанню ўсёй партмасавай і арганізацыйнай работы, павышэнню рэволюцыйнай пільнасці кожнага члена партыі.

Вялікую ўвагу партыйны камітэт фабрыкі ўдзяляе палітагітацыі. На фабрыцы працуе зараз 30 агітатараў, з якіх 22 члены і кандыдаты партыі і 8 спачуваючых. Жывая сувязь іх з парткомам адчуваецца на кожным кроку.

Семінарам агітатараў кіруе сакратар парткома або загадчык парткабінетам. За апошні час на семінарах былі прапрацаваны пытанні: «Аб новай сталінскай Канстытуцыі», «Аб двух ачагах вайны», «Перамога народнага фронту ў Іспаніі і Францыі», «Парушэнне лакарнскага дагавору», «Трацкісцка-зіноўеўскі блок» і «Аб канверсіі».

Палітычны ўзровень нашых агітатараў намнога вырас. Партыйны камітэт, праводзячы гутаркі ў цэхах і брыгадах, выявіў здольных да агітацыі людзей: тт. Доленка, Ладышава, Кагана, Санковіча, Зялёнку, Бурштэйна і інш. Кандыдату партыі тав. Ладышаву было даручана зрабіць на агульным сходзе даклад на тэму «Вялікадзяржаўны шавінізм і мясцовы нацыяналізм». Ён ніколі такіх сур'ёзных дакладаў не рабіў і ўсяляк адмаўляўся ад данай тэмы. Калі-ж партком падабраў яму адпаведны матар'ял і дапамог скласці канспект, то ён моцна ўзяўся за падрыхтоўку. Праверыўшы гатоўнасць Ладышава, партком дазволіў яму выступіць. На агульным сходзе рабочыя пераканаліся ў тым, што дакладчыкам можа быць не толькі адказны работнік, але і радавы рабочы—комуніст.

Многія з агітатараў, як Каган, Кацовіч, Шабсон, Доленко і інш., не чакаючы ўказанняў парткома, па ўласнай ініцыятыве праводзяць гутаркі, скарыстоўваючы навейшыя матар'ялы з газет і журналаў.

Агітатар Каган Файва выкарыстоўвае 10-мінутныя абедзеныя перапынкі для гутарак, галоснай чыткі газет і журналаў. Матар'ялы працэсу аб трацкісцка-зіноўеўскай бандзе і іспанскіх падзеях амаль штодня даводзіліся да ведама рабочых пашывачнага цэха. Тав. Каган прыходзіць на работу заўсёды падрыхтаваны да гутаркі і ўвязвае яе з канкрэтнымі прыкладамі работы сваёй брыгады.

* * *

Рыхтуючыся да пераводу кандыдатаў у члены партыі на падставе рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), мы перш за ўсё ўзяліся за ўмацаванне гэтага ўчастка работы.

Усе кандыдаты партыі ахоплены вучобай, кожнаму сістэматычна даюцца партыйныя даручэнні. Партком дапамагае кандыдатам у іх штодзеннай практычнай рабоце і выкананні даручэнняў. Ёсць ужо добрыя вынікі. Тав. Ладышаў з дапамогай партыйнай арганізацыі значна павысіў свой ідэйна-палітычны ўзровень. Скончыўшы рабфак, ён не пакідае ўзмоцнена працаваць над сабой. Ладышаў цяпер адзін з лепшых цэхавых агітатараў, добра выконвае ўсе партыйныя даручэнні.

Кандыдат партыі тав. Доленка расце літаральна на вачах. Ён — лепшы цэхавы профарганізатар на фабрыцы. З вялікай энергіяй працуе над сабой, каб стаць сапраўды вартым членам партыі. Усе даручэнні партарганізацыі выконвае як дысцыплінаваны комуніст. Пра многіх іншых кандыдатаў партыі можна сказаць тое-ж самае.

На паседжаннях парткома і на агульных партсходах сістэматычна заслухоўваюцца індывідуальныя справаздачы паасобных кандыдатаў. Самасправаздачы дапамагаюць лепш выявіць партыйны твар кандыдата, арганізаваць яго выхаванне і вучобу. Партарганізацыя вывучае кандыдатаў таксама і на практычнай рабоце, сістэматычна правяраючы, як яны выконваюць партыйныя даручэнні.

Ва ўсёй рабоце мы звярачаем сур'ёзную ўвагу на комсамольскую арганізацыю і групы спачуваючых.

Комсамольская арганізацыя нашай фабрыкі налічвае 160 чал. Лепшых з іх, самых дастойных, перадавых, стаханаўцаў вытворчасці мы рыхтуем да ўступлення ў рады партыі Леніна—Сталіна.

Наш фабрычны комсамол пад кіраўніцтвам партарганізацыі выхаваў у сваіх радах ордэнаноску Кісялёву, сясцёр Еўсюціных, ордэнаносца Малюўскага і рад іншых комсамольцаў. Усе яны паказалі сябе на вытворчасці добрымі стаханаўцамі, старанна вучацца і ўзнімаюць свой палітычны ўзровень.

У групу спачуваючых мы ўцягнулі лепшы перадавы беспартыйны актыў знатных стаханаўцаў і стаханавак фабрыкі, актыўных грамадскіх работнікаў. Арганізавалі сістэматычную вучобу і выхаванне спачуваючых. Людзі на вачах растуць, узнімаюць свой узровень, настойліва авалодваюць агульнаадукацыйнымі ведамі, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці фабрыкі. Спачуваючыя тт. Жылінская, Малеў, Каган да работы на фабрыцы былі палітычна адсталымі, малаграматнымі людзьмі. Зараз іх проста не пазнаць. Яны з'яўляюцца перадавымі стаханаўцамі, двухсотнікамі, акуратна наведваюць палітшколу, рэгулярна чытаюць газеты і мастацкую літаратуру, добра выконваюць даручэнні партыйнай арганізацыі. Партком клапоціцца аб іх далейшым росце і паспяховай вучобе. Для спачуваючых, як і для кандыдатаў партыі, арганізаваны гурткі па вывучэнню статута і праграмы партыі. Сістэматычна праводзяцца даклады на розныя тэмы з міжнароднага жыцця і ўнутранага становішча СССР, калектыўныя чыткі газет і мастацкай літаратуры.

Наша партарганізацыя за апошні час выхавала дзесяткі партыйных, гаспадарчых і профсаюзных кадраў. Да такіх адносяцца тт. Галавач, Смоляр, Матусевіч, Гольдберг, Грыншпан, Гарэлік і інш., якія вылучаны на самастойную партыйную работу і нядрэнна з ёю спраўляюцца. Вывучаючы гэтых людзей, партарганізацыя сістэматычна правярала, як яны выконваюць партыйныя даручэнні, і давала ім усё больш складаныя заданні: самастойна правесці цэхавы сход, зрабіць даклад па важнейшых палітычных пытаннях і т. п.

Тэарэтычныя канферэнцыі таксама спрыялі росту паасобных комуністаў.

Добры даклад аб барацьбе партыі з трацкізмам зрабіў на тэарэтычнай канферэнцыі тав. Галавач, у мінулым чалавек малаграматны, сын селяніна-бедняка. За час прабывання ў нашай партыйнай арганізацыі ён скончыў вячэрні Комвуз і быў вылучан на профсаюзную работу. За паказальны пераход Менск—Масква ўзнагароджан ордэнам «Знак почета». У сучасны момант вылучан на адказную партыйную работу—парторгам цагельнага завода.

Гольдберг—член партыі з 1931 года. Працаваў парторгам брыгады, потым быў вылучан парторгам цэха. Яго цэх заўсёды адным з першых выконваў план і даваў добраякасную прадукцыю. Сам Гольдберг, не адрываючыся ад вытворчасці, скончыў вячэрні Комвуз і зараз вылучан на адказную партыйную работу.

Тав. Смоляр, які прышоў на фабрыку малаграматным, у нашым калектыве ўзняў свой палітычны ўзровень. Стаў агітатарам у брыгадзе, на цэхавым сходзе рабіў даклад аб праекце сталінскай Канстытуцыі. Зараз вылучан парторгам абойнай фабрыкі.

Нямала добра выхаваных комуністаў вылучана на гаспадарчую, партыйную і профсаюзную работу ўнутры нашай фабрыкі. Т.т. Бутылёў, Меламед, Файгенбогін у апошні час вылучаны парторгамі цэхаў. Тав. Матусевіч Браніслаў—стаханавец, у 1932 годзе ўступіў у партыю, быў праформам цэха, а зараз вылучан нам. старшыні фабкома.

Партком паслаў на вучобу тт. Свердліна, Лапідуса, Грыншпана і іншых комуністаў, каб падрыхтаваць з іх кадры прапагандыстаў і гас-

падарчых работнікаў. Для палепшання агітмасавай работы ў цэхах і брыгадах пасланы на курсы 10 агітатараў з адрывам ад вытворчасці. Пры фабрыцы працуе 6 партыйных школ, якімі ахоплены ўсе комуністы. Нядрэнна вырошчваюцца і комсамольскія кадры. Групорг цэха тав. Кітайчык вылучана на прафсаюзную работу. Ада Кісялёва з'яўляецца добрым комсоргам пашывачнага цэха. Сёстры Еўсюціны—варашылаўскія стралкі, займаюцца ў парашутнай школе, зрабілі ўжо па аднаму прыжку. Гэтая выдатная моладзь выхавана нашай партыйнай арганізацыяй.

Мы маем нядрэнныя кадры ў групе спачуваючых. Лепшы стаханавец Нядбальскі актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці фабрыкі, вылучан праформгам цэха. Тт. Жылінская і Малышко вылучаны праформгамі брыгад.

Рад дыферэнцыяваных мерапрыемстваў праведзен і ў галіне работы з актывам, вылучаным у рэзерв пры праверцы партдакументаў. Канкрэтныя партыйныя даручэнні з праверкай выканання, нарады па пытаннях партыйнай работы садзейнічалі росту гэтых таварышоў. Яны раслі разам з партыйнай арганізацыяй і зараз працуюць на адказнай кіруючай рабоце.

Партыйная арганізацыя ў цэлым і кожны комуніст паасобку адчуваюць, як узнімаецца іх авангардная роля на вытворчасці. Стаханаўскі рух расце з кожным днём. За апошнія месяцы выяўлены дзесяткі лепшых стаханаўцаў і двухсотніц. З 83 комуністаў 76 з'яўляюцца стаханаўцамі вытворчасці і выконваюць план на 200 і больш процантаў.

Комуніст Лысёнак выконвае новыя нормы на 232 %, Багамолаў—на 225 %, Гурвіч—на 205 %, даючы добрую якасць прадукцыі. Усяго на фабрыцы стаханаўцаў 259, ударнікаў 195 і двухсотніц 35 чалавек.

Да недахопаў нашай работы трэба аднесці ў першую чаргу тое, што партыйныя школы ўкамплектаваны ў нас слухачамі не па ўзроўню ведаў, а гэта тармозіць паспяховасць вучобы. Па-другое, нашы агітатары не навучыліся яшчэ весці ўлік сваёй работы, не ўсе яны атрымліваюць газету «Правда», партгабінет не стварыў неабходных умоў для работы агітатараў. Далёка не ўсё яшчэ зроблена партыйным камітэтам для большэвіцкага выхавання кандыдатаў і спачуваючых у духу павышэння іх класавай пільнасці і непрымірымасці да ўсіх ворагаў партыі.

На дасягненнях, якіх мы дабіліся ў галіне вырошчвання кадраў, супакоіцца ні ў якім разе нельга. Кожны партыйны кіраўнік павінен памятаць, што кадры не звальваюцца з неба, іх трэба любоўна вырошчваць і выхоўваць. Мы маем усе магчымасці ператварыць фабрыку ў кузню большэвіцкіх кадраў, для гэтага патрэбна крапатлівая штодзенная работа.

Рэалізуючы апошнія рашэнні і ўказанні нашай партыі, мы яшчэ вышэй узнімем сваю рэволюцыйную пільнасць, каб да канца выкарчаваць трацкісцка-зіноўеўскія элементы. Таварыш Сталін вучыць нас не зазнавацца і не самасупакойвацца, а безупынна працаваць над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню, каб лягчэй распазнаваць ворага.

Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з таварышом Гікало мы справімся з усімі пастаўленымі перад намі задачамі.

**В. Забела**

Кантралёр КПК

# Ліквідаваць адставанне рачнога транспарту

Навігацыю 1936 года ў Днепра-Дзвінскім кіраўніцтве рачнога параходства называюць стаханаўскай. Аднак, першую гадавіну стаханаўскага руху рачны транспарт сустрэў дрэннымі паказчыкамі работы. Навігацыя гэтага года па Днепра-Дзвінскаму рачному параходству праходзіць вельмі дрэнна, колькасць аварый супроць 1935 г. значна ўзрасла.

Праведзеная ўпаўнаважаным КПК пры ЦК ВКП(б) па БССР праверка дае вычарпальны адказ на пытанне аб прычынах дрэннай работы параходства.

Кіраўнікі параходства недастаткова мабілізавалі ініцыятыву і энергію стаханаўцаў. Працоўная дысцыпліна на параходах вельмі нізкая, да апошняга часу наглядаюцца выпадкі ухарства. Капітан парахода «Дзвіна», тав. Начоўка, затапіў сваім суднам службовы катэр. У жніўні мотакатэр «Пагранічнік», які ішоў пад кіраўніцтвам памочніка капітана Грышэнка, сутыкнуўся з лодкай і перавярнуў яе, у выніку чаго былі чалавечыя ахвяры.

Не гледзячы на выпадкі парушэння працоўнай дысцыпліны, частыя п'янкі на суднах, палітаддзел і кіраўніцтва параходства не вядуць патрэбнай барацьбы з аварыйшчыкамі і ліхачамі, не мабілізуюць супроць іх партыйна-профсаюзны актыў і ўвесь калектыў работнікаў. У барацьбе з аварыйнасцю дапушчаны буйныя скажэнні.

Сярод кіраўнікоў параходства развіта «тэорыя» немінучасці аварый з-за мелкаводдзя і засмечанасці шляху. Гэтая «тэорыя» і паслужыла прычынай спынення 30 аварыйных спраў і здачы іх у архіў за адсутнасцю вінаватых.

Поспех у рабоце вырашае большэвіцкая дысцыпліна. У сваёй прамове на прыёме чыгуначнікаў у Крэмлі таварыш Сталін даў наступнае выдатнае азначэнне сутнасці большэвіцкай дысцыпліны на транспарце: «Транспарт з'яўляецца канвеерам, дзе важна работа кожнага работніка, кожнага вінціка. Калі вы гэта зразумееце, таварышы чыгуначнікі, калі вы ўстановіце зладжанасць усіх частак, усіх работнікаў у механізме транспарту,—гэта і будзе сапраўдная большэвіцкая дысцыпліна».

Гэта ўказанне таварыша Сталіна ў аднолькавай меры адносіцца і да рачнога транспарту, аднак кіраўніцтва параходства, палітаддзел і партарганізацыі не зрабілі з яго патрэбных вывадаў.

Кіраўнікі параходства не забяспечылі выканання дырэктывы ЦК ВКП(б) аб хутчэйшай ліквідацыі аварыйнасці. ЦК патрабаваў, каб начальнік параходства ўзяў у свае рукі справу барацьбы з аварыйнасцю і асабіста выязджаў на буйнейшыя аварыі. Начальнік-жа кіраўніцтва параходства, тав. Галаванаў, выязджаў толькі на дзве аварыі з 88-мі.

Партыйна-масавая работа ў Днепра-Дзвінскім рачным параходстве

знаходзіцца на нізкім узроўні і не забяспечвае мабілізацыю мас на своечасовае выкананне вытворчых задач, на барацьбу з аварыйнасцю. Кіраўнікі параходства павінны многаму павучыцца ў свайго старэйшага сабрата—чыгуначнага транспарту. Чыгуначны транспарт дабіўся выдатных поспехаў на базе сталінскіх метадаў работы і кіраўніцтва, якія забяспечылі перабудову і ўздым. Толькі класічнае прымяненне сталінскіх метадаў рушыла чыгуначны транспарт далёка ўперад.

Лозунг таварыша Сталіна «кадры вырашаюць усё» кіраўнікі Днепра-Дзвінскага параходства да гэтага часу яшчэ не засвоілі. Кваліфікацыя асноўных кадраў параходства далёка недастатковая, барацьба-ж за павышэнне тэхнічных ведаў работнікаў не вядзецца. У 1935 годзе праз атэстацыйную камісію павінна было прайсці 239 чалавек каманднага складу, а прашло толькі 26 чалавек. Кураўнікі параходства тлумачаць гэта тым, што яны не ведалі многіх работнікаў і не маглі іх атэставаць. Аднак і сёлета падрыхтоўка кадраў праходзіць нездавальняюча, тым часам як атэстацыйную камісію павінна прайсці 622 чалавекі.

Кіраўнікі параходства і партыйна-прафсаюзныя арганізацыі не ўзначалілі стаханаўскага руху. Яны абмежаваліся прапрацоўкай прамовы таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў і пусцілі справу самацёкам.

З агульнай колькасці 5009 чал., працуючых на параходстве, стаханаўцаў усяго 544 чал. Мае месца штучнае стварэнне стаханаўцаў. Судовы камітэт залічыў у стаханаўцы камандзіра Янкоўскага за «добрую» работу. У сапраўднасці-ж параход «8 сакавіка», якім ён кіруе, выканаў план у красавіку толькі на 110% пры 111 гадзінах няпланавых прастояў.

На параходзе імя Гікало афармленне стаханаўцаў было праведзена, прыкладна, так. На параход з'явіўся старшыня мясцкома прыстані Бабруйск тав. Рэзнікаў і прапанаваў камандзе сфатаграфавацца як стаханаўцам. Комсамолец Лешко чэсна прызнаўся, што ён нічым не праявіў сябе як стахановец і таму ад гэтага звання адмовіўся.

Начальнік кіраўніцтва тав. Галаванаў не выканаў дырэктыву ЦК аб узначаленні стаханаўскага руху, не ведае, дзе і на якіх прадпрыемствах ёсць стаханаўцы. Усю работу і кіраўніцтва стаханаўскім рухам ён перадаў профарганізацыі, якая займаецца штучным стварэннем стаханаўцаў. Нядзіўна пасля гэтага, што стаханаўскі рух у Днепра-Дзвінскім параходстве не развіваецца. Відаць, кіраўнікі параходства не зразумелі гістарычнай прамовы таварыша Сталіна на 1 Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў.

Днепра-Дзвінскае параходства можа і павінна працаваць значна лепш. Кіраўнікі параходства, палітаддзел і профсаюзныя арганізацыі павінны зрабіць сур'ёзныя вывады з буйных недахопаў сваёй работы ў першым стаханаўскім годзе. Раз назаўсёды трэба пакончыць са шкоднай «тэорыяй» немінучасці аварый. Рачны транспарт ордэнаноснай БССР можа і абавязан працаваць без аварый і значна лепш, чым у першым стаханаўскім годзе. А гэтага можна будзе дабіцца толькі тады, калі кіраўніцтва параходствам, камандзіры параходаў, палітаддзел, партыйныя і прфсаюзныя арганізацыі па-сапраўднаму ўзначаляць стаханаўскі рух, па-большэвіцку возьмуцца за павышэнне тэхнічнай кваліфікацыі работнікаў і павядуць рашучую барацьбу супроць ліхачоў і аварыйшчыкаў.

У другім стаханаўскім годзе рачны транспарт павінен стаць у рады перадавых галін народнай гаспадаркі ордэнаноснай БССР.

**А. Каралевіч**

**Нам. старшыні прэзідыума праўлення Белкаапсаюза**

# Аб рабоце спажыўкааперацыі на вёсцы

*(Да гадавіны гістарычнага рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б))*

Год таму назад партыя і ўрад у сваім гістарычным рашэнні далі разгорнутую праграму перабудовы работы спажыўкааперацыі на вёсцы.

Рост заможнасці і культурных запатрабаванняў калгасных мас высунуў новыя задачы перад совецкім гандлем. Толькі ў святле гэтых грандыёзных зрухаў магчыма поўнасцю ацаніць буйнейшае значэнне пастановы партыі і ўрада аб рабоце спажывецкай кааперацыі на вёсцы.

Наша партыя вуснамі найвялікшага генія чалавецтва правадыра народаў таварыша Сталіна яшчэ на XVII партыйным з'ездзе так вызначыла значэнне разгорнутага тавараабароту:

> «Каб эканамічнае жыццё краіны магло забіць крыніцай, а прамысловасць і сельская гаспадарка мелі стымул да далейшага росту сваёй прадукцыі, трэба мець яшчэ адну ўмову, а іменна,— разгорнуты **тавараабарот** паміж горадам і вёскай, паміж раёнамі і абласцямі краіны, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі. Неабходна, каб краіна была пакрыта багатай сеткай гандлёвых баз, магазінаў, крам. Неабходна, каб па каналах гэтых баз, магазінаў, крам безупынна цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца. Неабходна, каб у гэту справу былі ўцягнуты і дзяржаўная гандлёвая сетка, і кааперацыйная гандлёвая сетка, і мясцовая прамысловасць, і калгасы, і аднаасобныя сяляне.
>
> Гэта і называецца ў нас разгорнутым **совецкім гандлем,** гандлем **без** капіталістаў, гандлем **без** спекулянтаў.
>
> Як бачыце, разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца наперад».

У выніку безупыннага росту вытворчасці прамысловых тавараў шырокага спажывання і сельскагаспадарчых прадуктаў, перабудовы работы спажыўкааперацыі на падставе рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29/IX—1935 года значна павялічыўся абарот сельскай спажыўкааперацыі БССР; поўгадавы план тавараабароту ў 309,2 млн. руб. выканан у суме 333,4 млн. руб. на 107,9%. Тавараабарот першага паўгоддзя 1936 г. у параўнанні з першым паўгоддзем 1935 г.

узрос на 60,2%. Тавараабарот у III квартале ідзе на ўзроўні перавыканання. Пабудавана 128 сельмагаў, 12 знаходзіцца ў стадыі заканчэння. На першае ліпеня налічвалася 96% рэнтабельных сельпо. На падставе разгортвання тавараабароту палепшылася матар'яльна-бытавое становішча работнікаў прылаўка і старшынь сельпо.

Аднак гэтыя некаторыя вынікі, дасягнутыя спажыўкааперацыяй на вёсцы, ні ў якім разе не могуць нас здаволіць, бо далёка яшчэ не выкананы пастаўленыя перад намі партыяй і ўрадам задачы.

Зусім правільная суровая ацэнка дзейнасці кааперацыі і былога кіраўніцтва Белкаапсаюза, даная III пленумам Камісіі совецкага кантроля і ЦК КП(б)Б, сведчыць аб тым, што як Белкаапсаюз, так і большасць окррайсаюзаў, не забяспечылі ліквідацыі тых буйнейшых недахопаў у рабоце спажыўкааперацыі, якія былі адзначаны ў гістарычным рашэнні Соўнаркома Саюза і ЦК ВКП(б) ад 29/IX-35 г. Былое кіраўніцтва Белкаапсаюза на чале са старшынёй прэзідыума Баскіным не ўзначаліла разгортвання стаханаўскага руху, не абагуліла і не папулярызавала вопыту лепшых сваіх работнікаў на ўсю сістэму, падмяняла ў радзе выпадкаў разгортванне стаханаўскага руху параднай шуміхай. У апараце Белкаапсаюза знайшлі прытулак трацкісты, злейшыя ворагі народу (Каструлёў, Нісенбаум і інш.). Яны праводзілі шкодную работу ў спажыўкааперацыі.

У выніку спажыўкааперацыя БССР прыходзіць да гадавіны гістарычнага рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б) са значным прарывам.

Цэнтральны камітэт партыі і ўрад указалі, што ўсе важнейшыя пытанні жыцця сельпо (планы гандлю, каштарысы даходаў і выдаткаў, мерапрыемствы па рэнтабельнасці сельпо, справаздачы праўленняў і рэвізійных камісій і інш.) павінны разглядацца на сходах пайнікаў, або на сходах упаўнаважаных, склікаемых не радзей аднаго разу ў квартал. У гэтым сваім рашэнні партыя і ўрад паставілі ў якасці адной з асноўных задач кааперацыйных арганізацый—разгортванне совецка-кааперацыйнай дэмакратыі.

Спажывецкая кааперацыя БССР у пачатку гэтага года правяла справаздачна-выбарчую кампанію. У радзе спажывецкіх арганізацый яна прашла пры вялікай актыўнасці пайнікаў, вітаўшых гістарычнае рашэнне партыі і ўрада. Пайнікі-калгаснікі далі новым праўленням наказы і паставілі перад імі задачу—цалкам выкарыстаць усе магчымасці, прадстаўленыя партыяй і ўрадам для такога развіцця тавараабароту, які забяспечыў-бы поўнае задавальненне ўсё ўзрастаючых запросаў калгаснага сяла. Але гэтая высокая актыўнасць пайнікаў не была ўзначалена і падтрымана Белкаапсаюзам, які нават не рэагаваў на рад выпадкаў скажэння кааперацыйнай дэмакратыі і прынцыпаў выбарнасці. Вось характэрныя факты:

Старшыня віцебскага райсаюза Белы пры яўцы 9 упаўнаважаных з 80 знімае з работы старшыню Рудніцкага сельпо Зіхермана і абірае новага старшыню сельпо Грышына, які не карыстаецца давер'ем насельніцтва і дапусціў рад злоўжыванняў на папярэдняй рабоце. Такі-ж выпадак быў дапушчан старшынёю Добрушскага райсаюза Германам, які самавольна зняў з работы старшыню Агародне-Гомельскага сельпо і прызначыў яго намеснікам старшыні сельпо. Факты грубага парушэння совецка-кааперацыйнай дэмакратыі ёсць і ў радзе іншых раёнаў, дзе райсаюзы ніяк не могуць зразумець, што пайнік з'яўляецца гаспадаром кааперацыі і што такія парушэнні нецярпімы.

Адрыў большасці сельпо ад сваіх пайнікаў, слабая работа рэвізійных камісій, нездавальняючая пастаноўка ўліку ў сельпо прывялі

к таму, што ў першым паўгоддзі 1936 года выяўлена растрат і раскрадванняў на суму 1.800.000 рублёў. Ёсць такія раёны, дзе ў засмечаных класава-чуждымі элементамі сельпо раскрадваюцца значныя сумы кааперацыйных сродкаў, а райсаюзы спакойна праходзяць міма гэтых агіднейшых фактаў.

Дый Белкаапсаюз зусім не рэагаваў на іх, не прыняў канкрэтных мер супроць вінаватых. Уся яго дзейнасць у галіне барацьбы з растратамі і раскрадваннем выразілася ў тым, што ён патрабаваў хуткага прадстаўлення балансаў і справаздач, не правяраючы нават, ці правільна яны складзены. А ёсць факты, што балансы складаліся райсаюзамі без дэталёвай праверкі каштоўнасцей. У гэтых раёнах праверкай выяўлены вялікія растраты. Смалявіцкі райсаюз увесь час атрымліваў прэміі за датэрміновае прадстаўленне балансаў. На справе-ж аказалася, што нават гадавы баланс быў прадстаўлен без фактычнай праверкі каштоўнасцей, а бухгалтар райзага шляхам падлогу прысвойваў кааперацыйныя сродкі. Такая-ж справа выяўлена ў Рагачоўскім райсаюзе.

Белкаапсаюз і окррайсаюзы не толькі не паклапаціліся аб падрыхтоўцы кадраў, але нават сарвалі мерапрыемствы па тэхвучобе. Існуючыя школы не нагружаны, бо окррайсаюзы не накіроўваюць работнікаў для перападрыхтоўкі.

Падмена канкрэтнага кіраўніцтва парадной шуміхай садзейнічала росту растрат і раскрадванняў. У Журавіцкім раёне толькі за першае поўгоддзе выяўлена растрат на 46 тысяч, у Горацкім—на 45 тысяч, у Дзержынскім—на 50 тысяч рублёў.

Спажыўкааперацыя БССР перавыканала поўгадавы план таваразвароту. Але ці значыць гэта, што ўсё ўжо зроблена для разгортвання і ўздыму тавараабароту, ці з'яўляюцца лічбы выканання плана падставай для здавальняючай ацэнкі работы спажыўкааперацыі? Для кожнага ясна, што не.

Крытэрыем з'яўляецца не толькі выкананне плана, але і якасныя паказчыкі работы—поўнае задавальненне патрэб спажыўца, уцягненне новых тавараў у тавараабарот, знішчэнне ўсіх тормазаў, якія штучна ствараюцца на шляху разгортвання тавараабароту.

На вялікі жаль, якасныя паказчыкі гандлёвай работы ігнараваліся як Белкаапсаюзам, так і большасцю окррайсаюзаў.

Промтаварны аддзел Белкаапсаюза замест таго, каб мабілізаваць кааперацыйныя арганізацыі на барацьбу за якасць тавараў, за выкананне дагавароў пастаўшчыкамі, за завоз неабходных тавараў, пашырэнне асартыменту і ўцягненне новых тавараў у тавараабарот, абмежаваў сваю дзейнасць складаннем разнарадак. На гатовае адзенне разнарадкі даваліся ў сумарным выражэнні, а асартымент устанаўляўся самімі работнікамі райсаюзаў. І нядзіўна, што ў Бярэзінскім раёне жаночы асартымент займае ўсяго 16%.

Промтаварны аддзел Белкаапсаюза аказаўся няздольным забяспечыць неабходны завоз прадуктовых тавараў, якіх багата ў нашай краіне. Быў рад выпадкаў, што аптовыя базы окррайсаюзаў не мелі гаспадарчага мыла, цукру-пяску і іншай дробнай бакалеі. Неабходна падкрэсліць, што міжрайбазы Белкаапсаюза пасля рашэння Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б) аб узмацненні раённага опту аслабілі сваю работу, амаль спынілі самазакупкі, не зразумеўшы, што з пераходам на аптовы гандаль звужаным асартыментам узмацняецца адказнасць і роля міжрайбаз. Раённы опт яшчэ не стаў арганізатарам гандлю. На сваіх складах не трымае нават тых тавараў, якія ўваходзяць у аба-

вязковы мінімум для рознічнай сеткі вёскі, усё яшчэ працягвае практыку закрытых размеркавальнікаў у аптовым гандлі, беспакарана навязвае рознічнай сетцы няходкія тавары нізкай якасці, складскую гаспадарку не прыстасаваў для разгортвання раённага опту.

У рашэнні СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29 верасня сказана:

«Зачыніць занадта дробныя крамы сельпо, якія гаспадарча не апраўдваюць сябе, забяспечыўшы ў астатніх крамах бесперабойны гандаль таварамі штодзеннага попыту (соль, цукар, газа, мыла, табак, кандзіцерскія вырабы, запалкі, іголкі, ніткі і т. д.)».

Тым часам спажыўкааперацыя БССР, выканаўшы дырэктыву аб зачыненні дробных крам, не забяспечыла бесперабойнага гандлю ў астатніх крамах. Да гэтага часу ў радзе крам сельпо (Халопенічы, Полацк, Заслаўль) няма солі, мукі, крупы, цукру, махоркі і іншых тавараў штодзённага попыту. Работнікі прылаўка, нават новаарганізаваных сельмагаў, парушаюць совецкую палітыку цэн. Многія крамы трымаюцца ў антысанітарным становішчы. Кіраўнікі большасці райсаюзаў (Халопеніцкага, Камарынскага, Заслаўскага) увесь свой час праводзяць у канцэлярыі, падмяняючы жывое кіраўніцтва паперкамі і цыркулярамі.

Фінансавая гаспадарка, якая адыгрывае вялікую ролю ў справе разгортвання тавараабароту, у большасці раёнаў запушчана. Дэбіторская запазычанасць не змяншаецца, а ўвесь час павялічваецца, дасягнуўшы сумы звыш 35 мільёнаў рублёў. Таварныя астаткі перавышаны супроць нарматыву на 26 мільёнаў рублёў. Не гледзячы на рашэнне ўрада, многія раёны (Шклоўскі і іншыя) укладваюць абаротныя сродкі ў будаўніцтва. Кіраўніцтва фінансавай гаспадаркай перадаверана выключна галоўбухам, самі-ж кіраўнікі райспажыўсаюза адарваны ад гэтай важнейшай справы. Па рашэнню ўрада кааперацыі павінны перайсці на новыя формы крэдытавання. Кіраўнікі окррайсаюзаў павінны памятаць, што непрынящце мер да скарачэння дэбіторскай запазычанасці і ўстанаўлення найстражэйшай фінансавай дысцыпліны можа прывесці да непажаданых вынікаў.

Сельскае спажывецкае таварыства павінна пабудаваць сваю загатоўчую работу, апіраючыся на грамадскіх загатоўшчыкаў у калгасах на ўмовах спецыяльнай аплаты. Неабходна адзначыць, што гэта дырэктыва поўнасцю не выканана. Грамадскія загатоўшчыкі ў патрэбнай колькасці не вылучаны. Удзельная вага сельпо ў загатоўках вырасла недастаткова. Кіраўніцтва загатовак Белкаапсаюза недаацаніла ролі сельпо, як амаль адзінай арганізацыі, якая купляе таварныя астаткі і адыходы. Загатоўкі ў большасці ідуць самацёкам.

Калгаснікі зацікаўлены ў такой арганізацыі загатовак, каб яны маглі своечасова атрымаць грошы за здадую імі прадукцыю. А тым часам мы маем факты несвоечасовай выплаты грошай за малако і іншыя віды загатовак.

Раённыя загатоўчыя канторы таксама не паклапаціліся аб тым, каб знізіць выдаткі на ўтрыманне свайго апарата, найлепшым чынам захаваць загатоўленую прадукцыю. Зусім недапушчальна, калі ў новай абстаноўцы, пры багацці тавараў і зніжэнні цэн, загатоўчы апарат працуе па-старому.

Буйнейшыя недахопы ў рабоце спажывецкай кааперацыі павінны быць безадкладна знішчаны. Партыя і ўрад у далейшым не пацерпяць такіх ганебных вынікаў.

Кааперацыйныя арганізацыі павінны падвесці вынікі сваёй работы,

праверыць, як выконваецца рашэнне ЦК ВКП(б) аб перабудове работы спажывецкай кааперацыі, сканцэнтраваць увагу на нявырашаных задачах. Праўленні сельскіх кааператываў разам з работнікамі прылаўка павінны адчытацца перад пайнікамі і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы для рашучага аздараўлення дзейнасці кожнай крамы сельпо.

Тав. Молатаў у сваёй гутарцы з работнікамі кааперацыі ўказаў, што дасягнутыя поспехі—толькі пачатак уздыму. Каб сапраўды ўзняць работу кааперацыі, неабходна далейшае развіццё стаханаўскага руху, умацаванне сувязі кааператыва з пайнікамі, смелая крытыка і самакрытыка недахопаў. А іх у нас яшчэ вельмі многа: няўменне добра гандляваць, грубасць, абважванне, аблічванне, растраты, раскрадванні; недобрасумленныя адносіны да пакупніка, баязнь тавараў, маруднасць, непаваротлівасць, балбатня і ныццё замест барацьбы за сапраўднае палепшанне савецка-кааперацыйнага гандлю на вёсцы.

Толькі апіраючыся на стаханаўцаў, выдатнікаў, перадавікоў савецкага гандлю, узначаліўшы кіраўніцтва стаханаўскім рухам, шырока разгарнуўшы сярод пайнікаў-спажыўцоў крытыку недахопаў нашай работы, мы зможам хутка палепшыць савецкі гандаль на вёсцы.

Па ініцыятыве лепшых, перадавых работнікаў многія кааперацыйныя арганізацыі рыхтуюцца адзначыць гадавіну рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб рабоце спажыўкааперацыі на вёсцы. Няма ніякага сумнення ў тым, што работнікі райспажыўсаюзаў, сельскіх спажывецкіх таварыстваў, натхнёныя жаданнем па-бальшэвіцку правесці ў жыццё ўказанні таварыша Сталіна, паставяць перад сабой канкрэтныя задачы і з гонарам іх выканаюць.

—

---

П. Андрэеў

# К падзеям у Іспаніі

Барацьба, якая ў даны момант разгортваецца ў Іспаніі,—гэта барацьба дэмакратычнай Іспаніі, фронту рэспубліканскіх і ліберальных сіл супроць чорнай рэакцыі фашызма, які імкнецца аднавіць у краіне рэжым тэрору і крывавага гвалту.

Іспанія адзіная з заходне-еўрапейскіх краін, дзе рэшткі феадалізма маюць вельмі глыбокія карэнні, дзе ўлада феадалаў, епіскапаў і папоў ціснула вялікім цяжарам на плечы працоўных мас горада і вёскі. Гэта краіна, перажыўшы ў мінулым стагоддзі рад бурных сялянскіх паўстанняў, масавых палітычных стачак і працяглых рэвалюцый, яшчэ і цяпер—у гады ўсеагульнага крызісу капіталізма—не вырашыла важнейшых задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Тлумачыцца гэта тым, што іспанская буржуазія, напалоханая магутнымі раскатамі пролетарскага руху, не давяла да канца буржуазнай рэвалюцыі і скацілася ў лагер рэакцыі, стаўшы контррэвалюцыйным класам, які ўвайшоў у саюз з феадаламі-памешчыкамі і інквізітарамі-папамі.

Буржуазная рэвалюцыя, якая ў іншых краінах, як, напрыклад, ва Францыі, адбылася больш сотні год назад, у Іспаніі разгортваецца толькі цяпер, **але пачалася ўжо як рэвалюцыя буржуазна-дэмакратычная.**

У гэтай рэвалюцыі іспанская буржуазія—так сама, як і ў рэвалюцыі 1905 г. руская буржуазія,—не магла быць асноўнай рухаючай сілай рэвалюцыі. Хоць гэта не мяняла буржуазнага характару рэвалюцыі. Перамога іспанскай буржуазнай рэвалюцыі (1931-1936) была немагчымай, як перамога буржуазіі па тых самых прычынах, на якія В. І. Ленін указаў яшчэ ў 1908 годзе, адзначаючы «асобы характар» рэвалюцыі 1905 года:

> «Перамога буржуазнай рэвалюцыі ў нас немагчыма, **як перамога буржуазіі.** Гэта здаецца парадаксальным, але гэта факт. Перавага сялянскага насельніцтва, страшэнная прыдаўленасць яго прыгонніцкім (напалову) буйным землеўладаннем, сіла і свядомасць арганізаванага ўжо ў соцыялістычную партыю пролетарыята,—усе гэтыя акалічнасці надаюць **нашай** буржуазнай рэвалюцыі **асобы** характар. Гэта асаблівасць не знішчае буржуазнага характару рэвалюцыі (як спрабавалі прадставіць справу Мартаў і Плеханаў у сваіх больш чым няўдалых заўвагах аб пазіцыі Каўцкага). Гэта асаблівасць абумоўлівае толькі контррэвалюцыйны характар нашай буржуазіі і неабходнасць дыктатуры пролетарыята і сялянства для перамогі ў такой рэвалюцыі. Бо

«кааліцыя пролетарыята і сялянства», якая атрымлівае **перамогу** ў буржуазнай рэволюцыі, і ёсць не што іншае, як рэволюцыйна-дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства» *).

Гэтыя палажэнні Леніна цалкам адпавядаюць сучасным падзеям у Іспаніі. Буйная буржуазія Іспаніі ў першыя-ж дні рэволюцыі скацілася ў лагер рэакцыі, і ажыццяўленне важнейшых задач буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, перш за ўсё вырашэнне аграрнага пытання, лягло на іспанскі рэволюцыйны пролетарыят і пад яго кіраўніцтвам на рэволюцыйнае сялянства. Такім чынам рухаючымі сіламі іспанскай рэволюцыі выступае пролетарыят, сялянства і гарадская дробная буржуазія.

Адыход буржуазіі ад рэволюцыі і пераход да метадаў фашызма супроць наспяваючай рэволюцыі знаменаваў сабою новы этап класавай барацьбы ў Іспаніі.

Узброенае выступленне астурыйскіх гарнякоў у кастрычніку 1934 г., хоць яно і скончылася паражэннем, унесла глыбокае замяшанне ў кіруючы лагер буржуазіі, мабілізавала дробную буржуазію супроць рэакцыйнага ўрада Хіль-Роблеса, узаконіўшага кампенсацыю за канфіскаваныя землі, і прабудзіла ўвесь народ на барацьбу супроць аб'яднаных сіл памешчыцка-папоўскага і буржуазнага блока, які ўжо фашызаваўся.

Кастрычніцкія падзеі (1934 г.) з'яўляліся адпраўным пунктам для ўздыму шырокіх мас працоўнага насельніцтва Іспаніі на барацьбу супроць рэакцыі. Урад Хіль-Роблеса, які часова адцясніў рэволюцыйныя сілы, сабатаваўшы рэволюцыйны раздзел зямлі і перагледзеўшы нават куцую буржуазную аграрную рэформу (у бок прызнання за грандамі права на кампенсацыю за канфіскаваныя землі), узняў супроць сябе ўсю дробную буржуазію, хістанні якой у час выбараў 1933 г. многа садзейнічалі ўмацаванню рэакцыі і яе прыходу да ўлады. Хіль Роблесу прышлося ісці ў адстаўку. Характэрным паказчыкам абвострання працэсу ўнутранай барацьбы паміж рэакцыйнымі і дэмакратычнымі сіламі краіны з'явіліся шэсць чарговых урадавых крызісаў, адбыўшыхся за адзін год пасля адстаўкі габінета Хіль-Роблеса. Гэты перыяд і знямяне сабой пачатак новай хвалі рэволюцыйнага ўздыму, якая пазней, у выніку паспяховага прымянення тактыкі народнага фронту, вылілася ў растучы антыфашысцкі рух, які прывёў да перамогі народнага антыфашысцкага блоку на парламенцкіх выбарах у пачатку 1936 года.

Новы размах барацьбы за дэмакратыю адкрыў новую старонку ў гісторыі Іспаніі. У краіне адбываюцца глыбокія класавыя зрухі, размежаванне ўсіх грамадскіх сіл у бойках, што разгортваюцца на палях і ў гарах Іспаніі.

З аднаго боку, групуюцца сілы рэакцыі—памешчыкі, буйнае духавенства, фінансавая і прамысловая буржуазія і ваеншчына, з другога,—сілы дэмакратыі—пролетарыят, сялянства, прыгнечаныя нацыянальнасці, дробная буржуазія, частка сярэдняй і перадавой інтэлігенцыі, г. зн. іспанскі народ, які ўжо выступае адзіным фронтам.

Новае ў гісторыі Іспаніі заключаецца ў тым, што ніколі яшчэ яе народы не былі так аднадушны, як зараз у сумеснай барацьбе супроць рэакцыі.

*) Ленін, т. XII, стар. 209.

Манархічная Іспанія, так сама як і былая царская Расія, была турмой народаў. Іспанскі манархічны ўрад сістэматычна прыгнечваў і знішчаў нацыянальныя пачуцці баскаў, каталонцаў і галісійцаў, знішчаў іх культуру, тармазіў развіццё прадукцыйных сіл, ператвараючы іх тэрыторыі ў калоніі іспанскай буржуазіі. Доўгія стагоддзі каталонцы, галісійцы і баскі былі аплотам каталіцкай царквы. Але, не гледзячы на гэта, нацыянальна-вызваленчая барацьба гэтых нацый ніколі не спынялася.

Каталонскі народ, які ненавідзеў прыгнятаўшых яго кастыльскіх памешчыкаў, не раз паўставаў супроць іх і іспанскай манархіі, крывёй і жалезам дабіваючыся сваёй незалежнасці. Аднак, на ўсіх этапах барацьбы, аж да нізлажэння манархіі, каталонскі народ свабоды не атрымаў. Ад першых буржуазных урадаў у 1931 г. каталонскі нацыянальны рух здолеў атрымаць толькі нязначныя самастойныя правы, якія к таму-ж паўтара гады назад былі адабраны рэакцыйным урадам Хіль-Роблеса. І вось толькі цяпер, пасля прыходу да ўлады ўрада Асанья, каталонцы, не чакаючы дэкрэту з Мадрыда, аднавілі сваю аўтаномію.

Толькі зараз, пасля прыходу да ўлады ўрада народнага антыфашысцкага фронту на чале з Кабальеро, раней прыгнечаныя нацыянальнасці атрымалі свае нацыянальнае роўнапраўе і гэтым самым упершыню ў гісторыі Іспаніі створаны неабходныя прадпасылкі для згуртавання ўсіх народаў дэмакратычнай Іспаніі. На вопыце Іспаніі многія прыгнечаныя фашызмам нацыянальнасці атрымалі наглядны довад таго, што свабода той ці іншай прыгнечанай нацыянальнасці ажыццяўляецца ў жорсткай бойцы з лютым ворагам чалавецтва—фашызмам. Вось чаму каталонцы, галісійцы і баскі мужна змагаюцца на ўсіх фронтах грамадзянскай вайны, бо разбіць на-галаву азвярэлых фашысцкіх мяцежнікаў азначае не толькі перамогу дэмакратыі, але і перамогу нацыянальнага роўнапраўя для раней прыгнечаных манархіяй і фашызмам нацыянальнасцей.

Увесь ход рэвалюцыйнай барацьбы іспанскага народу паставіў перад гэтымі маленькімі нацыямі праблему: або з народным фронтам і тады—нацыянальнае вызваленне, або з фашысцкай рэакцыяй і тады—нацыянальны гнёт і імперыялістычнае ярмо.

Пасля некаторых хістанняў, праяўленых у першыя дні барацьбы, выбар быў зроблен. Народы Каталоніі, Галісіі і Баскаў выступілі на баку дэмакратыі супроць фашызма.

Гэта з'яўляецца новай старонкай у гісторыі Іспаніі.

Барацьба за дэмакратыю ўнесла новае і ў гісторыю рабочага руху ў Іспаніі.

Да апошніх падзей іспанскі рабочы клас быў расколаты ў асноўным на тры лагеры. У той час, як у іншых заходніх імперыялістычных краінах рабочыя расколаты на два лагеры—рэфармісцкі і рэвалюцыйны, у Іспаніі з самага пачатку рабочага руху стварыўся трэці: анарха-сіндыкалісцкая арганізацыя, якая заўсёды карысталася моцным уплывам. Раскол рабочага руху ў Іспаніі,—а ён дае сябе адчуваць да таго-ж і тэрытарыяльна, паколькі соцыял-дэмакраты, анархісты і камуністы маюць свае базы ў розных раёнах,—быў заўсёды галоўнай перашкодай да аб'яднання барацьбы сельскагаспадарчых рабочых і сялян з барацьбой прамысловага пролетарыята.

Гэта расколатасць заўсёды была прычынай слабасці і неарганізаванасці пролетарыята. Цяпер, у дні цяжкіх іспытаў, рабочыя ўсіх

партый і ўсіх пераконанняў, аб'яднаныя агульнай ідэяй барацьбы супроць фашысцкага мракабесся, усведамляюць, што адзінства дзеянняў і адзінства сілы—адзіны шлях да перамогі.

Да гэтага належыць дадаць, што комуністычная партыя Іспаніі, прарабіўшая вялікую работу па згуртаванню сіл рабочага класа, сама стала **важным палітычным фактарам** ва ўсім жыцці краіны.

Компартыя Іспаніі першай зрабіла вывады з тых недахопаў рэволюцыйнага руху, якія абумовілі паражэнне пролетарыята ў кастрычніку 1934 г.: адсутнасць саюза паміж пролетарыятам і сялянствам і ўнутраны арганізацыйны раскол у рабочым класе. Толькі стварэнне адзінага пролетарскага фронту, як асноўнага арганізацыйнага стрыжня ў справе стварэння антыфашысцкага фронту знішчае гэтыя недахопы і забяспечвае паспяховую барацьбу з фашызмам. Гэту арганізацыйную работу комуністы Іспаніі з поспехам выконваюць, згуртоўваючы вакол сябе лепшыя, адданыя справе рэволюцыі кадры пролетарыята.

Не таптаючыся на месцы, а прыстасоўваючы сваю палітыку да патрэб моманту, компартыя першай ставіць пытанне аб тым, каб народны фронт пашыраў сваю праграму, уключыўшы ў яе патрабаванні аб дармовай канфіскацыі зямлі дваранства і духавенства. Комуністы лічылі, што тады народны фронт з прадвыбарнага блоку, якім ён быў у пачатку, перарасце ў сапраўдны орган барацьбы за мэты буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі.

Усю сваю дзейнасць компартыя Іспаніі падпарадквае задачам сённешняга дня: давядзенне да канца буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, разгром фашысцкіх мяцежнікаў, забяспечанне нацыянальнай незалежнасці і цэласнасці краіны, ліквідацыя перажыткаў сярэдневякоўя, адсталасці і бескультур'я.

Было-б, зразумела, няправільна думаць, што выбарчая перамога, атрыманая іспанскім народам у лютым гэтага года, азначае перамогу рэволюцыі.

Стаўшы на чале ўлады, урад Асанья не з'яўляўся урадам народнага фронту, ён быў толькі лева-буржуазным урадам, які соцыял-дэмакраты і комуністы падтрымлівалі, паколькі ён абавязаўся выконваць праграму народнага фронту. Яго рэволюцыйнасць лепш за ўсё вызначыў сам прэм'ер Асанья:

«Перад кампаніяй (выбарчай—П. А.) мы выстаўлялі мінімальную праграму рэформы, мы будзем яе трымацца. Я хачу кіраваць у згодзе з законам. Ніякіх небяспечных ноўшаств аў. Мы хочам соцыяльнага міру і парадку, мы ўмераны» (інтэрв'ю Асанья французскай газеце «Пары-суар»).

Аднак левабуржуазны ўрад Асанья, апіраючыся на народны антыфашысцкі фронт, прымушан быў пад напорам велізарнейшага размаху рэволюцыйнай барацьбы працоўных ажыццявіць большасць патрабаванняў народнага фронту. Адразу пасля прыходу ўрада Асанья да ўлады компартыя Іспаніі ўказвала масам, што толькі іх самастойная барацьба можа прымусіць урад ажыццявіць асноўныя патрабаванні народнага фронту. І пад напорам узнімаючагася масавага руху былі адноўлены свабода сходаў і стачак; адменены феадальныя падаткі, левым комунальным кіраўніцтвам былі звернуты іх правы; капіталісты былі абавязаны прыняць назад зволеных рабочых, якія прымалі ўдзел

у кастрычніцкіх бойках у Астурыі, і кампенсаваць іх у размеры шасцімесячнай зарплаты; адноўлена аўтаномія Каталоніі, некалькі дзесяткаў тысяч сялян атрымалі зямлю, здабытую імі ў памешчыкаў, а затым узаконеную за імі ўрадам.

Прыхільнікі фашызма пацярпелі паражэнне, але яны не адмовіліся ад барацьбы, бо буржуазія сваіх пазіцый без бою не здае. Як толькі рэволюцыя пачала ўрывацца ў «свяшчэнныя правы» панаваўшых да гэтага часу класаў, памешчыцка-папоўскі буржуазны блок пачаў аказваць шалёнае супраціўленне ўраду і народнаму фронту. Урад праявіў няўпэўненасць і хістанні. Але сіла рэволюцыйнага ўздыму, рост аўтарытэту і ўплыву народнага фронту ў радах працоўных мас прымусілі Асанья паступова лявець і ўзяць курс на больш рашучую палітыку правядзення ў жыццё выбарчай праграмы народнага фронту і прымянення дзяржаўнай улады супроць тых фашысцкіх колаў, якія спрабавалі ўплываць на рэволюцыю ўзброенымі наскокамі на рабочых і іх арганізацыі.

Правакацыйныя тэрарыстычныя акты супроць прыхільнікаў народнага фронту былі зласесным прадзнаменаваннем фашысцкага мяцежу. Фашысты прыспешана падрыхтоўвалі ваенны пераварот пад кіраўніцтвам банды крывапіўцаў-генералаў, каб аднačасовым ударам па ўсёй краіне прыкончыць рэспубліку. Сілы фашысцкай рэакцыі ў арміі падбіраліся і расстаўляліся яшчэ тады, калі на чале ваеннага міністэрства стаяў новаяўлены фашыст Хіль-Роблес, а яго верным паплечнікам і першым памочнікам быў кат рабочых—генерал Франко.

Кампартыя Іспаніі вуснамі сваіх лепшых прадстаўнікоў—Даларэс Ібаруры (Пасіонарія) і Хосэ Дыас не раз папярэджвалі соцыялістаў і левых рэспубліканцаў аб надыходзячай небяспецы і неабходнасці прыняць больш тэрміновыя і суровыя меры супроць парушальнікіаў дэмакратычных законаў, патрабуючы арышту фашысцкіх главароў і ў першую чаргу генерала Франко.

Аднак, лева-буржуазныя групы і частка соцыялістаў меркавалі, што раз перамог выбарчы бюлетэнь, то можна ўжо перайсці да мірнай парламенцкай работы, тым больш што парламенцкая фашысцкая апазіцыя аслаблена ў выбарах і здольна толькі на гульню ў апазіцыю. На самай-жа справе парламенцкая гульня фашыстаў была толькі сродкам, маскуючым падрыхтоўку новага ўдару па рэспубліцы.

У той час, як адна частка рэакцыйнай буржуазіі працягвала разыгрываць у парламенце сваю гнусную двурушніцкую ролю, другая частка паспешна заканчвала выпрацоўку планаў мяцежу супроць рэспубліканскага ўрада. На чале змовы ваенна-фашысцкі лагер ставіць генерала Санхурхо, стаўленіка Берліна. Генерал Санхурхо групуе вакол сябе ад'яўленых контррэволюцыянераў—фашыстаў: Кальва-Сотэло, былога шэфа жандараў генерала Мола, мільянера-аферыста Хуана Марча і інш. Аднак Санхурхо не дажыў да больш ганебных сваіх дзён. Па дарозе ў Іспанію ён загінуў у час паветранай катастрофы. Кіраўніцтва мяцежам перашло ў рукі фашысцакага генерала Францішко Франко. Пасля перамогі партыі народнага фронту на іспанскіх парламенцкіх выбарах, у лютым г.г. Франко рашае нарэшце, што прышоў час дзейнічаць. Ён далучаецца да тых, каго іспанская буржуа-

зія паставіла на чале мяцежу, разам з імі распрацоўвае планы, а пасля смерці генерала Санхурхо робіцца фактычным кіраўніком ваеннага мяцежу.

* * *

Барацьба пачалася. Іспанскія фашысты, здрадніцкі аўладаўшы ваенным апаратам краіны, паднялі мяцеж супроць дэмакратыі, супроць законнага іспанскага ўрада. Больш таго, як цяпер выявілася, іспанская рэакцыя, паўстаўшы ў імя захавання сваіх прывілеяў і феадальных кланаў, аказалася ў цеснай сувязі з усім сусветным фашызмам. Аказалася, што натхнялі і падбухторвалі гэты мяцеж сілы, якія знаходзіліся далёка за межамі Іспаніі. Барацьба іспанскага народу за свае дэмакратычныя правы ў сувязі з гэтым раптам набыла зусім новы і нечаканы адценак.

> «Гэта барацьба ў сучасны момант набывае характар міжнароднага канфлікту паміж фашысцкімі і антыфашысцкімі сіламі» (Андрэ-Марці, журн. «Коминтерн» № 14).

Іспанскія мяцежнікі былі-б даўно пабіты большасцю іспанскага народу—рабочых, сялян і інтэлігенцыі, але «за імі стаіць сусветная рэакцыя. Гітлер і Мусаліні снабжаюць іх зброяй. Рэакцыйная прэса ўсяго свету паносіць законны мадрыдскі ўрад, іспанскі народ, іспанскіх антыфашыстаў і выхваляе да нябёс генералаў-бандытаў і забойц. Справа Іспаніі стала, такім чынам, справай міжнароднай барацьбы паміж фашызмам і антыфашызмам, паміж самым цёмным, сярэдневяковым варварствам і прагрэсам, паміж сіламі вайны і сіламі міру, паміж фашысцкай тыраніяй і дэмакратыяй, паміж рэакцыйным загніваннем і цывілізацыяй» (з прамовы тав. Готвальда на мітынгу ў Празе).

Іспанскія фашысты, не спадзеючыся на свае слабыя сілы і пазбаўленыя не толькі падтрымання, але нават і якіх-колечы адзнак сімпатыі ў насельніцтва, мелі аднак цвёрдыя абяцанні наконт дапамогі з боку Гітлера і Мусаліні, абяцаючы ім за гэта плату часткамі іспанскай тэрыторыі. Гэтым самым пытанне ўнутранай барацьбы было перанесена за межы геаграфічных граніц Іспаніі і набыло самае актуальнае міжнароднае значэнне.

Грозныя прызнакі перарастання гэтага пытання ў пытанне агульнаеўрапейскага канфлікту выяўляюцца таксама і ў тым, што іспанскія фашысты, яшчэ не прышоўшы да ўлады, заявілі, што ў выпадку перамогі яны будуць усімі сіламі падтрымліваць палітыку вайны, якую праводзіць германскі фашызм.

Неабвяржымымі фактамі ўстаноўлена, што фашысцкія мяцежнікі атрымліваюць ваенную дапамогу Германіі і Італіі. Актыўна ўмешваючыся ва ўзброеную барацьбу іспанскага ўрада і іспанскага народу, кожная з гэтых фашысцкіх дзяржаў праследуе свае ўласныя імперыялісцкія мэты.

Фашысцкая Германія аказвае ваенную дапамогу мяцежнікам, пасылаючы не толькі танкі і самалёты, але вопытных афіцэраў і лётчыкаў. Яна разлічвае ў выпадку перамогі мяцежнікаў атрымаць магчымасць акружыць Францыю з берагоў Іспаніі і аказаць націск на французскі ўрад у сэнсе адмаўлення ад праводзімай ім мірнай знешняй палітыкі. Атрымаўшы канкрэтныя абяцанні ад фашысцкіх мяцежнікаў наконт расчлянення Іспаніі і іспанскага Марокко, караблі галоўнага падпаль-

шчыка вайны ў Еўропе, высланыя ў іспанскія воды нібыта з мэтай абароны інтарэсаў германскіх падданых, разгружаюць штодзенна на берагах Іспаніі і Партугаліі велізарныя транспарты зброі і боепрыпасаў. А фашысцкая Італія, зацікаўленая ў сваю чаргу ў заваёве не толькі новых калоній у іспанскім Марокко, але таксама і ў захопе Балеарскіх астравоў, праследуе мэту акружэння англійскага сярoдземна-морскага флоту з усходняга боку Сярoдземнага мора. Такія планы фашысцкіх агрэсарскіх краін, арганізаваўшых інтэрвенцыю супроць іспанскага народу.

Аб сапраўдных мэтах цяперашняй экспедыцыі двух нямецкіх эскадр да берагоў Іспаніі і Марокко, германскі ўрад пакуль што лічыць за лепшае адмоўчвацца. Аднак, у мараканскай зоне ўжо і раней наглядаліся прошукі фашысцкай Германіі (абсталяванне порта Лас-Пальмас). На Канарскіх астравах таксама ёсць спецыяльная германская сакрэтная агентура, у абавязак якой уваходзіць арганізацыя на выпадак вайны перашкод пры перакіданні французскай арміі з яе афрыканскіх калоній на еўрапейскія ваенныя тэатры. У гэтым святле маўчанне Германіі даволі красамоўна гаворыць само за сябе. Праводзячы інтэрвенцыю супроць іспанскага народу, германскі фашызм імкнецца да захопу апорных пунктаў ў іспанскім Марокко ці на Балеарскіх астравах з тым, каб потым пагрозамі дабівацца тэрытарыяльнай кампенсацыі калоній і палітычных уступак у Еўропе. У ваенна-стратэгічным значэнні гэта з'яўляецца прамой пагрозай Францыі, асноўная частка ваенных кадраў якой знаходзіцца ў яе афрыканскіх уладаннях. А, з другога боку, у выпадку перамогі іспанскіх мяцежнікаў, Францыі прышлося-б і на сваёй паўднёвай граніцы (Франка-іспанскай) ужыць адпаведныя ваенныя меры. Так, напрыклад, прадстаўнікі германскай фашысцкай партыі, дагаварваючыся перад пачаткам мяцежу з лідэрам іспанскіх фашыстаў генералам Франко аб дапамозе мяцежнікам, выходзілі з таго, што фашысцкая Іспанія адцягвала-б не менш 4 французскіх карпусоў да іспанскай граніцы і паставіла-б пад пагрозу шляхі зносін паміж Францыяй і Паўночнай Афрыкай у выпадку германа-французскай вайны.

Афіцыёз чэхаславацкага ўрада «Прагер прэсэ», каментуючы падзеі ў Іспаніі, указвае, што перамога мяцежнікаў змяніла-б стратэгічнае становішча і ў Сярoдземным моры. «Магутнасць іспанскага флота,— піша гэта газета,—нельга параўнаць з магутнасцю флотаў Францыі і Італіі. Але на сваім усходнім узбярэжжы Іспанія мае рад выдатных партоў, якія прадстаўляюць для любога флота вялікую каштоўнасць. Іспанія мае ў сваім распараджэнні Балеарскі архіпелаг, стратэгічнае значэнне якога нельга пераменшаць. Ауладанне Балеарскім архіпелагам у выпадку вайны зусім змяніла-б суадносіны сіл заходняй часткі Сярoдземнага мора. Роўным чынам і для Гібралтарскага праліва рашаючае значэнне мае пазіцыя Іспаніі. Дзякуючы сучасным узбраенням і авіяцыі, Гібралтар перастаў ужо быць тым абсалютным ключом да Сярoдземнага мора, якім ён быў раней. Доступ да Сярoдземнага мора можна таксама добра кантраляваць з Алхесіраса, з Сеуты, або Мелілы. Калі-б у час сусветнай вайны Германія магла карыстацца іспанскімі партамі, як апорнымі пунктамі, то ваенныя аперацыі краін Антанты былі-б надзвычайна затруднены».

Акалічнасці, пры якіх адбываецца цяпер новае імкненне германскага імперыялізма да берагоў Афрыкі, ва многім адметны ад даваенных. Іспанскія фашысты—здраднікі свайго народу—нядорага просяць за кавалкі сваёй тэрыторыі. Італія выступае рука ў руку з імперы-

ялістычнай Германіяй. Вялікабрытанія, якая некалі прымушала адступаць свайго саперніка, зараз не праяўляе асаблівых жаданняў процідзейнічаць агрэсіі германскага фашызма. Усё гэта толькі ўзмацняе фашысцкую Германію і паскарае набліжэнне вайны.

Такім чынам, з'яўленне германскіх ваенных караблёў каля берагоў Іспаніі і іспанскага Марокко пагражае не толькі свабодзе і незалежнасці іспанскага народу, але і справе ўсеагульнага міру.

Гераічная барацьба іспанскага народу супроць фашызма—гэта барацьба не толькі за сваю свабоду, але і барацьба за мір. Удар па фашысцкіх мяцежніках ёсць разам з тым удар па імперыялістычных планах чорнага і карычневага фашызма. Вось чаму ўсе прыяцелі міру так горача жадаюць поспеху народнаму фронту ў Іспаніі.

Абурэнне і пратэсты супроць ўмяшання ў справу Іспаніі, што пракаціліся шырокаю хваляй па дэмакратычных краінах, не маглі не аказаць уплыву на знешнюю палітыку іх урадаў. Занепакоены к таму-ж сапраўдным сэнсам інтэрвенцыі фашысцкіх дзяржаў у справы Іспаніі, рад дзяржаў далучыўся да дэкларацыі французскага ўрада аб захаванні ў адносінах Іспаніі агульных норм неўмяшання.

Аднак, далучэнне да гэтай дэкларацыі значнай колькасці дзяржаў практычных вынікаў яшчэ не дало і наўрад ці дасць у хуткім часе, бо пакт не прадугледжвае якіх-небудзь канкрэтных гарантый яго выканання. Факты, апублікаваныя ў «Белай кнізе» іспанскага ўрада і заява прадстаўніка Савецкага Саюза тав. Кагана ад 7 кастрычніка гавораць аб тым, што Германія, Італія і Партугалія працягваюць безупынна дапамагаць мяцежнікам зброяй і людзьмі.

Тлумачыцца гэта не толькі наяўнасцю складанейшых нявырашаных супярэчнасцей паміж удзельнікамі пакта, але таксама і ўнутрыпалітычнай барацьбой, што адбываецца ў кожнай, паасобку ўзятай, капіталістычнай краіне, якая з'яўляецца ўдзельнікам гэтага пакта.

Туманная і няясная пазіцыя англійскага ўрада, занятая ім на апошнім пленуме Лігі нацый у іспанскім пытанні, гаворыць перш за ўсё аб тым, што класавыя сімпатыі англійскай буржуазіі не на баку іспанскіх працоўных, якія са зброяй у руках змагаюцца супроць фашызма.

У друк пранікалі даныя аб тым, што пэўныя і вельмі ўплывовыя англійскія колы імкнуліся аказаць даўленне на ўрад, патрабуючы ад яго прамога падтрымання мяцежнікаў. Гэта тыя-ж самыя колы, якія заўсёды выступалі супроць ідэй міру і калектыўнай безапаснасці і заўсёды стаялі за згоду з фашысцкімі агрэсарамі.

Дэкларацыю французскага ўрада аб неўмяшанні ў іспанскія справы сустрэла ў штыкі таксама і ўласная кансерватыўная фашысцкая буржуазія. Звышпаспешнае апублікаванне некаторымі кансерватыўнымі органамі друку ваенных планаў мяцежу пацвярджае падазроную асведамленасць гэтых газет. А спачувальныя каментарыі гавораць аб тым, што французская рэакцыя моцна звязана з фашысцкім рухам па той бок Пірынеяў і што па прыкладу сваіх іспанскіх пабрацімцаў яна імкнецца да таго, каб прыняць аналагічную дыверсію супроць свайго ўласнага ўрада.

Вось што піша з гэтага поваду манархічны орган «Кандзід»: «Калі ва Францыі нам прыдзецца падвяргацца тыраніі народнага фронту да таго часу, пакуль прыдзе канец цярпенню і не пачнецца паўстанне,—дзе сказана, што вызваленчы рух не прыйдзе да нас з Паўночнай Афрыкі?

У той-жа час генерал-губернатар французскага Марокко субсідуе генерала Франко сумамі ў 500.000 франкаў з дзяржаўных сродкаў

Францыі, наладжвае яму сустрэчу з прадстаўнікамі французскага рэакцыйнага друку і т. д.

Падобная кампанія французскіх фашыстаў не мае, безумоўна, іншай мэты, акрамя той, каб даць повад Гітлеру, якога ён к таму-ж чакае, для інтэрвенцыі.

З гэтага пункту погляду не выклікае сумнення, што гітлераўская Германія, працягваючы свае шчупальцы да афрыканскіх калоній, будуе свае разлікі на дапамозе таксама французскіх рэакцыянераў і прытым на той-жа падставе, з якой яна выступае і ў іспанскіх справах.

Совецкі Саюз з самага пачатку фашысцкага мяцежу стаяў на пункце погляду прымянення дзейсных мер супроць фашысцкіх мяцежнікаў, абвясціўшых вайну законнаму мадрыдскаму ўраду. У сваім выступленні на пленуме Лігі нацый тав. Літвінаў выказаў пункт погляду Совецкага ўрада па пытанню аб неўмяшанні ў справы Іспаніі. Тав. Літвінаў заявіў, што неўмяшанне ў справы Іспаніі няўмесна, калі супроць законнага народнага мадрыдскага ўрада выступаюць азвярэлыя фашысцкія мяцежнікі. Толькі Совецкі Саюз указаў, што неўмяшанне ў справы Іспаніі было па сутнасці трагічным фарсам, які пераатвярыўся ў небяспечнае ярмо для іспанскай рэспублікі.

Але калі па ініцыятыве французскага ўрада было прапанавана пагадненне аб неўмяшанні, Совецкі Саюз падпісаў гэта пагадненне. СССР, як аплот міру, імкнецца знішчыць малейшыя повады, якія маглі-б узмацніць ваенную пагрозу. Пагадненне аб неўмяшанні было таксама падпісана Германіяй і Італіяй. Але ў адрозненне ад Совецкага Саюза, які лаяльна выконвае ўзятыя на сябе абавязацельствы, фашысцкія агрэсарскія краіны пад прыкрыццём падпісанага імі пагаднення аб неўмяшанні прадаўжалі і прадаўжаюць аказваць ваенную дапамогу фашысцкім мяцежнікам. Вось чаму Совецкі Саюз заявіў у камітэце па пытанню аб неўмяшанні ў справы Іспаніі, што раз Германія і Італія парушылі пагадненне, яно страціла ўсякі сэнс, яно перастала існаваць. І калі Германія, Італія і Партугалія будуць у далейшым аказваць ваенную дапамогу мяцежнікам, Совецкі ўрад будзе лічыць сябе свабодным ад абавязацельстваў, якія выцякаюць з пагаднення аб неўмяшанні.

Як сапраўдны аплот міру, СССР ставіць пытанне аб неўмяшанні, прама, без абіняковў, заяўляючы, што не прыгожымі словамі і фразамі, а толькі канкрэтнымі дзеяннямі трэба пакончыць з інтэрвенцыяй фашысцкіх агрэсарскіх краін у Іспаніі. Тыя краіны, якія хочуць акружыць гнусныя справы фашысцкіх агрэсараў у Іспаніі змовай маўчання, аказваюць ім, па сутнасці, садзейнасць і капітулююць перад інтэрвентамі.

* * *

Зараз насоўваюцца рашаючыя бойкі на мадрыдскім фронце паміж сіламі рэспублікі і мяцежнікамі. Не гледзячы на паасобныя паражэнні ўрадавых войск і перавагу мяцежнікаў ва ўзбраенні, працоўныя Іспаніі будуць біцца да апошняй каплі крыві, адстойваючы сэрца дэмакратычнай рэспублікі, цэнтр свабоды і дэмакратыі—Мадрыд. Працоўныя Іспаніі прыкладуць усе намаганні для таго, каб сілы дэмакратыі перамаглі над азвярэлымі ворагамі гераічнага іспанскага народу, бо яны ведаюць, што на іх баку—міжнародная дэмакратыя, на іх баку

мільёны працоўных, усё лепшае, перадавое і прагрэсіўнае чалавецтва. Увесь 170-мільённы совецкі народ, аказваючы пасільную дапамогу прадуктамі харчавання гераічнаму іспанскаму народу, вітае яго барацьбу супроць фашысцкіх мяцежнікаў і ад душы жадае яму перамогі над чорнымі сіламі фашызма. Працоўныя Совецкага Саюза

> «... аддаюць сабе адказ, што вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць прыватная справа іспанцаў, а—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва».

У гэтых вялікіх сталінскіх словах, накіраваных да гераічнага іспанскага народу, заключаецца глыбокі гістарычны сэнс барацьбы іспанскага народу. Ад гэтага часу яны стануць сцягам і баявым лозунгам для мільёнаў, якія выступілі і змагаюцца з чорнымі сіламі рэакцыі і прыгнечання.

---

# РЭЗАЛЮЦЫІ ПЛЕНУМА ЦК КП(б)Б І ПАСТАНОВЫ БЮРО ЦК КП(б)Б

## Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б аб выніках абмену партдакументаў у КП(б) Беларусі

Праверка і абмен партыйных дакументаў, праведзеныя па ініцыятыве і пры непасрэдным штодзенным кіраўніцтве таварыша **Сталіна**, з'яўляецца буйнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, спрыяючым ачышчэнню нашых партыйных радоў ад контррэвалюцыйных класава-чуждых і варожых элементаў і забяспечыўшым далейшае павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці і боездольнасці партыйных арганізацый.

Скарыстоўваючы багацейшы вопыт праверкі партыйных дакументаў, партарганізацыі КП(б)Б у перыяд абмену партыйных дакументаў правялі работу па далейшаму выкрыццю і ачышчэнню партыйных радоў ад замаскаваных контррэвалюцыйных трацкістаў, белагвардзейскіх элементаў і людзей, выпадкова папаўшых у партыю.

У рэзультаце абмену партыйных дакументаў у партарганізацыях КП(б)Б павысілася палітычная актыўнасць камуністаў, палепшылася партыйна-арганізацыйная і выхаваўчая работа, паднялася ідэйная ўзброенасць камуніста.

У працэсе абмену партыйных дакументаў у партарганізацыях КП(б)Б былі выяўлены новыя рэзервы вырасшых, правераных, актыўных большэвікоў, якія заставаліся раней непрымечанымі.

Адным з важнейшых вынікаў абмену партыйных дакументаў пленум ЦК КП(б)Б лічыць, што партарганізацыі КП(б)Б у асноўным перамаглі існаваўшую да гэтага часу арганізацыйную распушчанасць і ўвядзеннем новага ўчоту навялі большэвіцкі парадак ва ўласным партыйным доме.

Абмен партыйных дакументаў спрыяў далейшаму разгортванню большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, мабілізацыі партыйных арганізацый на барацьбу з элементамі самасупакоенасці, рэшткамі мяшчанства і дробнабуржуазнай расхлябанасцю.

З абмену партыйных дакументаў КП(б)Б вышла значна ўмацаванай і як ніколі згуртаванай вакол ЦК ВКП(б) і любімага правадыра таварыша Сталіна.

Разам з тым, пленум ЦК КП(б)Б перасцерагае ўсю партыйную арганізацыю, кожнага камуніста, на якім-бы ён участку ні працаваў, што іменна цяпер, калі наша партыя дабілася нябачаных поспехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, малейшая самасупакоенасць, малейшае зазнайства дасягнутымі поспехамі наносіць непапраўвімую шкоду для справы партыі, справы будаўніцтва соцыялізма.

Большэвікі Беларусі, працуючыя на рубяжы з капіталістычным Захадам, ні на адну мінуту не павінны забываць геніяльнага папярэджання таварыша Сталіна, зробленага ім яшчэ ў 1933 г., што «рост

магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў... Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Правільнасць гэтага геніяльнага папярэджання таварыша **Сталіна** знайшла сваё яркае пацвярджэнне ў працэсе над контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай бандай.

Працэс паказаў, што контррэволюцыйнае фашысцкае адроддзе ў сваёй гнуснай барацьбе супроць дыктатуры пролетарыята, супроць перамагаючага соцыялізма, выконваючы соцыяльны заказ рэштак разгромленых контррэволюцыйных груп унутры нашай краіны і заклятых ворагаў совецкай улады ў капіталістычным свеце, імкнулася, не гнушаючыся ніякімі сродкамі, дарвацца да ўлады і павесці нашу краіну па шляху капіталізма, прадаць совецкі народ фашысцкай буржуазіі.

Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім партыйным арганізацыям КП(б)Б, што з гэтага папярэджання таварыша **Сталіна** партарганізацыі КП(б)Б не зрабілі яшчэ ўсіх неабходных вывадаў.

Абмен партыйных дакументаў паказаў, што рад партыйных арганізацый КП(б)Б (партарганізацыя газеты «Звязда», Белдзяржвыдавецтва, дэпо Віцебск і рад іншых) замест мабілізацыі комуністаў на далейшае павышэнне рэволюцыйнай пільнасці і выкрыццё контррэволюцыйных трацкісцкіх і варожых элементаў, замест выхавання комуністаў у духу большэвіцкай непрымірымасці да ворагаў Партыі, пасля праверкі партыйных дакументаў самасупакоіліся і праявілі гніла-ліберальныя адносіны да ворагаў Партыі.

Партыйныя арганізацыі забылі неаднаразовыя ўказанні нашай Партыі, што асноўная ўмова нашых далейшых перамог—гэта ўменне большэвіка не зазнавацца, не захапляцца дасягнутымі поспехамі, а заўсёды павышаць пільнасць і актыўнасць партыйных арганізацый і кожнага комуніста паасобку.

У выніку недастатковай большэвіцкай барацьбы з элементамі благадушнасці, самасупакоенасці, у выніку ратазейства раду кіраўнікоў партыйных арганізацый контррэволюцыйным трацкістам і іх пасобнікам удалося ў радзе партыйных арганізацый (Бабруйск, Гомель, Віцебск, Менск) атрымаць новыя партыйныя білеты, і яны былі выкрыты і выгнаны з партыі пасля атрымання імі новых партыйных дакументаў.

Асабліва яркія факты страты рэволюцыйнай пільнасці і гніла-ліберальных адносін да прамых ворагаў Партыі былі ўскрыты ў менскай партарганізацыі, дзе ў партарганізацыях «Звязды» і ДВБ контррэволюцыйнаму трацкісцкаму адроддзю не толькі ўдавалася заставацца доўгі час нявыкрытымі (Розенблюм), але некаторым з іх (Мілоў, Жукаў і інш.) удалося нават атрымаць новыя партбілеты.

Гэтыя факты маглі мець месца толькі з-за таго, што ў радзе партарганізацый Менска крытыка і самакрытыка знаходзяцца яшчэ на нізкім узроўні, няма большэвіцкай барацьбы з самасупакоенасцю і

што як гаркомы, так і райкомы не забяспечылі аператыўнага і канкрэтнага кіраўніцтва пярвічнымі партарганізацыямі.

Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае, што гэтыя факты, меўшыя месца ў менскай партыйнай арганізацыі, павінны паслужыць сур'ёзным урокам і перасцярогай для ўсёй КП(б)Б.

Пленум ЦК КП(б)Б ухваляе прынятыя Бюро ЦК КП(б)Б практычныя мерапрыемствы па ўмацаванню партарганізацый «Звязды» і ДВБ.

У працэсе абмену партыйных дакументаў была ўскрыта значная засмечанасць чуждымі і варожымі людзьмі кадраў друку. Гэта сведчыць аб тым, што партарганізацыі КП(б)Б не зрабілі неабходных вывадаў з неаднаразовых папярэджанняў ЦК КП(б)Б аб тым, што класавы вораг усімі сродкамі спрабуе пралезці на ўчастак ідэалагічнага фронту і весці там сваю контррэволюцыйную работу. Партарганізацыі КП(б)Б не выканалі ўказання ЦК КП(б)Б аб неабходнасці дакладнай праверкі, уважлівага і сур'ёзнага падбору кадраў друку.

Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім партыйным арганізацыям КП(б)Б, што гэтыя факты сведчаць аб тым, што рад партыйных арганізацый і іх кіраўнікі не выкарысталі да канца ўрокаў з праверкі партыйных дакументаў і ўказання снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што «увесь вопыт праверкі партыйных дакументаў паказаў важнейшае значэнне ўказанняў Партыі аб тым, што класавы вораг па меры росту нашых поспехаў прыбягае да найбольш ізашчроных метадаў барацьбы, скарыстоўваючы для гэтага, у першую чаргу, апартуністычную благадушнасць і ратазейства комуністаў».

Пленум ЦК КП(б)Б з асаблівай сілай падкрэслівае, што да комуністаў, працуючых у пагранічнай партыйнай арганізацыі, Партыя прад'яўляе асабліва высокія патрабаванні.

У нашай партыйнай арганізацыі больш, чым дзе-б там ні было, малейшая самасупакоенасць і зазнайства, малейшыя элементы благадушнасці, мяшчанскай расхлябанасці і ратазейства з'яўляюцца прамым злачынствам перад Партыяй, бо яны аблягчаюць класаваму ворагу падрываць магутнасць і абароназдольнасць нашай соцыялістычнай радзімы.

У працэсе абмену партыйных дакументаў у радзе партыйных арганізацый КП(б)Б былі ўскрыты факты агульных, небольшэвіцкіх адносін да членаў Партыі, калі з Партыі выключаліся без дакладнай і сур'ёзнай праверкі, без дастатковых падстаў. Факты перастрахоўкі некаторых партыйных арганізацый у такой важнейшай справе, як рашэнне пытання аб партыйнасці, сведчаць аб тым, што паасобныя партыйныя арганізацыі большэвіцкую барацьбу за выкрыццё контррэволюцыйных трацкісцкіх і іншых варожых элементаў, за павышэнне пільнасці падмяняюць паказной пільнасцю, чым, па сутнасці, раззбройваюць партыйныя арганізацыі ў іх барацьбе з сапраўднымі ворагамі Партыі.

Партыйныя арганізацыі КП(б)Б павінны павесці рашучую барацьбу са спробамі паасобных комуністаў—кіруючых работнікаў і нават партыйных арганізацый—падмяніць упартую штодзенную работу па павышэнню рэволюцыйнай пільнасці і боездольнасці траскучымі фразамі, рэзалюцыямі і паказной пільнасцю. Партыйныя арганізацыі КП(б)Б ні на адну мінуту не павінны забываць, што рэволюцыйная пільнасць, як гэтаму вучаць нас ЦК ВКП(б) і таварыш **Сталін,** у першую чаргу і галоўным чынам азначае канкрэтнае вывучэнне і веданне людзей: нястомная крапатлівая работа кожнай партыйнай арганізацыі па ідэйнаму ўзброенню комуніста, далейшае ўмацаванне сувязі кому-

ністаў з беспартыйнымі масамі, ператварэнне статута Партыі ў аснову жыцця партарганізацыі.

Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім партарганізацыям КП(б)Б, што рашаючай умовай уздыму рэвалюцыйнай пільнасці з'яўляецца шырокае разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, накіраванай супроць гнілога лібералізма, беспрынцыпнасці, мяшчанства, сямейнасці; між тым, у радзе партыйных арганізацый большэвіцкая крытыка і самакрытыка знаходзяцца яшчэ на нізкім узроўні, ёсць факты зажыму самакрытыкі, сямейнасці і кругавой парукі.

Пленума ЦК КП(б)Б звярачае ўвагу ўсёй КП(б)Б, што толькі зрабіўшы ўсе неабходныя вывады з неаднаразовых папярэджанняў таварыша **Сталіна** аб павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці, рашуча разгарнуўшы большэвіцкую крытыку і самакрытыку, партарганізацыі КП(б)Б забяспечаць далейшае ўмацаванне партыйных радоў, уздым партыйнаарганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва і даб'юцца новых поспехаў у барацьбе за пабудову бяскласавага грамадства.

У якасці практычных мерапрыемстваў пленум ЦК КП(б)Б прапануе партыйным арганізацыям правесці наступнае:

## I. У галіне партыйна-арганізацыйнай работы і вырошчвання партыйных кадраў

1. Пленум ЦК КП(б)Б падкрэслівае, што пасля абмену партыйных дакументаў ёсць некаторае паслабленне кіраўніцтва членамі і кандыдатамі Партыі.

У радзе партыйных арганізацый пасля абмену партыйных дакументаў непасрэднае штодзеннае абшчэнне кіруючых партыйных работнікаў і партапарата з комуністам, гутаркі сакратароў РК з комуністамі, выезды кіруючых работнікаў у пярвічныя партыйныя арганізацыі, уважлівае вывучэнне прапаноў комуністаў падмяняюцца агульным неканкрэтным кіраўніцтвам. Гэта з'яўляецца прамым рэзультатам таго, што кіруючыя партыйныя работнікі КП(б)Б і партыйны апарат не разумеюць таго, што ўмацаванне сувязі кіруючых партыйных органаў (пярвічная партарганізацыя, райком, акругком) з комуністам, дасягнутае ў перыяд праверкі і абмену партыйных дакументаў,— з'яўляецца сур'ёзнейшай заваёвай Партыі, за замацаванне і далейшае развіццё якой павінна змагацца ўся наша партыйная арганізацыя.

Даручыць усім партыйным арганізацыям на працягу верасня—кастрычніка праверыць выкананне ўсіх рашэнняў АК, ГК, РК і пярвічных партыйных арганізацый па выніках праверкі і абмену партыйных дакументаў, а таксама прапановы, унесеныя комуністамі па палепшанню арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы, абмеркаваць вынікі праверкі на спецыяльных партыйных сходах, пленумах АК, ГК і РК і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па далейшаму разгортванню партыйна-арганізацыйнай і выхаваўчай работы.

2. Пленум ЦК КП(б)Б лічыць работу партыйных арганізацый КП(б)Б па вырошчванню і вылучэнню кадраў, асабліва беларускіх, усё яшчэ нездавальняючай. Абавязаць АК, ГК, і РК неадкладна стварыць рэзерв з найбольш праявіўшых сябе комуністаў, арганізаваўшы з рэзервам спецыяльную работу па іх выхаванню і далейшаму росту. Партыйныя арганізацыі павінны ў сваёй рабоце з рэзервам забяспечыць, побач з павышэннем іх тэарэтычнага ўзроўню, уцягненне

рэзерву ў практычную штодзенную работу райкома і пярвічнай партыйнай арганізацыі шляхам дачы ім канкрэтных партыйных даручэнняў, дапамогі ім у выкананні гэтых даручэнняў і кантролю за іх выкананнем.

Абавязаць АК, ГК і РК ужо ў кастрычніку арганізаваць ва ўсіх раёнах трохмесячныя курсы сакратароў парткомаў і парторгаў без адрыву ад вытворчасці, уключыўшы ў якасці слухачоў гэтых курсаў таксама найбольш праявіўшых сябе комуністаў з партыйнага актыва. Кіраўніцтва гэтымі курсамі ў раёнах ускласці на першых сакратароў ГК, РК. У праграму курсаў уключыць цыкл лекцый па важнейшых палітычных пытаннях і пытаннях партыйнага будаўніцтва.

Пленум ЦК указвае ўсім партыйным арганізацыям, што важнейшай задачай партыйных арганізацый з'яўляецца сістэматычная ўпартая работа па вырошчванню і больш рашучаму вылучэнню і прасоўванню на кіруючую работу правераных кадраў з беларусаў. Гарадскія партыйныя арганізацыі (Менск, Віцебск, Гомель, Орша, Бабруйск, Барысаў, Магілеў) у выкананні гэтай важнейшай задачы павінны заняць асобае месца, разгарнуўшы работу такім чынам, каб ужо ў бліжэйшы час падрыхтаваць для вылучэння на кіруючую работу ў раёны рэспублікі правераныя, вырасшыя большэвіцкія кадры з беларусаў.

Адзначыць, што створаныя пры Віцебскім, Менскім, Гомельскім гаркомах і Магілеўскім райкоме аддзелы партыйных кадраў, на якіх партыяй ускладзена спецыяльная задача разгортвання работы па выхаванню і вырошчванню партыйных кадраў, яшчэ дрэнна спраўляюцца са сваёй работай, а гаркомы не ўстанавілі штодзеннага кантролю за іх работай. Даручыць указаным гаркомам і райкому на бліжэйшых пленумах ГК заслухаць справаздачы загадчыкаў аддзеламі партыйных кадраў, вызначыўшы мерапрыемствы па палепшанню іх работы. Лічыць неабходным на адным з пленумаў ЦК КП(б)Б заслухаць справаздачу загадчыка аддзелам парткадраў Менскага гаркома.

3. Прыняць да ведама паведамленне Бюро ЦК КП(б)Б, што учот комуністаў, згодна інструкцыі, зацверджанай Оргбюро ЦК ВКП(б) уведзен ва ўсіх райкомах і гаркомах КП(б)Б. Пленум ЦК КП(б)Б звярачае ўвагу ўсёй партыйнай арганізацыі на тое, што ўвядзенне новага ўчоту комуністаў з'яўляецца важнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое забяспечыць ліквідацыю хаосу і злачыннай расхлябанасці і беспарадку ў партыйный гаспадарцы. Важнейшай задачай партыйных арганізацый КП(б)Б з'яўляецца далейшая рашучая барацьба з арганізацыйнай распушчанасцю. Партарганізацыі КП(б)Б абавязаны зрабіць усе неабходныя вывады з указання ЦК ВКП(б), што «партыйныя работнікі забылі традыцыі большэвізма», калі лепшыя арганізатары партыі асабіста займаліся крапатлівай арганізацыйнай работай, вывучалі склад арганізацыі, самі правяралі выдачу партыйных дакументаў, уваходзілі ва ўсе дэталі «партыйнай тэхнікі». Пленум ЦК абавязвае ўсіх сакратароў ГК і РК асабіста займацца партыйным учотам і забяспечыць дакладнае выкананне ўсіх пунктаў інструкцыі па пастаноўцы ўчоту. Пленум даручае Бюро ЦК устанавіць пастаянны кантроль за дакладным выкананнем інструкцыі па пастаноўцы новага ўчоту і прыцягнуць кожнага парушаючага інструкцыю ЦК ВКП(б) па пастаноўцы новага ўчоту да найстражэйшай партыйнай адказнасці.

## ІІ. У галіне най прапаганды і палітычнай агітацыі

1. Галоўнейшым недахопам у рабоце сеткі партыйнай асветы пленум ЦК КП(б)Б лічыць усё яшчэ нізкую якасць работы школ і гурткоў, слабую паспяховасць слухачоў, адцягненасць, акадэмізм у выкладанні гісторыі партыі і недастатковы тэарэтычны ўзровень прапагандысцкіх кадраў. Усе гэтыя сур'ёзнейшыя недахопы ў такой важнейшай справе, як марксісцка-ленінскае выхаванне камуністаў, з'яўляюцца прамым вынікам таго, што кіруючыя партыйныя кадры (сакратары АК, ГК і РК, сакратары парткомаў, парторгі) усё яшчэ не ўзяліся за канкрэтнае штодзеннае кіраўніцтва гэтым важнейшым участкам партыйнай работы, не ўваходзяць ва ўсе дэталі работы кожнай школы і гуртка, не гаворачы ўжо аб рабоце ў гуртку кожнага комуніста. Прапагандысцкімі кадрамі, якія рашаюць пытанні якасці вучобы, сакратары РК займаюцца зусім недастаткова. За работай прапагандыстаў не ўстаноўлен штодзенны кантроль, ім аказваецца зусім недастатковая дапамога ў тэарэтычным росце. Большасць райкомаў падышла фармальна да камплектавання сеткі партыйнай асветы, арганізаваўшы партыйныя школы і гурткі не па ўзроўню падрыхтоўкі комуністаў, а па тэрытарыяльнаму прызнаку.

Пленум ЦК КП(б)Б лічыць зусім правільным указанне ЦК ВКП(б) аб нездавальняючым становішчы курсаў перападрыхтоўкі прапагандыстаў у Беларусі, а таксама адсутнасці з боку ЦК КП(б)Б сістэматычнага кіраўніцтва курсамі. Пленум лічыць правільным рашэнне ЦК ВКП(б) аб аслабаненні ад работы загадчыка аддзелам партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б т. Коніка.

Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад сакратароў АК, ГК і РК неадкладна знішчыць сур'ёзныя недахопы ў рабоце сеткі партыйнай асветы, асабіста ўзяць у свае рукі кіраўніцтва гэтым важнейшым участкам работы і дабіцца ў бліжэйшы час карэннага палепшання ўсёй сістэмы марксісцка-ленінскага выхавання комуніста. Абавязаць РК на працягу кастрычніка—лістапада праверыць работу ўсіх гурткоў і школ і па кожнай школе намеціць канкрэтныя практычныя мерапрыемствы па павышэнню якасці вучобы. Даручыць сакратарам райкомаў не радзей двух разоў у месяц збіраць прапагандыстаў раёна і інфармаваць іх па важнейшых партыйна-палітычных пытаннях. Лічыць неабходным у кастрычніку сабраць усебеларускую нараду загадчыкаў райпартгабінетамі для вызначэння канкрэтных мерапрыемстваў па перабудове работы райпартгабінета ў напрамку дапамогі прапагандысту.

2. Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім партыйным арганізацыям на нездавальняючую пастаноўку палітычнай агітацыі ў раёнах. Галоўнейшым недахопам у гэтай рабоце з'яўляецца тое, што важнейшыя рашэнні Партыі і Ўрада недастаткова хутка даводзяцца і растлумачваюцца шырокім масам працоўных. Палітбяседчыкі, агітатары, чытчыкі газет з-за недастатковай падрыхтаванасці не ўмеюць растлумачваць шырокім масам працоўных усіх мерапрыемстваў Партыі і совецкай улады, гераізм лепшых людзей нашай радзімы недастаткова папулярызуецца. Недахопы нашай работы ў галіне палітычнай агітацыі скарыстоўваюцца класавым ворагам, які растлумачвае мерапрыемствы Партыі і совецкай улады «па-свойму», групуючы вакол сябе адсталыя элементы.

Абавязаць райкомы неадкладна правесці неабходныя практычныя мерапрыемствы па палепшанню палітычнай агітацыі, маючы на ўвазе,

што правільна пастаўленая палітычная агітацыя ўмацоўвае сувязь Партыі з шырокімі масамі працоўных, згуртоўвае працоўныя масы вакол Партыі, спрыяе росту беспартыйнага актыва і актывізацыі працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве. Абавязаць РК арганізаваць сістэматычную работу з палітбяседчыкамі, чытчыкамі газет, агітатарамі, забяспечыўшы іх падрыхтоўку і сістэматычную іх інфармацыю аб важнейшых мерапрыемствах Партыі і Ўрада. Даручыць Бюро ЦК КП(б)Б намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па палепшанню пастаноўкі палітычнай агітацыі з боку ГК і РК КП(б)Б.

### III. У галіне падрыхтоўкі да новага прыёму ў партыю

1. Пленум ЦК КП(б)Б указвае партыйным арганізацыям на ўсё яшчэ нездавальняючую работу па падрыхтоўцы да новага прыёму ў партыю.

Не гледзячы на тое, што ў апошні час у прамысловасці, транспарце і сельскай гаспадарцы вырас беспартыйны актыў, які паказаў на справе сваю беззаветную адданасць партыі, не гледзячы на імкненне гэтага актыва са стаханаўцаў, ударнікаў, совецкай інтэлігенцыі ўступіць у групу спачуваючых, мы маем па КП(б)Б зусім недастатковы рост спачуваючых (за паўгоддзе 1936 г. прынята ў спачуваючыя 2.213 чал.). Гэта тлумачыцца ў першую чаргу тым, што партыйныя арганізацыі КП(б)Б па-большэвіцку не ўзяліся за ажыццяўленне дырэктыў XVII з'езда партыі і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б, недастаткова звязаны з беспартыйным актывам, яшчэ дрэнна ведаюць вырасшых непартыйных большэвікоў і недастаткова з імі працуюць. Побач з гэтым у радзе партыйных арганізацый ёсць факты фармальных, несур'ёзных адносін да прыёму ў спачуваючыя, што скарыстоўваецца класавым ворагам, якому з-за ратазейства камуністаў удаецца пралезці ў групы спачуваючых. Абмен ускрыў факты грубага парушэння статута Партыі пры прыёме ў спачуваючыя, калі ў спачуваючыя прымаліся без рэкамендацый, без зацвярджання парткомаў. Учот спачуваючых пастаўлен з рук вон дрэнна. Побач з нездавальняючай работай партыйных арганізацый па ўцягванню ў групы спачуваючых правераных людзей з беспартыйнага актыва застаецца таксама нездавальняючай работа па выхаванню спачуваючых, іх ідэйнаму ўзброенню і ўцягненню ў штодзенную работу партыйных арганізацый. Пленум ЦК КП(б)Б лічыць няправільным, што партыйныя арганізацыі абмяжоўваюць сваю работу са спачуваючымі ўключэннем іх у сетку партыйнай асветы. Побач з партыйнай вучобай спачуваючага, вывучэннем ім гісторыі, праграмы і статута партыі, дапамогай спачуваючаму ў аўладанні марксісцка-ленінскай тэорыяй, важнейшай задачай у рабоце са спачуваючымі з'яўляюцца штодзенныя крапатлівыя клопаты партыйных арганізацый па выхаванню спачуваючага ў духу большэвіцкіх традыцый арганізаванасці і дысцыпліны. Гэтага ўдасца дабіцца толькі ў тым выпадку, калі спачуваючы будзе ўцягнут у практычную работу партыйных арганізацый, калі сярод спачуваючых будзе забяспечана кваліфікаваная ідэйна-палітычная работа.

Абавязаць АК, ГК і РК КП(б)Б неадкладна знішчыць сур'ёзныя недахопы, якія ёсць у рабоце са спачуваючымі, праверыць работу ўсіх пярвічных партарганізацый з пункту погляду захавання імі статута Партыі пры прыёме ў спачуваючыя, прыцягваючы да найстра-

жэйшай партыйнай адказнасці ўсіх парушаючых статут Партыі. Даручыць РК на працягу кастрычніка наладзіць учот спачуваючых як у пярвічных партыйных арганізацыях, так і ў самім РК.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае АК, ГК і РК КП(б)Б увесці ў практыку работы РК і пярвічных партарганізацый дачу канкрэтных партыйных даручэнняў спачуваючым, аказваючы ім штодзенную дапамогу ў выкананні партыйных даручэнняў. Лічыць няправільным, што па віне пярвічных партарганізацый не ўсе спачуваючыя прыцягваюцца на адкрытыя партыйныя сходы, якія з'яўляюцца важнейшай школай большэвіцкага выхавання спачуваючых.

Абавязаць ГК і РК КП(б)Б устанавіць такі парадак склікання партыйных сходаў, пры якім спачуваючыя абавязкова прымалі-б удзел на адкрытых партыйных сходах.

2. Галоўнейшай задачай партыйных арганізацый КП(б)Б у галіне работы з кандыдатамі Партыі, пленум ЦК КП(б)Б лічыць падрыхтоўку кандыдатаў да пераводу іх у члены Партыі. АК, ГК і РК КП(б)Б павінны неадкладна праверыць работу ўсіх пярвічных партыйных арганізацый з пункту погляду таго, як яны забяспечылі падрыхтоўку кожнага кандыдата Партыі для пераводу яго ў члены Партыі. РК і ГК КП(б)Б павінны распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па аказанню ўсямернай дапамогі кандыдату ў яго палітычным росце, засваенні ім статута і праграмы Партыі, дапамагчы кандыдату ўключыцца ў актыўны ўдзел у палітычным жыцці Партыі і краіны.

Пленум ЦК КП(б)Б указвае ўсім партыйным арганізацыям на тое, што пры разглядзе апеляцый выключаных з партыі ў час праверкі і абмену партдакументаў па КП(б)Б быў ускрыты рад зусім недапушчальных фактаў, калі адданыя інтарэсам Партыі, нічым не зганіўшыя сябе камуністы выключаліся з Партыі па матывах палітычнай непадрыхтаванасці і недастатковай актыўнасці. У катэгорыю выключаных з Партыі па матывах палітычнай непадрыхтаванасці і недастатковай актыўнасці папалі, галоўным чынам, кандыдаты Партыі. Гэтыя факты сведчаць аб тым, што рад партыйных арганізацый КП(б)Б сваю віну за нездавальняючую работу з кандыдатам Партыі спрабавалі выключэннем яго з Партыі зваліць на кандыдата Партыі. З гэтых фактаў партарганізацыі КП(б)Б павінны зрабіць усе неабходныя вывады, дабіўшыся таго, каб штодзеннай крапатлівай работай партыйнай арганізацыі дапамагчы кожнаму кандыдату ў яго рабоце над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага росту, забяспечыўшы яго актыўны ўдзел у палітычным жыцці Партыі і краіны.

3. Пленум ЦК КП(б)Б указвае партыйным арганізацыям КП(б)Б на тое, што імі ўсё яшчэ аказваецца недастатковая дапамога комсамолу ў яго рабоце над выхаваннем і вырошчваннем комсамольскіх кадраў. Работай комсамола РК і ГК займаюцца ад выпадку да выпадку. Райкомы недастаткова дапамагаюць комсамольскім арганізацыям у падборы кіруючых кадраў.

У працэсе праверкі і абмену было ўскрыта, што варожым элементам, з-за недастатковай пільнасці партыйных і комсамольскіх арганізацый, удалося прабрацца на кіруючую комсамольскую работу, і яны былі выкрыты толькі ў працэсе праверкі і абмену партдакументаў (Пухавіцкі, Плешчаніцкі РК і інш.).

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі палепшыць кіраўніцтва і аказаць усямерную дапамогу комсамольскім арганізацыям у іх рабоце па выхаванню моладзі. РК і ГК павінны дапа-

магчы комсамолу лепшымі, праверанымі прапагандыстамі, агітатарамі, бяседчыкамі, прыцягваць комсамольскі актыў на адкрытыя партыйныя сходы, наблізіць комсамольскі актыў да работы партыйных арганізацый.

Партыйныя арганізацыі павінны работу па ідэйна-палітычнаму выхаванню комсамола, павышэнню рэволюцыйнай пільнасці ў комсамоле, яшчэ большаму яго згуртаванню вакол партыі паставіць у цэнтры сваёй работы.

* * *

Рашуча ачысціўшы свае рады ад контррэволюцыйных трацкісцкіх і іншых варожых элементаў, КП(б)Б з праверкі і абмену партыйных дакументаў выйшла ўмацаванай. Узнялася пільнасць і павысілася боездольнасць партыйных арганізацый, умацавалася партыйная дысцыпліна. КП(б)Б у рэзультаце праверкі навучылася распазнаваць і выкрываць ворагаў і накапіла багаты вопыт работы па выхаванню і вырошчванню партыйных кадраў. КП(б)Б, згуртаваўшыся вакол ЦК ВКП(б) і правадыра Партыі, **вялікага Сталіна**, будзе яшчэ больш умацоўваць свае рады і беззаветна змагацца за вялікую справу **Леніна—Сталіна.**

# Аб становішчы пярвічнай партарганізацыі Рудзенскай МТС, Смілавіцкага раёна

***Пастанова бюро ЦК КП(б)Б***

Праведзенай праверкай сельгасаддзелам ЦК устаноўлена зусім нездавальняючая пастаноўка партыйнай работы ў пярвічнай партарганізацыі Рудзенскай МТС. Партсходы ў МТС на працягу канца 1935 і ў бягучым годзе праводзіліся рэдка і ў большасці сваёй фармальна. На партсходах не абмяркоўваліся такія важнейшыя мерапрыемствы, як кіраўніцтва соцспаборніцтвам, ударніцтвам і стаханаўскім рухам, вывучэнне праекта сталінскай Канстытуцыі, пытанні партыйнай прапаганды і агітацыі, індывідуальныя справаздачы комуністаў і т. д. Зусім не арганізавана палітвыхаваўчая работа беспартыйнага актыва, няма групы спачуваючых.

Нам. дырэктара Рудзенскай МТС па палітчастцы,—ён-жа парторг МТС т. Гарэлік замест сур'ёзнай работы па скалачванню партарганізацыі, штодзеннага разгортвання крытыкі і самакрытыкі, падняцця ідэйнага выхавання комуністаў і павышэння іх рэволюцыйнай пільнасці ўзняў беспрынцыпную склоку з дырэктарам МТС Замскім.

Праводзімы 9 жніўня г. г. сход комуністаў МТС, дзе абмяркоўвалася такое важнае палітычнае пытанне, як перадавы артыкул «Праўды»—«Умець распазнаваць ворага», т. Гарэлік і Замскі ператварылі ў беспрынцыпную грызню паміж сабой, чым па сутнасці змазалі на гэтым сходзе палітычную астрату пытання барацьбы партыі з трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай бандай.

У выніку ўсяго гэтага Смілавіцкая МТС адстае па ўсіх работах.

Тав. Гарэлік, будучы на перападрыхтоўцы ў радах РСЧА, праявіў сябе няўстойлівым комуністам пры абмеркаванні пытання аб судзе над контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай бандай, за што камандаваннем часці аслабанён ад прахаджэння лагернага збору ў РСЧА.

Улічваючы ўсё гэта, ЦК лічыць немагчымым застаўленне Гарэліка на рабоце намесніка дырэктара па палітчастцы і парторга МТС і пастанаўляе зняць яго з работы, як неапраўдаўшага давер'я партыі. Прасіць ЦК ВКП(б) зацвердзіць данае рашэнне.

Увесь матар'ял аб антыпартыйных паводзінах Гарэліка перадаць на разгляд Смілавіцкага РК КП(б)Б.

Бюро ЦК лічыць зусім нецярпімым, што ў практыцы кіраўніцтва работай МТС з боку дырэктара МТС Замскага праяўляецца недапушчальная грубасць да людзей, бюракратызм і верхаглядства ў адносінах калгасаў. Тав. Замскі не ўлічыў, не гледзячы на зробленае ўжо яму папярэджанне ад ЦК, што ў сваёй рабоце ён павінен усямерна апірацца на партарганізацыю МТС, не зразумеў, што МТС з'яўляецца арганізуючым цэнтрам калгаснай вытворчасці.

ЦК абвяшчае тав. Замскаму суровую вымову і папярэджвае яго, што ў выпадку малейшага праяўлення ў далейшым з яго боку фактаў саноўна-барскіх адносін да калгасаў, грубасці і склок у МТС ён будзе адхілен ад работы і паставіць сябе па-за радамі партыі.

ЦК лічыць, што з боку Смілавіцкага райкома партыі зусім недастаткова звярачалася ўвагі і дапамогі партарганізацыі МТС у рабоце намесніка дырэктара па палітчастцы. РК не прыняў своечасовых мер да спынення склокі ўнутры кіраўніцтва МТС і не аказаў усямернай дапамогі да разгортвання партыйна-масавай работы ў МТС.

ЦК абавязвае РК партыі ўзмацніць кіраўніцтва ўнутрыпартыйнай работай у партарганізацыях МТС, звярнуўшы асаблівую ўвагу на пытанне ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў МТС, узмацнення іх палітычнай пільнасці, падняцця вытворчай актыўнасці і ролі комуніста, як важака беспартыйных рабочых і трактарыстаў МТС. ЦК абавязвае партарганізацыю МТС у надыходзячы зімні перыяд разгарнуць работу па арганізацыі курсаў перападрыхтоўкі трактарыстаў, узмацнення іх агратэхнічных ведаў і культурнага ўзроўню з тым, каб падрыхтаваць сапраўды свядомыя і кваліфікаваныя кадры.

ЦК рэкамендуе Смілавіцкаму РК у канцы сезонных работ МТС сабраць нараду комуністаў калгасаў, абслугоўваемых МТС, разам з партарганізацыяй МТС для абмену вопытам партыйна-масавай работы, абмеркавання вынікаў работы трактарных атрадаў, скарыстання машын і далейшага ўкаранення машын у сельскую гаспадарку раёна.

Даручыць сельгасаддзелу ЦК і Наркамзему БССР праверыць праз тры месяцы работу Рудзенскай МТС і далажыць бюро ЦК аб выкананні данага рашэння.



## ПАПРАЎКА

У № 8 журнала „Большэвік Беларусі" за 1936 год на 11 стар. укралася памылка. 5—9 радкі першага абзаца трэба чытаць:

„Герой Совецкага Саюза тав. Леванеўскі са штурманам тав. Леўчэнка завяршылі выдатны 19.000-кілометровы пералёт Лос-Анжэлос (Амерыка)—Масква, адкрыўшы гэтым самым паветраную паўночную трасу паміж трыма сухазем'ямі: Амерыкай, Азіяй і Еўропай. Герой Совецкага Саюза тав. Молакаў закончыў 26.000-кілометровы арктычны пералёт".

Уп. Галоўлітбела № П—5013.
Тыраж 8.427.
214.720 друк. зн. (4 арк.)
Здана ў набор 10/X—36 г.
Падпісана да друку 25/X—36 г.

*Рэдкалегія* { Д. Конік, Г. Рубінштэйн
*Пам. адказнага рэдактара* Г. Стырнэ

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 1096.

На стар. 59, у першым радку зверху пры друкаванні выпалі тры літары. Трэба чытаць: **У галіне партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі.**

